ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

4 красавіка 1997 г. № 14/3890 Кошт 3 000 руб.





Вобразы беларускага замежжа

# Івонка СУРВІЛА

Яе самабытны талент належыць не толькі Канадзе, дзе доўгі час жыве мастачка. Бо на палотнах і графічных аркушах — святло Бацькаўшчыны. У Беларусі Івонку Сурвілу ведаюць яшчэ і як сябра дзяцей. Канадскі дабрачынны Чарнобыльскі фонд, якім кіруе наша зямлячка, штогод запрашае на адпачынак сотні маленькіх беларусаў.

**Анатоль КЛЯШЧУК**



## ШКОЛА ДЗЁН

***Па сутнасці, на гэтым тыдні адбылася адна падзея — падпісанне ў Маскве дагавора аб пераўтварэнні супольніцтва Расіі і Беларусі ў саюз дзвюх дзяржаў. Усе астатнія — так ці інакш звязаны з ёю. Інфармацыя пра тое, што адбывалася і што ўрэшце адбылося ў Маскве 2 красавіка 1997 года, даходзіла да Беларусі самая супярэчлівая. Як і ацэнкі прадстаўнікоў розных палітычных сіл. Не варта, вядома, рабіць паспешлівыя высновы: адным паддавацца тлумнаму палону адчаю і песімізму, а другім — святкаваць перамогу. На кароткім пасляперабудоўчым веку шмат было заключана розных саюзаў, ад якіх звычайна гісторыі заставаліся толькі назвы. На нашых вачах саюз пятнаццаці перäтварыўся ў садружнасць дванаццаці, якая ў сваю чаргу — у супольнасць чатырох, а цяпер вось — дзвюх дзяржаў... Дык ці не стане чарговы "шлюб" толькі лагічным працягам "цывілізаванага разводу"?.. Сёння сітуацыя закручваецца настолькі сур'ёзна, што мала хто можа ўпэўнена назваць гэтае пытанне рытарычным.***

### ФАКТ ТЫДНЯ

Шумнага свята з біццём бакалаў і песнямі падчас падпісання Статута аб утварэнні Саюза Расіі і Беларусі ў Маскве 2 красавіка не атрымалася. Цырымонія прайшла стрымана. Разрэкламаваны саюзны дагавор у працэсе яго "шліфоўкі і даводкі" быў скарочаны з 17 старонак да 3 і практычна ператварыўся ў дагавор аб намерах. Цяпер да 15 траўня народы Беларусі і Расіі з дапамогай журналістаў будуць глыбока вывучаць, шырока абмяркоўваць, дапаўняць і ўдакладняць падпісаныя дакументы. Чаму так сталася, чаму ўсё ж не былі падпісаны адзіны дагавор раз і назаўсёды? Гэта якраз тое, што дае беларускім незалежнікам надзею і адначасова нішчыць яе канчаткова. Відавочна, Расія вырашыла не афішаваць шырока факт свайго супрацоўніцтва з кіраўніцтвам Беларусі, стаўленне да якога ў США і Заходняй Еўропе як да дыктатарскага, а правесці далучэнне Беларусі ціха і няспешна.

### ПРАТЭСТЫ ТЫДНЯ

Факт аб'яднання дзвюх дзяржаў у новы Саюз быў успрыняты і ў Беларусі, і ў Расіі неадназначна. Апазіцыя і тут і там правяла пікетаванні пасольстваў у знак пратэсту. І там, і тут былі яны жорстка разагнаны... Прычым, што дзіўна, — нават у дэмакратычнай Маскве была прыменена сіла да тых, хто выйшаў выказаць свой пратэст супраць такой інтэграцыі... У Мінску масавыя акцыі пратэсту, арганізаваныя апазіцыйнымі рухамі, адбыліся 1 і 2 красавіка. Зноў не абышлося без сутычак мітынгоўшчыкаў і міліцыі. Прычым жорсткасць з абодвух бакоў нарастае: колькасць збітых дэманстрантаў і параненых міліцыянераў павялічваецца.

### РЭЗАНАНС ТЫДНЯ

Падпісанне "саюзнага дагавора" паміж Расіяй і Беларуссю выклікала неадназначную рэакцыю ў свеце і сярод нашых бліжэйшых суседзяў. Прэзідэнт Украіны Л. Кучма сказаў, што любыя пагадненні ўнутры СНД вядуць адно да развалу Садружнасці. Прыбалтыйскія палітыкі сцвярджаюць, што пасля "яднання" Беларусі і Расіі дзяржавы, якія акружаюць Расію, будуць яшчэ настойлівей імкнуцца да збліжэння з заходнімі дэмакратыямі. "Вольны свет" яшчэ больш вольны і, адпаведна, больш жорсткі ў сваіх ацэнках новага саюза.

### АД'ЕЗД ТЫДНЯ

Карэспандэнта расійскага тэлеканала НТВ Аляксандра Ступнікава беларускія ўлады спачатку пазбавілі акрэдытацыі, а потым загадалі яму да 1 красавіка пакінуць тэрыторыю Беларусі. Прычына: "дзейнасць кіраўніка расійскай тэлекампаніі НТВ у Мінску падрывае атмасферу давер'я, добрасуседства і дружалюбнага характару адносін, якія склаліся паміж Беларуссю і Расіяй". 31 сакавіка А. Ступнікаў вымушаны быў пакінуць Беларусь. Правесці яго на мінскі вакзал прыйшло да 150 чалавек — журналістаў, сяброў. Жонка і дзяці А. Ступнікава засталіся ў Мінску.

### НАМЕР ТЫДНЯ

На прэс-канферэнцыі, арганізаванай кіраўніцтвам БНФ напярэдадні акцыі пратэсту супраць аб'яднання з Расіяй, было абвешчана, што лідэр БНФ Зянон Пазняк, які цяпер знаходзіцца ў Летуве, у хуткім часе павінен вярнуцца на Беларусь. Гэтую інфармацыю пацвердзіў на мітынгу 2 красавіка в.а. старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. Адной з прычын прыняцця З. Пазняком рашэння аб вяртанні, як піша "Свабода", стала спыненне беларускай пракуратурай крымінальнай справы "па фактах парушэння грамадскага парадку ў Мінску 24 сакавіка і 26 красавіка 1996 года". Пра тое, ці вернецца на радзіму жонка З. Пазняка, не паведамляецца. Відаць, не, бо, мяркуючы па словах прэзідэнта Беларусі на прэс-канферэнцыі ў Маскве, цяпер менавіта на яе кволыя плечы ляжа ўвесь цяжар "інфармацыйнай вайны супраць Беларусі"...

### АКЦЫЯ ТЫДНЯ

Партыя камуністаў беларуская (Новікава-Калякіна) 27 сакавіка, у дзень агульнарасійскіх страйкаў і дэманстрацый, правяла ў Мінску збор сродкаў для падтрымкі расійскіх рабочых, якія па паўгода і больш не атрымліваюць заробку. Беларускія рабочыя дзяліліся сваімі "зайцамі" з братамі па класе не дужа ахвотна.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"У савецкія часы Беларусь аддавала ў бюджэт Саюза два мільярды долараў. Мы не былі датацыйным рэгіёнам СССР і ніколі ні ў кога не былі нахлебнікамі. І не будзем сёння. Нас адзінаццаць мільёнаў, і мы сябе заўсёды пракормім... Добра, давайце палічым. У мінулым годзе Беларусь завінавацілася Расіі 200 мільёнаў долараў, а Расія нам, па мінімальных падліках, 860 мільёнаў. Дык на чыю карысць атрымліваецца розніца?"

*(З адказаў прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі на пытанні расійскіх і замежных карэспандэнтаў, "Звязда", 2 красавіка г.г.)*

### НАВІНА ТЫДНЯ

Беларускія камунальнікі, нарэшце, дачакаліся вясны і блізкага заканчэння ацяпляльнага сезона. Абавязацельства перад прэзідэнтам і народам яны стрымалі: зімой кардынальна цэны на жыллё не змяняліся. А вось з пачаткам вясны яны пайшлі ў рост. Аб'яўлена, што з 1 красавіка павышаюцца тарыфы на водазабеспячэнне і каналізацыю, на электрычнасць і газ на 15 працэнтаў. Пераглядацца будуць і астатнія.

ФЕСТЫВАЛІ

## Сёння пачынаецца "Вясна"!

Традыцыйны музычны фестываль "Мінская вясна" ўрачыста пачынаецца праз некалькі гадзін — вялікім сімфанічным канцэртам у сталічнай філармоніі. Розніцца між сабою вёсны каляндарныя, рознiяцца і вёсны фестывальныя. Сёлетняя адметная тым, што прысвячаецца дзвюм значным датам, якія адзначае ўвесь музычны свет: 200-годдзю з дня нараджэння Франца Шуберта і 100-годдзю з дня смерці Яганеса Брамса. Вось і першы канцэрт "Мінскай вясны" ўключае творы абодвух вялікіх кампазітараў-рамантыкаў: Першы фартэпіянны канцэрт Я. Брамса (саліст — лаўрэат міжнародных конкурсаў, студэнт Беларускай акадэміі музыкі Юры Бліноў), знаную "Незакончаную сімфонію" Ф. Шуберта. За пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі — яго новы галоўны дырыжор Міша Кац.

Фестываль прадоўжыцца да 20 красавіка і парадуе меламанаў разнастайнымі праграмамі, у якіх — музыка В. Моцарта і Р. Шумана, І. С. Баха і М. Глінкі... І, як звычайна на "Мінскай вясне", гучаць творы (у тым ліку прэм'еры) беларускіх аўтараў: Д. Лыбіна, В. Кузняцова, А. Хадоскі, С. Бельцюкова, Я. Паплаўскага, Г. Гарэлавай, В. Капыцько, А. Соніна, І. Паліводы...

Выканаўцаў пералічваць можна доўга, бо сярод іх — вядучыя музыканты краіны і госці з-за мяжы. Гэта наш "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, нарвежскі скрыпач Ісак Шульдман і малдаўская спявачка Марыя Біешу, германскі арганіст Яганес Геферт, беларускія піяністы Алег Крымер, Сяргей Мікулік, Ігар Алоўнікаў, Вера Лагвіненка, кларнетыст Генадзь Забара ды сын — фагатыст Максім Забара, акадэмічныя мастацкія калектывы Беларусі... Няхай жа гармонія вясны музычнай не абміне і вас!

**С. Б.**

ВЫСТАВЫ

## "Мастак і кніга — 97"

З 26 сакавіка па 3 красавіка ў мінскім Палацы мастацтваў праходзіла выстава-конкурс "Мастак і кніга — 97". Па статусе выстава была рэспубліканскай, але па сутнасці ў ёй бралі ўдзел толькі мінскія мастакі. І справа не толькі ў тым, што творцы ў правінцыі ў пэўнай ступені страцілі цікавасць да сталічных імпрэзаў, але і таму, што менавіта ў Мінску сканцэнтраваны дзяржаўныя і прыватныя выдавецтвы, з якімі супрацоўнічаюць мастакі-ілюстратары.

У выставе бралі ўдзел мастакі розных пакаленняў. Таму той, хто наведаў выставу, атрымаў досыць поўнае ўяўленне і аб традыцыі, і аб новых тэндэнцыях мастацтва кнігі ў Беларусі.

Прэміі на конкурсе былі прысуджаны па пяці намінацыях. Гран-пры "Тоеснасць" за гарманічнае спалучэнне мастацка-літаратурнага і візуальнага вобразаў у кнізе казак братоў Грым "Цудоўная хатка" атрымаў Вячаслаў Валынец. Дыпломы "Залаты дубль" — Мікалай Казлоў і Сяргей Чарановіч: першы — за тэхнічную дасканаласць ілюстрацый да кнігі казак Гофмана, другі — за вобразнасць ілюстрацый да кнігі Н. Кісліка "Памяці патэфона". Юрасю Хілько прысуджаны дыплом Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў за найбольш яскравае адлюстраванне тэмы "Беларусь" (ілюстрацыі да "Вянка" Максіма Багдановіча). Юрась Алісевіч узнагароджаны дыпломам "Чароўны матылёк" выдавецтва "КАВАЛЕР пабліш'эрс" за лепшае афармленне кнігі для дзяцей. Дыплом "Маладая надзея" журы вырашыла не прысуджаць.

Разам з дыпломамі мастакі атрымалі грашовыя ўзнагароды Гран-пры — 2,5 мільёна рублёў, усе астатнія па 1,5 мільёна рублёў. Грошы не надта вялікія, але і яны не будуць для мастакоў лішнімі...

Арганізатары спадзяюцца, што выстава-конкурс "Мастак і кніга" стане традыцыйнай, штогадовай, што праз год яна будзе больш маштабнай і відовішчнай.

**П. В.**

ДАБРЫНЯ

## Амерыканскія бабулі беларускіх дзяцей

Я не знаю людзей, якія б пакідалі родныя мясціны з радасцю, асабліва ведаючы, што вярнуцца не давядзецца... У Беларусі такіх людзей — шмат. Гэта чарнобыльскія перасяленцы. Калісьці вядомы мастак Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка, чые карані на Палессі, расказваў, што, наведаўшы родную вёску пасля чарнобыльскай катастрофы, ён адчуў, што гэтая сустрэча з радзімай — развітальная: вёска ўжо не адродзіцца. "Я памятаю, як выглядала спаленая вёска ў час вайны, але тады была вера, што ўсё адродзіцца. Зараз у мяне такой веры няма".

Чарнобыльскія перасяленцы ў Мінску жывуць у новых раёнах — Шабанах, Малінаўцы, Уручы... Каб быць разам, разам вырашаць свае праблемы, яны ўтварылі грамадскае аб'яднанне пад назвай "Жыццё". Аб'яднанне кантактуе з Дзяржкамчарнобылем, раённымі ўладамі, адпаведнымі міністэрствамі, грамадскімі "чарнобыльскімі" фондамі.



У чарнобыльцаў галоўны клопат — здароўе дзяцей. Аб'яднанне спрабуе вырашаць гэту праблему і ў межах Беларусі, і праз кантакты з замежжам. Дзякуй Богу, ёсць на Захадзе людзі, якія ўспрымаюць нашу бяду як сваю ўласную. Сярод іх і дзве амерыканскія бабулі: Бэці Эшман са штата Нью-Мексіка і Алівія Анслінжэр-Карнілія з Каліфорніі. Яны не першы раз прывозяць у Беларусь гуманітарную дапамогу — лекі, медычнае абсталяванне, іншыя неабходныя чарнобыльцам рэчы. Не раз прымалі ў Амерыцы беларускіх дзяцей. Вось і ў сакавіку Бэці і Алівія Анслінжэр-Карнілія зноў наведалі Мінск, сустракаліся з дзецьмі, што сталі ім амаль роднымі, з іхнімі бацькамі. І, як заўжды, прыехалі не з пустымі рукамі: два вялізныя кантэйнеры былі дастаўлены марскім шляхам у Рыгу, а адтуль — у Мінск.

Сваёй высакароднай справай спадарыні Эшман і Карнілія займаюцца ад пачатку дзевяностых гадоў. Яны ўзначальваюць грамадскія камітэты дапамогі дзецям, што пацярпелі ад Чарнобыля. "Мы маленькая група. Мы любім дзяцей. Мы аддаем нашы сэрцы чарнобыльскім дзецям", — гаворыць Бэці Эшман. Дарэчы, яна родам з Шатландыі. У часе Другой сусветнай вайны была медсястрой. Тады выйшла замуж за амерыканскага вайскоўца, які браў удзел у слаўтым дэсанце ў Нармандыі 1944 года, потым з'ехала з ім у ЗША.

У абедзвюх бабуль свае дзеці, унукі, але са сваіх пенсій яны адлічваюць грошы для дзяцей Беларусі. Прычым, трэба аддаць належнае іх цярплівасці і мужнасці, бо беларускія ўлады часам паводзяць сябе неадэкватна сітуацыі, ствараюць штучныя праблемы на шляху гуманітарнай дапамогі з Амерыкі ў Беларусь.

Я бачыў, з якой радасцю кідаліся да амерыканскіх бабуль дзеці, якія ўжо гасцілі ў Бэці і Алівіі. Бо, дзякуючы ім, яны пабачылі іншы свет, адчулі, што дабрыня не мае дзяржаўных межаў.

Зразумела, дапамога з-за мяжы не вырашае ўсіх нашых праблем. Але добра ведаць, што ў нашай бядзе мы не самотныя.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*Фота Я. КОКТЫШsu*

# Быць грамадзянінам...

## АДЗІН ТЫДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ СУПОЛКІ "ПАГОНЯ"

Як ніколі шматлюдна было на адкрыцці выставы суполкі "Пагоня" 25 сакавіка падчас чарговых 79-х угодкаў БНР. Быццам на мітынгу. Што ж, адкрыццё і стала па сутнасці мітынгам, што за гады існавання суполкі і адкрыцця яе выставаў стала таксама традыцыйным. Дарэчы, і штодня ў часе працы выставы на экспазіцыі людзей было вельмі і вельмі багата.

Кіраўніцтва суполкі пайшло на пэўныя скарачэнні той часткі экспазіцыі, якая складвалася з інсталяцый і "лялек", — у чаканні камісіі Міністэрства культуры. Ніхто не адмяняў і дакумент Мінгарвыканкама N 796, які рэгламентуе правядзенне выстаў у горадзе Мінску і не дапускае на іх прапаганды сексу, насілля, жорсткасці, знявагі гонару грамадзян рэспублікі, непавагу да існуючай дзяржаўнай сімволікі. І толькі прынцыповасць кіраўніцтва Саюза мастакоў, якому было загадана зняць больш за дзесяць работ, дазволіла адкрыць выставу з поўнай экспазіцыяй. На наступны ж дзень на месцы забароненых камісіяй Міністэрства культуры работ віселі ксеракопіі ліста на імя старшыні Саюза мастакоў Г. Буралкіна аб тым, што асобныя работы на выставе не стасуюцца з заканадаўчымі і нарматыўнымі дакументамі (Дэкрэтам N 5 Прэзідэнта РБ ад 15.03.97, Законам РБ "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" і інш.) і што трэба прывесці экспазіцыю выставы ў адпаведнасць з існуючым заканадаўствам. Гэта тычылася адкрыта палітызаваных твораў А.Марачкіна, А. Карповіча, Т. Маркавец, В. Крукоўскага, інсталяцыі А. Марачкіна, Л. Талбузіна і Я. Шунейкі "Чырвоны куток — Зона".

Але ж варта сказаць, што і без гэтых работ экспазіцыя суполкі засталася вострапубліцыстычнай, сям-там нават плакатнай. І толькі тое, што ў склад суполкі ўваходзяць мастакі вядомыя, майстры, а не "палітыканы"-дылетанты, выратавала экспазіцыю ад празмернай прамалінейнасці і не адвяла яе далёка ад сапраўднага мастацтва. Так, лёгка пазнаюцца героі шматлюднай кампазіцыі Г. Ціхановіча "Веру, уваскрэснеш" альбо карціны М. Назарчука, дзе адраджэнне трактуецца цалкам як боскае святло пагоні з нябёсаў; яўна па-сённяшняму прачытваецца назва адной з карцін трыпціха М. Купавы "За волю, роўнасць, незалежнасць" — "Інтэграцыя" з двухгаловым арлом над беларускай зямлёю. Але чамусьці хочацца сказаць: панове, мастацкая выстава — гэта не



А. Пушкін "Русские сапоги"

толькі акцыя пратэсту і выказанага "ў лоб" самасцвярджэння. Мастацкая выстава, у першую чаргу, павінна дапамагчы гледачу ўбачыць праблемы і іх рашэнне праз мастацкае майстэрства, праз замілаванне выдатным жывапісам, вытанчанай графікай, адмысловым габеленам. Карацей, выстава, нягледзячы на прынцыпы, якія яна сцвярджае, павінна заставацца мастацкай. Таму асабіста мне імпануе тут падыход, напрыклад, Алеся Пушкіна, работу якога хацелася вылучыць. "Русские сапоги", старанна і дэталёва выпісаныя над стосам такіх родных тамоў "Руска-беларускага слоўніка", Статута Вялікага княства Літоўскага, Скарынінскай энцыклапедыі, прыемнага для погляду глінянага гарлачыка і лыка для лапцяў. Шчыра скажу, замілуешся альбо, ва ўсякім разе, абавязкова прыпынішся ля гэтай работы. Цікава, праўда, што ў будучым карціну можна будзе назваць, напрыклад, "Падарожжа па веды" ці неяк падобна, і яна будзе гучаць не менш актуальна і глядзецца гэтак жа цікава, як цяпер з палітычным падтэкстам.

Адметныя і творы старшыні суполкі "Пагоня" А. Марачкіна — два палотны: "Сцяна" і "Шчытаносны". Алесь Антонавіч, варта заўважыць, заўжды вельмі канцэптуальна падыходзіць да мастацкага вырашэння надзённых праблем сучаснасці. Нагадаю хаця б, яго мінулагоднія "галерэі", партрэтаў беларускіх дзеячаў. Застаўся прыхільным ён, як і раней, да выцягнутай формы работ. Адзіна — змяніўся іх змест і падыход да сродкаў мастацкай выразнасці (альбо сродкаў зацікаўленасці гледача). Зрэшты, разглядванне і чы-



А. Шатэрнік "Ефрасіння"

танне шматлікіх надпісаў на імправізаванай сцяне — занятак сапраўды надзвычай займальны. Другі ж твор ідэю выказвае прасцей, але "шчытаносныя", "дубінканосныя", "касканосныя" — з'ява на сённяшні дзень вельмі актуальная. Ад "былога" Марачкіна застаўся ў гэтых работах і колер, яго майстравы — мякка-блакітны, бялільна-іскрысты, такі няўлоўны для фотаапарата і такі ласкавы для вока.

Выстава, як і раней, заняла ўсю верхнюю залу Нацыянальнай мастацкай галерэі. Вялікую прастору арганізатары скарысталі гэтым разам так, каб не было адчування шчыльнасці, перанасычанасці экспазіцыі, што магло б перашкодзіць успрыманню выставы. Ад некаторых не вельмі задаволеных сяброў суполкі можна было, пачуць, што не ўсе творы — апошняга года, не ўсе — найлепшай

(Працяг на стар. 4)

ПАМЯРКУЕМ

# Хоць раз, ды добра агрызнуўся..."

Прызнаюся, маю слабасць: люблю цытаты. Яны, як і фотаздымкі, падчас гавораць самі за сябе і не патрабуюць асаблівага каментарыя. Пачну з адной сакавіцкай тэлеперадачы. "Што ні кажыце, а галоўнае ў нашым жыцці — гэта мужчыны", — на ўсю Беларусь абвяшчае мажная кабета. Нават з папраўкай на дату — 8 сакавіка, свята, падарункі і ўсё такое — прызнанне ўсё ж празмернае. Яны, мужчыны, і так поўняцца адчуваннем перавагі. І ў будзённыя дні яе не хаваюць.

У апошнім выпуску ЗНО ў 6-м нумары "Культуры" (на яго буду спасылацца і ніжэй) недвухсэнсоўна выказаўся Вітаўт Чаропка. Гэта звычайны міф, кажа ён, быццам нашы жанчыны прыгажэйшыя ў свеце. Ды яны ж саўковыя! Саўковасць іхняя (г. зн. наша) і з вачэй лезе (?!), а як рот раскрыюць, дык бацвіне сыплецца. І заключае, што мы, беларускі, увогуле пакрыўджаныя Богам.

Ну, па-першае, апошні тэзіс супярэчыць папярэдняму: саўковасць — вынік адпаведнага выхавання, і Усявышні тут ні пры чым. Па-другое, не перастаю дзівіцца смеласці нашага маладога белетрыста. Гэта ж трэба — узяў дый сказаў што думае! А я дасюль лічыла, што нашы мужчыны — самыя нерашучыя і абачлівыя на планеце Зямля.

Другі б засумняваўся: "А мо не варта так? Раптам пакрыўдзяцца альбо на дыбы ўстануць? Мы ж і самі не без гэтай самай саўковасці: у адны школы хадзілі, у адных аўдыторыях навуку грызлі..." Пачухаў бы патыліцу, паўздыхаў і выкрасліў бы злашчасны абзац са свайго матэрыялу. Тым болей, што пра філасофію гаворка, а не пра слабы пол. А гэты — не! Пакінуў як ёсць. Выказаў сваё рыцарскае "фэ", аблегчыў душу.

А я з міжвольнай пільнасцю стала ўчытвацца ў іншыя — сур'ёзныя і не зусім — прызнанні аўтараў ЗНО. "Выжыць трэба, спадарове" (Вяч. Вайткевіч). "Некалькі стагоддзяў я меў нару, у якую меў магчымасць запаўзці і чагосьці там пагрызці, пасмактаць, пажаваць" (Зм. Вішнеў). Яны, нашы рыцары тутэйшыя, штосьці пра сябе калі не ведаюць, то здагадваюцца. Каторы са змагароў за ідэю будзе кіпець, як электрачайнік, у вузкім коле сваіх сяброў, сярод аднадумцаў альбо дома. На сходзе, на паседжанні, у кабінеце начальніка, у друку ён нічога не скажа або скажа штосьці іншае, абцякальнае, "дыпламатычнае". Ягоныя перакананні схаваюцца, як рожкі ў смаўжа (не забыць праверыць, ці ёсць у смаўжа рожкі). Ягоны запал згасне, як вугалі, палітыя ліўнем. Ягоныя высакародныя пачуцці імгненна заглыбяцца ў нетры падсвядомасці, каб там гібець, і гніць, і атручваць арганізм знутры, аніяк не ўплываючы на рэчаіснасць.

Аднак жа ўсведамленне гэтай спецыфічнай рысы хоць і выцясняецца са свядомаснага плана, але не-не дый выплывае на паверхню, чым балюча раніць мужчынскае самалюбства. Значыць, трэба любым спосабам ад яго пазбавіцца. Спосаб першы: аб'явіць хіб станоўчай якасцю. Для гэтага выкарыстана мілагучнае іншамоўнае слова "талерантнасць". Мы саступалі ментальным агрэсарам не таму, што бракуе смеласці і волі, а таму, што ўсіх шануем і любім. Амаль па Святым пісанні жывём!

Спосаб другі: няздатнасць у сферы грамадскай кампенсаваць бурнай дзейнасцю на глебе вытворчай ці бытавой. Трэба ж недзе і нечым сцвердзіцца. Вось чаму нашым хатнім напалеончыкам упоперак лепш не станавіцца...

Спосаб трэці, вынаходлівы: зрабіць выгляд, што табе ўсё роўна. Ну абсалютна "ні да чаго" няма хэнці, а ў такім выпадку — навошта хвалявацца, за нешта ваяваць, набіваць гузакі? Мы — вышэй. На крайні выпадак падварушымся ўціхую, наладзім прыватныя кантакты, забяспечым сабе месца пад сонцам. Самая непрабівальная, можна сказаць, пазіцыя. Інтэлігенцкая.

А можа, высновы мае непрыемныя тычацца менавіта інтэлігентаў? Усё ж гэта катэгорыя вядомая мне болей — па роду дзейнасці і атачэння. Абагульненні ўвогуле рэч рызыкоўная — хаця б таму, што з кожнага правіла ёсць выключэнні. Хіба назавеш баязліўцамі тых, хто пратэстуе ў калонах дэманстрантаў?

Тым не менш, вярнуся да ЗНО і ягоных прызнанняў. Наш звычайны тыповы інтэлігент хоць і не дзейнічае, баючыся напароцца на супраціўленне, але добра ведае, як яно ўсё павінна быць у ідэале. Царква павінна быць нацыянальнай (хаця сам у Бога не верыць), палітыкі — разумнымі (хаця ў палітыку не лезе), Беларусь — незалежнай (хаця і на сваім рабочым месцы парадку не навядзе). "Хачу абсурду... [...] Хачу, каб гэты абсурд быў апазнаны ўсімі, названы сваім сапраўдным імем, раскрыты і выкрыты, адолены і пераадолены" (Вяч. Вайткевіч). Заўважце, як прыгожа выстраіліся дзеепрыметнікі залежнага стану. Іншымі словамі — хачу, каб нехта здзейсніў альбо каб зрабілася само. З неба ўпала, напрыклад.

Ад гэтай драматычнай няздольнасці ўвасобіць ментальнае ў фізічны план (прасцей — пераўтварыць думку ў дзеянне) нашы мужыкі або ціха шалеюць і шукаюць пяты кут, або заліваюць незадаволенасць сабою і жыццём п'яным зеллем. Пры такіх варунках на самай справе аднойчы прыйдзе ў галаву вар'яцкая думка, што "мяне няма". Не існуе. Не праявіўся з небыцця. Не адбыўся як індывідуум. Дарма я не ацаніла ў свой час споведзь атэіста ў "Крыніцы". "Паўсюль ёсць толькі адсутнасць і сляды слядоў", як лічыў улюбёнец тутэйшых мысляроў Дэрыда.

З улікам вышэйсказанага (а назіранні назапашваліся гадамі) не цяжка зразумець, чаму ў нас дасюль не развіта філасофія. Навука філасофія, мабыць, мае на ўвазе большую ступень самапазнання. І толькі цераз самапазнанне, у сваю чаргу, можна перамяніцца і перамяніць навакольны свет.

Заканамернасцю бачыцца мне тое, што сярод гэтых затурканых мужычкоў, гэтага паслухмянага начальства вырас, выспеў, узмужнеў і прабіўся наверх тып абсалютна супрацьлеглы. Жук у мурашніку. Увасабленне таго, чаго не стае большасці. І я не здзіўлюся, калі ён усім нам яшчэ пакажа "Кузькіну маць". Дылема ўвогуле простая: альбо вы, дарагія, выпаўзеце са сваіх псіхалагічных нораў і станеце мужчынамі, альбо прыйдзецца размнажацца ўжо ў іншай дзяржаве. Бо хіба можна пры такіх здольнасцях збудаваць і адстаяць сваю?

"А як жа наша слаўная гісторыя?" — устрапянецца апанент. Былі ж у нас і Грунвальд, і Каліноўскі, і слуцкія паўстанцы... Былі, на шчасце. І Рагнеда была, і Ларыса Геніюш — адзіная мо дысідэнтка на той час. Зрэшты, гістарычныя абставіны склаліся так, што ваяроў духу было болей, чым проста ваяроў, воінаў. І практыкі дзяржаўнага кіравання відавочна не хапіла. Нацыя ўсё фармуецца, як тое цеста ў дзяжы, і невядома, калі падніменца. І што ты тут зробіш — з "саўковасцю" і без яе?

На такія вось балючыя развагі справакаваў мяне спадар Вітаўт. "Хоць раз, ды добра агрызнуўся..." А на каго?..

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ЭКСЛІБРЫС

# "Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў"

*Алег Мінкін. Аповесць. Мінск. "Мастацкая літаратура". 1994.*

**Памятаю цёплую чырвоную цэглу Мірскага замка. І ў сярэдзіне, на замкавым пляцы, паміж кветак і травы, стомленыя пасля раскопак і размораныя пасля абеду мы ляжым і слухаем Алега Мінкіна, які прыехаў да нас у госці і чытае сваю гісторыю пра хлудаў. Гэта была сярэдзіна 80-х, камуністы тады былі яшчэ ў сіле і ўсялякія літаратурныя меркаванні пра замену аднаго рэжыму другім здаваліся не больш чым "праўдзівай гісторыяй". Твор быў дапісаны аўтарам толькі ў 93-м, калі камуністы, здавалася, адышлі назаўсёды, і ўсялякія антыутопіі такім чынам страцілі свой сэнс.**

**Але час ідзе. Непрыкметная кніжка А. Мінкіна яшчэ тамсям ляжыць у кнігарнях, а я ўвесь час згадваю яе і аўтара, які здолеў стварыць не толькі хіба што адзіную ў сучаснай беларускай літаратуры антыутопію, якая адначасна з'яўляецца мастацкім творам высокай якасці, але і прадбачыць на нейкі час хаду грамадскага развіцця нашай "хлудзіі".**

**Вось аднекуль з'яўляецца ў Хлудзіі, маленькай краіне, агароджанай высокім парканам, Цмок Калывок, які паставіў смецярам дармовую бочку "Горкага палыну", за што яны далі яму шчырую клятву і прычасаліся адным грабянцом, што "сымбалізавала ў сьмецяроў еднасьць поглядаў і поўную аднадушнасьць". Дзякуючы смецярам, Цмок Калывок прыходзіць да ўлады. Інтэлігенцыю і апазіцыю пасылаюць капаць канал, каб злучыць адзіную ў Хлудзіі сажалку саму з сабой, а новы ўрад вылучае новую праграму: пафарбаваць паркан, якім краіна агароджана ад усяго свету, у бэзавы колер; абвясціць непрымірымую вайну ўсяму, што знаходзіцца па-за парканам, а таксама, натуральна, "павытураць з краіны ўсіх іншаземцаў".**

**І вось, ужо пасля таго, як твор А. Мінкіным быў дапісаны, штосьці падобнае літаральна на нашых вачах адбылося і ў нас.**

**Цікава чытаць кнігі-прадказанні.**

**Далей, па сюжэце, "дыктатар Цмок быў зрынуты рухавымі з Хіцерам Зьміцерам на чале". Рухавыя былі легальнай апазіцыяй, якая існавала са згоды Цмока і атрымлівала ў яго заробак. Што ж адбудзецца ў нас у рэальнасці, як кажуць, пажывём — пабачым. А пакуль што да вышэйпададзеных фармулёвак, якія датычацца гэтай кніжкі, хочацца дадаць і яшчэ адну: выдадзеная "Мастацкай літаратураю" мадэрнізаваным дарэформенным правапісам, кніга А. Мінкіна стала хіба што вяршыняй вальнадумства і беларускасці ў дзяржаўнай выдавецкай справе.**

**А далей, як напісана ў А. Мінкіна, прыйшоў Цмок Калывок. Але кніжка ўжо выйшла і засталася. Кніжка мудрая і трохі сумная, бо што б там ні адбывалася, а хлудам усяго толькі і трэба для шчасця, як "трохі кахання, жменьку зорак над галавою, кроплю спагады..."**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## "Белае і чорнае"



**Больш дзесяці гадоў аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі хвалюе пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў. Яна прынесла нашаму народу незлічоныя хваробы, ростань з роднымі мясцінамі, трывогу і страх за будучыню дзяцей. Галіна Каржанеўская ў п'есе-казцы "Чарнабог" якраз і спрабуе ва ўмоўнай форме вызначыць як прычыны, так і паследствы гэтай бяды. "Белае і чорнае" — назва спектакля, пастаўленага па п'есе тэатрам музычных асацыяцый "Атман" абласнога Дома настаўніка г. Гомеля (кіраўнік калектыву і пастаноўшчык Ігар Абрамовіч).**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

**Ул. КРУК**

## Музыколагі сабраліся...

**"Музычная культура Беларусі: дыялог часоў" — пад такой назвай 4 красавіка ў Беларускай акадэміі музыкі праводзяцца навуковыя чытанні памяці выдатнага этнамузыколага, Настаўніка і Мэтра беларускай музыкалагічнай школы, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Лідзіі Мухарынскай.**

**У шосты раз сталыя і маладыя беларускія музыказнаўцы сабраліся ў Акадэміі музыкі, каб падзяліцца думкамі, новымі матэрыяламі, навуковымі распрацоўкамі па пытаннях, якія датычацца музычнай культуры Беларусі.**

**Традыцыйная культура Беларусі пададзена ў дакладах выступоўцаў вельмі разнапланава. Гэтаксама разнастайна і гістарычна шматмерна прадстаўлена прафесійная музыка Беларусі; уздымаюцца пытанні неакласіцыскіх і авангардыскіх тэндэнцый у творчасці беларускіх кампазітараў апошніх дзесяцігоддзяў XX ст.; паказваецца беларуская музычная культура XVII-XVIII стст. у сучасным кантэксце. Як ужо сталася традыцыяй, навуковыя чытанні памяці Л. Мухарынскай не абмінаюць і музычныя культуры іншых этнасаў, пра што сведчыць даклад аб гісторыі яўрэйскага клезмерскага мастацтва Беларусі.**

**Удзельнікамі чытанняў замоўлены выкладчыкі Акадэміі музыкі І. Назіна, Т. Якіменка, Л. Касцюкавец, Р. Сергіенка, аспіранты Т. Бяркові, Т. Канстанцінава, М. Казловіч, В. Кавалёва, студэнты, а таксама старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ Т. Варфаламеева, выкладчыкі музычных вучылішчаў ды каледжаў Беларусі.**

**Хочацца спадзявацца, што сёлетнія навуковыя чытанні памяці Л. Мухарынскай атрымаюць шырокі розгалас і працяг у будучым, тым больш, што арганізатары чытанняў знайшлі матэрыяльную падтрымку з боку Міністэрства культуры Беларусі.**

**В. ВАХУЛА**

## "Змена" запрашае

**6 красавіка а 12 гадзіне ў мінскім кінатэатры "Змена" адбудзецца кінапрагляд, прысвечаны памяці Ларысы Геніюш. У праграме — дакументальная стужка С. Гайдука "Вянок цярновы васількоў" і фільм В. Дудзіна "Птушкі без гнёздаў". Перад сеансам выступіць пісьменнік Міхась Чарняўскі.**

ВЕЧАРЫНЫ

# Брава, студэнцкі сімфанічны!

Маладзёжны студэнцкі калектыў — Сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам М. Казінца зноў парадаваў слухачоў сваім канцэртам у сталічнай філармоніі. Энергія маладосці заўсёды станоўча ўздзейнічае на залу, дый сама праграма, складзеная з рамантычнай музыкі Р. Вагнера і К. Сен-Санса, была даволі цікавая і прывабная.

У першым аддзяленні прагучала уверцюра да оперы "Тангейзер" Р. Вагнера. Апроч саміх музычных вобразаў, слухачоў захапіла свежая арыгінальная інтэрпрэтацыя гэтага твора, які стаў ужо класічным нумарам у рэпертуары многіх сімфанічных аркестраў.

Другое аддзяленне цалкам было прысвечана творам К. Сен-Санса. Фартэпіянны канцэрт N 2, музыка якога вабіць палкасцю і лірычнай прыгажосцю рамантычных замалёвак, прагучаў у выкананні маладога перспектыўнага саліста, студэнта I курса Акадэміі музыкі Іосіфа Сяргея. Асабліва ж захапіў і "пацешыў" слухачоў апошні нумар праграмы — "Карнавал жывёлін". Яго выканаў дуэт — Іосіф Сяргей і вядомы піяніст прафесар Ігар Алоўнікаў пад бездакорны акампанемент інструментальнага ансамбля студэнтаў. Звярнулі на сябе ўвагу смеласць і творчая ініцыятыва музыкантаў у выкананні гэтай сюіты К. Сен-Санса, якая надавала рэдка з'яўляецца ў выканальніцкай практыцы. Пацвярджэнне гэтага — шматлікія дыктафоны ў зале: спатрэбіцца ўзнавіць гучанне сюіты ў курсах праслухоўвання музыкі.

Запоўненая задаволенымі слухачамі зала цёпла падтрымлівала і вітала маладых аркестрантаў і іх сталых партнёраў па творчасці.

**Наталля ДОЖЫНА,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

# А будучыня ў нашых руках...

"...Што ні тварылася б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе" — гэтыя словы народнага песняра Янкі Купалы былі вынесены эпіграфам на білеты, што запрашалі на вечарыну "Стаім мы перад будучыняй нашай...", якую ладзілі ў Доме літаратара Літаратурны музей Янкі Купалы і Саюз беларускіх пісьменнікаў. А прысвячалася яна 75-годдзю Купалавага верша "Перад будучыняй".

Твор гэты і сёння, можа, як ніколі, актуальны:

*Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!*
*А там — "Паўстань праклятым..."*
*Ну, а мы?*
*Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...*
*Без толку крыллем лопаем, як цьмы.*

З хваляваннем услухоўваліся прысутныя у тое, што прамаўляла вядучая вечара А. Хатэнка. І з не меншым хваляваннем слухалі В. Іпатаву, а таксама артыстаў мінскіх тэатраў — яны чыталі неўміручыя творы Янкі Купалы. А ён нездарма быў Прарокам нацыянальнага Адраджэння. І яго словы сёння ўспрымаюцца прарочымі, яны надаюць упэўненасці, што будучыня беларускага народа ўсё ж будзе светлай.

**Н. К.**

# Быць грамадзянінам...

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

якасці, што прымалася без разбору тое, што прыносілася, ды і час цяпер не той, каб дазволіць сябе раскошу цэлы год па-сапраўднаму рыхтавацца да экспазіцыі. Але ж ці то сапраўды найлепшае ўсё ж застаецца ў майстэрнях, ці то на такую адказную і вызначальную выставу мастакі не дазваляюць сабе паддавацца асабістым амбіцыям і жаданням пабачыць як мага найбольш сваіх работ, не думаючы пры гэтым пра экспазіцыю цалкам, але ж выстава атрымалася, і атрымалася цалкам арганічная і цікавая. Так, паўсюдна былі знаёмыя прозвішчы "сталых" сяброў суполкі. Але дзе-нідзе спатыкаліся і імёны маладых і незнаёмых, што спрабуюць сябе ў рэалістычных замалёўках і авангардных фантазіях. Дарэчы, украпленні ў экспазіцыю авангарда, з аднаго боку, спрэчна, але, з другога, вельмі разнастаіла выставу. Калажы на халсце С. Рымашэўскага, фантастычныя сагі Г. Драздова, велічэзныя палотны А. Родзіна не надта трапляюць пад прамалінейнае разуменне адраджэння нацыянальнай ідэі. Але ж моц развітой нацыі менавіта ў тым, што яна дазваляе і дапамагае развіццю ўсіх накірункаў, усіх напрамкаў, жанраў, стыляў, разваг і думак, асабліва калі колькасць мае магчымасць проста і лёгка перайсці ў якасць. У мастацтве выяўленчым гэта бачна надзвычай нагляднa.

Варта адзначыць яшчэ адну знаходку сёлетняй выставы суполкі "Пагоня" — скульптуру. Выставіліся маладыя: В. Копач, В. Борзды, В. Мінко, А. Вераб'ёў. І поруч з ужо вядомым усім, "сталым" сябрам суполкі і "сталым" скульптарам А. Шатэрнікам — яны стварылі нейкае новае разуменне малой скульптурнай формы: абстрагаванай, але ў той жа час тэматычнай, прыцягальнай, паўпаганскай і вельмі выразнай. Яны скарыстоўваюць самыя розныя матэрыялы — ад сілуміну да звычайных невялікіх камянёў-валуноў. Яны не абмяжаваны вузкасцю разумення тэмы і таму з лёгкасцю вяртаюцца да вытокаў паганскіх, летапісных, першасных. Таму і маленькі рагаты "Мінатаўр" В. Мінко ўспрымаецца часам значней за цэлую экспазіцыю, а "Пагоня на Грунвальд" В. Борздага прыцягвае летапіснай аўтэнтычнасцю і ў той жа час мяккай формай, якая не змушае гледача шукаць сучасна-палітызаваны падтэкст, а — удумваца, што нашмат глыбей за прамалінейнае прачытанне. І самае галоўнае — ідзе новая моцная хваля маладых скульптараў, якія могуць пад-штурхнуць развіццё гэтага віду мастацтва на Беларусі, нягледзячы на складанасці чыста аб'ектыўныя: на вялікія помнікі грошай няма, матэрыял для скульптуры надзвычай дарагі (такім чынам выключаючы асноўныя матэрыяльныя стымулы). І знаходка ў камернай скульптуры сапраўднага выйсця на цікавую формматворчасць дазваляе спадзявацца, што скульптура, як майстэрства, мае на Беларусі ўсе магчымасці для развіцця. Гэта, дарэчы, пацвярджае і мінулагодні восенькі скульптурны пленэр, які стварыў у дзіцячым садку нешта кшталту "сада камянёў".

У цэлым жа на выставе знаходак было няшмат. Стабільны ўзровень работ, пазнавальныя і без подпісаў аўтары, знаёмыя стылі, манеры, колеравыя гамы, тэматыка. Частка гледачоў нават прыходзіла паглядзець спецыяльна на сваіх любімых мастакоў, а на ўсіх астатніх — толькі заадно. Зразумела, што вытанчаныя, нібы карункі, выцінанкі належаць Н. Сокалавай-Кубай ("Тры каралі", "Там, дзе нарадзіўся Касцюшка"). Гармонія колеравай гамы, такая яскравая, глыбокая, сапраўды жывапісная — гэта С. Цімохаў ("Надвячорак", "Блакітны вечар", "Рытуальнае шэсце I—III"). Няма асаблівых змен у манеры і стылістыцы графічных аркушаў Р. Сітніцы хіба тое, што ад адлюстраванняў па-хатняму блізкіх цыбулін і бульбін, ад паваліčаных фрагментаў гістарычных мясцін ля станцыі метро "Няміга" ён перайшоў да выяўлення мураў старажытнага Мірскага замка, узятага пад розным вуглом нахілу і ракурсам выказванняў А. Разанава (серыя "Замкі"). Прыемна пабачыць, праходзячыся па выставе, бясконцае мора кветак на палотнах У. Сулкоўскага, эмацыянальны жывапіс Ю. Піскуна, "жаночую серыю" П. Багданава, карціны якога з кожным годам усё больш набываюць іскрыстыя колер і амаль музыкальную гармонію; па-жаноцку мяккія нацюрморты В. Свентахоўскай і г. д. і г. д. Зноў выдатна выставіліся керамісты А. Волкаў, Т. Васюк, С. Ліфакаў. Зноў на ўзроўні найвышэйшых патрабаванняў — габелен. Павел Бондар, твор якога летась успрымаўся ледзьве не як сімвал выставы, сёлета прапанаваў публіцы створаную ў сваім стылі кампазіцыю "Сакавік. Адвечнае" з габелена, яскрава-зялёнага па колеры, і пакладзеных унізе зымпрабізаваных з нітак камянёў. А поруч — не менш цікавы габелен Валянціны Бартлавай "Крумкачы", адзін з яе апошніх, стрыманы па колеры, геаметрызаваны па кампазіцыі, прыгожы сілуэтамі чорных птушак на чырвона-чорна-белым фоне.



*В. Маркавец "Звон на доле"*



*І. Барадуліна "Ата"*

Мяне ж найбольш уразіў іншы твор (яго не назавеш графічным аркушам, карцінай, хутчэй гэта нейкае падабенства інсталяцыі) Пятра Драчова пад назвай "Электарат". Мастаку ў гэтым годзе спаўняецца 60 гадоў. "Электарат" (раней карціна называлася "Мікрараён" — графічны ліст, складзены з кубікаў заселеных кватэр, дзе кожны жыхар займаецца сваёю справай. Мастак памножыў і павялічыў кожную з гэтых "кватэрак" і павесіў іх на ўсю сцяну, стварыўшы сапраўдны жылы дом, падгледжаны ў жыцці. І падаецца мне, што на сённяшні дзень гэта сумны, але рэальны вынік сітуацыі, у якой мы жывём, і разумення людзей, якія па сутнасці прыгнечаны сваім існаваннем. На жаль, падʼём, які быў моцны яшчэ год-два назад і адчуваўся ў колах сяброў, на вуліцах, у размовах, на старонках друку, стаўся расчараваннем і адчуваннем няпэўнасці перад будучыняй. А жаданне чалавека схавацца ў нібыта абароненай кватэрцы, у асабістым свеце і стварае ў нашага народа такое крыўднае панятие, як "электарат". На жаль, любая ідэя, нават самая моцная (а што можа быць больш аб'ядноўваючым і моцным, чым ідэя нацыянальная?) разбіваецца аб сцэны неразумення і асабістага жыцця ў кожным квадрацику-кватэрцы электарата. Думаю, гэта сапраўды знаходка для сёлетняй выставы, калі мастакі замест ідэалізацыі і ўсхвалення прынятай імі ідэі спрабуюць зазірнуць у сучаснасць. І гэта, магчыма, дапаможа ім знайсці адзіна правільную мастацкую ноту, якая магла б дайсці да розуму і сэрца кожнага, хто занепакоены, і кожнага, каму яшчэ трэба давесці, як важна быць сапраўдным грамадзянінам Беларусі.



*П. Русак "Узнясенне"*

**Наталля ЖОГЛА**
*Здымкі Я. КОКТЫША*

ЗГАДКІ

***За сваё немалое ўжо жыццё давялося мне быць на шматлікіхі размаітых сходах. Прафесійныя сходы (педсаветы, метадычныя аб'яднанні, вучоныя саветы, навуковыя канферэнцыі) былі больш-менш дзелавітымі, канкрэтнымі і, здаралася, нечаму патрэбнаму вучылі. Грамадска-палітычныя — непатрэбнай, нуднай, фальшыва-дэмагагічнай гаварыльняй. Адключаю сходы, прысвечаныя ўрачыстым датам (гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, ленінскія дні і г. д.), калі дакладчык па "Блакноце агітатара" дзве гадзіны запар чытаў тэкст. Хачу прыгадаць некалькі тых сходаў, якія запомніліся ці сваёй жорсткасцю і несправядлівасцю, ці надзвычайнасцю.***

# Былі такія сходы...

## "НКВД НЕ ПАМЫЛЯЕЦЦА!.."

Нават і сёння, праз дзесяткі гадоў, болем сціскаецца сэрца, калі прыгадваю два сходы, якія адбыліся ў 1937 годзе на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педінстытута імя Горкага.

Першы з іх быў агульнафакультэцкім. Выключалі з інстытута жонак былых партыйных работнікаў, аршытаваных як "ворагаў народа". Як сёння бачу бледныя твары, патухлыя вочы, сцятыя вусны нядаўна жыццярадасных, уходжаных, прыгожых маладых жанчын. Усе яны вучыліся на педагагічным аддзяленні, якое ў той час лічылася прэстыжным, а пазней было ліквідавана як антынавуковае.

Няшчасных жанчын абвінавачвалі ў тым, што яны, будучы блізкімі з "ворагамі народа", не сігналізавалі адпаведным органам пра антысавецкую дзейнасць сваіх мужоў. Жанчыны маўчалі, схіліўшы да сталоў галовы, і толькі адна з іх устала і сказала: "Я не веру ў тое, што мой муж — вораг народа. Ён сапраўдны камуніст, сумленны чалавек. Ён чысты перад савецкай уладай. Тут нейкае непаразуменне, памылка. Пачакайце з выключэннем..."

Ёй не далі дагаварыць. Старшыня сходу важка абвясціў: "НКВД не памыляецца!.. Арыштавалі — значыць, вораг. Хто за выключэнне?"

Прагаласавалі. Выключылі.

Сексоты. Даносы. Калі даносчык быў завербаваны (нам думалася, што двух мы вылічылі), дык гэта былі, як правіла, непрыкметныя, ціхія, недалёкія хлопцы. А можа, яны і не былі завербаваныя, можа, добраахвотныя памочнікі? Ну, пра іх далей.

Яўна добраахвотным выявіў сябе мой аднакурснік Ленартовіч. Яго зацікавіла запісная кніжка студэнта Пыліпы. Ленартовіч залез да яго ў чамадан, прачытаў запісную кніжку і далажыў парторгу, што Пыліла перапісвае песімістычныя вершы Ясеніна. Быў сход нашага курса. Пыліла абараняўся. Ён сказаў, што нічога не ўтойвае ад таварышаў, што і чамадан яго без замка, хаця сам ён асабіста без дазволу не змог бы патаемна лезці ў чужы чамадан і чытаць чужы дзённік, што ў дзённік перапісаны толькі адзін верш Ясеніна, перапісаны таму, што тады ён (Пыліла) цяжка хварэў і настрой быў адпаведны, што ў тым жа дзённіку ёсць і верш М. Горкага "Фея". Пакаяўся на сходзе, потым у насценнай газеце.

Пыліпу пашанцавала. Яго не арыштавалі. А масавыя арышты студэнтаў ужо ішлі. 11 чалавек арыштавалі з газетна-выдавецкага аддзялення (добра памятаю Валасевіча і Розну), з нашага літаратурна-лінгвістычнага — Шурпіка, Цвіклінскага, Шчадрова, Адамушку, з польскага аддзялення... з яўрэйскага...

Мы знալі арыштаваных, многія (калі не большасць) студэнтаў былі ўпэўнены ў іх невінаватасці, і таму самі не спалі начамі, чакаючы сваёй магчымай чаргі. Іншы раз, не ведаю, якім чынам, станавіліся вядомымі некаторыя факты з абвінавачванняў няшчасных. І тады выяўляліся тыя, хто мог на іх данесці: хто бачыў, падслухаў, сказіў, беспадстаўна не давяраў таварышу, хто з-за сваёй дурасці, тупасці, зайздрасці гатовы быў кінуць яго за краты, на здзекі, магчыма, у лапы самой смерці.

Так мне стала вядома, не прыпомню цяпер, ад каго, што Валасевіча абвінавачвалі і ў тым, што ён мне, студэнтцы І курса, даваў чытаць кнігу вершаў Язэпа Пушчы. Сапраўды, даваў. Было гэта зімой 1935 года ў час канікул. У інтэрнаце (бараку на вуліцы Студэнцкай) на канікулы нікуды не паехалі лічаныя людзі, тыя, каму не было куды ехаць. Я сядзела ў калідоры, падкладвала дровы ў грубку і чытала нейкую кніжку. Да мяне падышоў Валасевіч, павітаўся, пацікавіўся, ці люблю я беларускую паэзію. Я адказала, што люблю. Ён пайшоў у свой пакой і вынес мне томік Пушчы. Было мне 15 гадоў, я яшчэ мала ведала, імя Пушчы было для мяне загадкавым, вершы яго чытала з захапленнем і нейкай ціхай радасцю. Кніжку гэтую ніхто ў мяне не бачыў, уражаннямі ні з кім не дзялілася. Дык адкуль жа стала вядома пра гэты факт? І я ўспомніла. Калі я адносіла кніжку Валасевічу, у пакоі быў ягоны аднакурснік З-еў, хлопец тупаваты, нахрапісты, бяздушны. Ён амаль выхапіў кніжку з рук Валасевіча і сказаў: "Так, так, Пушча..." І неяк хціва бліснулі, забегалі яго вочы. Мяне нікуды не выклікалі. Значыць, толькі З-еў.

Анатоля Шурпіка вінавацілі ў тым, што ён, быццам бы, хваліў жыццё сялян пад польскім прыгнётам у Заходняй Беларусі. Шурпік быў палітэмігрантам. Яго жонка Вера вучылася на гістарычным аддзяленні, сам Анатоль — на літаратурна-лінгвістычным. Маладыя, закаханыя, улюбёныя ў абраныя спецыяльнасці, яны былі такія шчаслівыя, поўныя радасных надзей. Наш Шурпічак (гэтак мы ласкава звалі яго) быў невысокага росту, хударлявы, з вялікімі акулярамі ў чорнай аправе, надзіва шчыры, добры, адкрыты чалавек. І неяк собіла яму зайсці да аднакурснікаў у суседні пакой. У тым пакоі жыў, разам з іншымі, ціхі такі туляга Валодзька. Хлопцы прыветна сустрэлі Шурпіка, пагаварылі пра лекцыі, кнігі, пажартавалі, і нехта між іншым спытаў: "Слухай, як табе там жылося, у Заходняй Беларусі?" — "А чаго! Добра жылося! Нас у бацькоў сямёра было, дык маці адварыць чыгун бульбы-паранкі ў мундзірах, і мы гэтак дружна латошым яе. Весела жылі!" Студэнты лёгка ўстанавілі: толькі Валодзька, чалавек, пазбаўлены Богам розуму і пачуцця гумару, мог данесці ў такой скажонай форме Шурпікаў жарт...

За Шурпікам у далёкую Сібір паехала самахоць яго Вера. Адтуль яна вярнулася ўдавой: Анатоль памёр там ад "хуткацечных сухотаў"...

Усе арыштаваныя цяпер рэабілітаваны. Большасць — пасмяротна.

## "ХОПІЦЬ НАМ ПРЫЗНАЧАЦЬ!"

Быў на маім жыццёвым шляху сход, які прыемна ўразіў мяне, сход лакальны, немнагалюдны, але вельмі цікавы і выніковы. Гэта быў сход выбаршчыкаў Прылуцкага выбарчага ўчастка і адбыўся ён у сакавіку 1961 года, за чатыры дні да выбараў у мясцовыя саветы. Жыхары Прылук: рабочыя саўгаса "Атоліна", настаўнікі, урачы, пенсіянеры — туліліся ў трох цагляных абшарпаных дамах, у якіх калісьці жылі слугі графа Чапскага. Будынкі з часоў рэвалюцыі 1917 года не рамантаваліся. Сельсавет цікавіўся жыхарамі паселішча толькі пры зборы самаабкладання і ў час выбараў у саветы. Не раз выбіралі прызначанага ў дэпутаты мясцовага савета кандыдата, як было заведзена, дружна галасавалі, добра ўсведамляючы, што нічога карыснага, дзейснага іх абранец рабіць не будзе. Са сцен вывальваліся цагліны, дагнівалі рамы ў вокнах і лесвіцы. Некаторыя старыя, якім павінна была выплачвацца пенсія, ніяк не маглі яе дамагчыся.

І вось на папярэдніх выбарах прайшоў у дэпутаты малады настаўнік Цітэнка Іван Яўхімавіч. Стаў ён наведваць сваіх выбаршчыкаў, цікавіцца іх жыццём, унікаць у іхнія клопаты і трывогі. Неаднойчы ездзіў у раён. І дамогся, што бабулі Курыла і Ярахавец не толькі атрымалі запаветныя пенсіі, але і кампенсацыю за папярэднія гады. Гэта вельмі ўзняло аўтарытэт Цітэнкі, з ім раіліся, яму давяралі.

У Шчомысліцкім сельсавеце, безумоўна, ведалі пра стаўленне прылучан да Цітэнкі, пра тое, што яны хочуць абраць яго сваім дэпутатам і на новы тэрмін. Але начальству неабходна было правесці ў дэпутаты сельсавецкага бухгалтара Буканава. І закруціліся "фіглі-міглі". Выбаршчыкам сказалі, што Цітэнка будзе балатавацца ў Лецкаўшчыне. "Што ж, — меркавалі людзі, — і там патрэбен добры дэпутат". Словам, змірыліся. А тым часам "фігляры", каб канчаткова пазбавіцца ад актыўнага дэпутата, прызначаюць Цітэнку старшынёй выбарчай камісіі. Вось як: давяраем, прызначаем, шануем. Тэрмінова ў клубе радыёцэнтра склікаюць сход выбаршчыкаў (як пазней высветлілася, на тым сходзе прысутнічала ўсяго шэсць чалавек), паведамляюць пра вылучэнне Буканава і даюць падпісаць чыстыя бланкі пратакола. Вось тут і пачалося. Прылучане склікаюць на кватэры Дзятко новы, паўнамоцны сход і запрашаюць Цітэнку зрабіць справаздачу. Цітэнка на сход прыйшоў, справаздачу зрабіў, выслухаў ад людзей шмат добрых слоў, а затым М. Кітаеў ад імя ўсіх выбаршчыкаў папрасіў яго даць згоду зноў балатавацца па Прылуцкім участку.

Я падумала была, што Цітэнка адмовіцца, "забаіцца": такая згода пагражала яму многімі і немалаважнымі непрыемнасцямі. Але Цітэнка згадзіўся. Пратакол сходу даставілі ў сельсавет. З сельсавета пазванілі ў райком. Назаўтра ў райком выклікалі Цітэнку, каб выключыць з партыі. Там жа вырашылі: склікаць новы сход і аднавіць кандыдатуру Буканава, Цітэнку на сходзе пакаяцца ў сваёй апалітычнасці, паслаць на сход прадстаўніка райкома Луцко.

Дазнаўшыся аб пакаранні Цітэнкі, выбаршчыкі адзінадушна вырашылі абараніць яго: быць на сходзе і прагаласаваць за Цітэнку. Давераным Буканава быў прызначаны настаўнік Я. Яцук. Ён глыбока перажываў несправядлівасць, і хаця, вядома, баяўся, але ўсё ж вырашыў: "Час цяпер трохі іншы — рызыкнём". Суседзям-выбаршчыкам сказаў: "Выбірайце мяне ў прэзідыум, я буду пісаць пратакол, ён павінен быць вельмі дакладны". Я ж вырашыла весці стэнаграму.

На сход не ішлі — беглі, узбуджаныя, разгневаныя. На руках неслі пенсіянерку-інваліда Вольгу Курылу. Дапамаглі падняцца на гару да клуба старому Шпаку, які клыпаў на мыліцах.

Далей лепей за мяне раскажа ацалелая ў мяне стэнаграма.

Куцэнка, старшыня сельсавета: Праз тры дні адбудуцца выбары ў мясцовыя саветы. Ад кожнай выбарчай акругі вылучаецца адзін кандыдат і не пазней як за 20 дзён да выбараў. Сход выбаршчыкаў вашай акругі, які адбыўся 22.ІІ.61 г., вылучыў кандыдатуру Буканава. Сігналаў аб парушэннях не паступала. І раптам за 4 дні да выбараў з'яўляецца пратакол аб вылучэнні Цітэнкі. Гэты пратакол з'яўляецца парушэннем закона аб выбарах. Кандыдатура т. Цітэнкі з'яўляецца няправільна вылучанай, і балатавацца ў дэпутаты ён не можа.

Кітаеў, старшыня сходу: У каго ёсць пытанні?

**Сілко**: Чаму адхілілі т. Цітэнку?

**Куцэнка**: Была ўстаноўка замяніць 30% дэпутатаў.

**Цітэнка**: Я зрабіў вялікую памылку, калі прыйшоў на сход па запрашэнні выбаршчыкаў і даў згоду паўторна балатавацца. Тэрміны вылучэння кандыдатаў скончыліся, а мы з вамі з гэтым не палічыліся. Я вінаваты і павінен панесці пакаранне.

**Ярахавец**: Цітэнку караюць з-за нас.

**Куцэнка**: Не, ён пакараны за тое, што даў згоду.

**Ярахавец**: Мы яго ўпрасілі, мы яго і адстаім. Знойдзецца ўправа і на вас. Хрушчову напішам! (Апладысменты).

**Гладкі**: Гэта ж трэба: чалавек так добра працаваў, на ўчастку быў парадак, людзі паважалі, дык не — нельга на другі тэрмін. Чаму, старшыня, вы сказалі, што дэпутат не можа абірацца на другі тэрмін?

**Куцэнка**: Я так не гаварыў.

**Сілко**: Значыць, іменна Цітэнка не мог, па-вашаму, на другі тэрмін. А мы хочам мець сваім дэпутатам Цітэнку. Вы ж хлусілі нам, лапшу на вушы вешалі, гаварылі, быццам Цітэнка пойдзе па Лецкаўшчыне. А высвятляецца, што вы проста здзекаваліся з нас.

**Курыла**: Таварыш старшыня! Вазьміце маю дачку замуж. У яе рукі залатыя: і жаць, і касіць, і пашыць, і зварыць, а прыгажуня якая!

**Куцэнка**: Дык я... жанаты...

**Курыла**: Вось і мы жанатыя: у нас ёсць любімы дэпутат Цітэнка. А вы нам Буканава сватаеце. Наш дэпутат падняў мяне, яго захады і турботы дапамаглі, і я нарэшце атрымліваю пенсію. І не толькі я. Дзе ж быў сельсавет? Колькі разоў мы звярталіся туды? Пустое! А памятаеце, старшыня, як вы аднойчы трапілі да нашых муроў? Мы тады прасілі вас зайсці, паглядзець, як мы гаруем, калі не дапамагчы, дык хоць паспачуваць. А вы? Сцебанулі пугай каня — і толькі пыл закурыўся за вамі, быццам за баронам Урангелем!

**Прадстаўнік райкома** (яго ў прэзідыум не выбіралі, сядзеў у другім радзе): Хто вас навучыў? Адкуль вам пра Урангеля ведаць?

**Курыла**: Я і пра Юдзеніча ведаю. Радыё мяне навучыла: сяджу седма і цэлымі днямі перадачы слухаю. Не тыя мае гады і сумленне, каб мяне хто "падвучваў".

**Буканаў**: Хачу паведаміць, што і сельсавет дапамагаў устанавіць правы на пенсію. Я сам выпісваў даведкі аб сямейным становішчы.

**Нехта з залы**: А што табе было рабіць? Толькі і да Цітэнкі выпісваў, а толку не было.

**Лазарэнка**, дырэктар радыёцэнтра: Мяне вельмі непрыемна ўразіла тое, што адбылося. Сазвалі недзе падпольны сход і ўчынілі незаконны акт. А ёсць жа клуб радыёцэнтра. Калі ласка, збірайцеся адкрыта і праводзьце сходы. Два тыдні вісела аб'ява, дык на сход, дзе законна вылучылі Буканава, многія не з'явіліся.

**Кітаева**: На тым сходзе нас было пяць з паловай чалавек. (У зале смяюцца: на тым сходзе быў бязногі Шпак). Аб'явілі, што вылучаюць Буканава, і далі на подпіс чыстыя бланкі.

**Старшыня сходу**: Хто быў на тым сходзе? (Падымаецца 6 рук).

**Куцэнка**: Ці добра апавяшчалі? Ці правялі агітацыю?

**Буканаў**: Я асабіста са сваім давераным Яцуком абышоў усіх выбаршчыкаў.

**Саковіч**: Заўсёды нам прызначалі дэпутатаў і ні храна яны не рабілі. А калі мы захацелі выбраць сапраўды дастойнага кандыдата, дык нас пачалі ўводзіць у зман. Правільна тут пра гэта гавораць.

**Кітаеў**: Няпраўду нам тут гаварыла т. Лазарэнка, быццам у нас была нейкая падпольная сходка. Мы адкрыта сабраліся на кватэры ў Дзятко, куды ўсім блізка. У нас інваліды ёсць. Вось і сёння старшыня сельсавета не даў сваёй каламажкі, каб падвезці іх сюды, мы на руках неслі. А на кватэры ў Дзятко мы і раней праводзілі сходы, напрыклад, вырашалі пытанне аб аплаце радыёцэнтру за электраэнергію. Так што не трэба падводзіць пад наш сход нейкую такую базу.

**Луцко**, прадстаўнік райкома: Сход праходзіць неарганізавана. Калі б пра Цітэнку была гаворка на тым сходзе, што збіраў сельсавет, — іншая справа. А так нядобра атрымалася. І яшчэ. Вы ўсе даводзіце, якім харошым дэпутатам быў Цітэнка. А мне незразумела, чаму вам не падабаецца Буканаў.

**Кітаеў**: Буканаў у сельсавеце за бухгалтара. Я заплаціў самаабкладанне і раптам атрымліваю паведамленне, што мне спісана нядоімка. Адкуль яна ўзялася? Дзе мае грошы?

**Каптуровіч**: Буканаў атрымлівае невялікую зарплату, а п'е, гуляе штодня. Дык узнікае пытанне: за якія грошы?

**Курыла**: А наш дэпутат не шукае дармаўшчыны, не прыслухоўваецца, дзе шкляначкі звіняць.

**Яцук**: Я прызначаны давераным Буканава і тым не менш добра разумею і падзяляю пачуцці сваіх суседзяў. Я падтрымліваю кандыдатуру Цітэнкі.

**Куцэнка**: Што ж, будзем галасаваць. Хто за т. Буканава, законна і ў тэрмін вылучанага кандыдатам у дэпутаты Шчомысліцкага сельсавета?

**Кітаеў** (лічыць): Дзевяць чалавек.

**Куцэнка**: Хто за Цітэнку, незаконна вылучанага?

**Кітаеў**: Дваццаць пяць чалавек.

**Куцэнка**: Перапісаць пратакол і заўтра раніцай даставіць у сельсавет, у райком і абком.

Пратакол быў перапісаны і па ўсіх адрасах дастаўлены своечасова. Невядома, што раілі райкому з абкома, а ў райкоме падзеі разгарнуліся так: зацвердзілі кандыдатуру Цітэнкі, толькі як члену партыі аб'явілі ўсё ж вымову. Вымову аб'явілі і старшыні сельсавета Куцэнку. "А мне за што?" — дапытваўся ён. "Ты на сходзе быў? Чуў? Пратакол гэты добра запомні, вывады зрабі!"

А я ўпершыню прысутнічала на сходзе, калі людзі смела і адкрыта гаварылі тое, што думалі, дружна і ўпарта адстойвалі свае грамадзянскія правы, адстойвалі свайго абранніка, адстойвалі справядлівасць. Так, была хрушчоўская "адліга". Пры Сталіне ніхто б на такое не асмеліўся.

А праз тры дні прылучане дружна і весела галасавалі за Цітэнку...

*(Працяг на стар. 14—15)*

найвышэйшага напружання голас яго, голас апавядальніка збіваецца: "Усё, цётка Маня! Хопіць! Сёння я больш не магу! Я яшчэ ўспомню цябе, гаршучая мая цётка! А сёння больш не магу".

Дзіцячы свет, у якім герой так добра сябе адчуваў, бо там не было смерці, была маці, жорстка зруйнаваны, на галаву хлопчыка паляцелі абломкі былой цэласнасці. Мара пра каханне, такая рамантычная і ўзвышаная, азмрочана падглядваннем у замочную адтуліну: "Канваір ляжаў між ног Катажыны, а вінтоўка ляжала пад ложкам". Мара пра мір абярнулася прагай свежай крыві і помсты — пачалася халодная вайна і новая хваля нянавісці, варожасці, жорсткасці. У гэтым вавілонскім змяшэнні моваў, думак, учынкаў марна спрабуе разабрацца маленькі герой М. Купрэева. На дапамогу яму прыходзіць дарослы чалавек, які ўжо ведае, што Слова было не толькі спачатку, але будзе і ў канцы, бо тое, што не асвоена з дапамогай Слова, проста не існавала, знікла бясследна ў эфіры. Каму ж яшчэ, як не творчай інтэлігенцыі, якая столькі зрабіла, каб разбіць на часткі цэласны малюнак свету, зняважыць Бога, і якая так пакутуе ад страты сэнсу жыцця, вярнуць адчуванне цэлага. Хоць бы пакуль што ва ўяўленні, у мастацкім слове. М. Купрэеў помніць, што жыве ў канцы XX ст., якое асабліва пастаралася каб зруйнаваць былую цывілізацыю, збудаваную на ідэі Бога, разумее, што так далей нельга. Яго аповесць, можа, апошняя ў гэтым стагоддзі, дзе б з такой мастацкай сілай і страсцю выказалася б туга па дасканаласці, якой жыла літаратура шасцідзесятнікаў, шукала адпаведныя словы і не знаходзіла, ці знаходзіла, але не такія пранікнёныя.

Аповесць "Імгненне светлае" — гэта ўжо водгук папярэдняга празаічнага твора М. Купрэева, які, як ракета, аддаляецца ў часе. Тут аўтар у большай ступені паэт, чым празаік, літаратар, чым проста жывы чалавек. У ім шмат ад таго хлапчука, які так востра і драматычна перажывае сваё існаванне ў трагічна разламаным свеце. Ён шукае ўсюды, дзе бывае, а яму ўсё роўна, дзе і з кім быць, абы быць, душэўнага супакою, цішыні, сярод якой лепш адчуваецца, што ён яшчэ жывы і здольны на суперажыванне, на ўспрыманне болю. Яго, як і аўтара, завуць Мікола, і ён — літаратар, што паверыў у сілу слова, пайшоў за намаляваным мастацкім уяўленнем іншага пісьменніка вобразам палескай феміны Алесі. Здаецца, знайшоў, але адразу ж і страціў, бо ўсё ягонае жыццё складаецца з пошукаў і страт. Страт з кожным годам усё большае. Але ж і ўсё наша стагоддзе — бясконцы ланцуг страт, ахвярапрынашэнняў, які мы ніяк не можам абарваць. І з дапамогай вобразнага слова, мастацкага твора, беларускага маўлення.

**Міхась ТЫЧЫНА**

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

# Зробім добрую справу?

Так ужо склаўся лёс Янка Скрыгана, што пасля арышту ў канцы 1936 года і адбывання дзесяці гадоў зняволення ў лагерах ён апынуўся ў ссылцы спачатку пад Марыінскам і ў Фергане, а потым у Эстоніі, дзе адпрацаваў два гады ў невялікім гарадку Ківіылі перад чарговым арыштам і адпраўкай яшчэ на восем гадоў у Краснаярскі край. Да гэтага часу ў горадзе Ківіылі жывуць некалькі чалавек, якія ў свой час сябравалі з сям'ёй Скрыгана і якія пад сваімі прозвішчамі з лёгкай рукі слыннага сына беларускай зямлі трапілі ў яго кніжкі. Захаваўся і дом N 9 на вуліцы Пійры, дзе яму давялося жыць.

Летась Згуртаванне беларусаў Эстоніі (БЭЗ) вырашыла зрабіць добрую справу і пачало дабівацца ад эстонскіх уладаў дазволу на адкрыццё ў Ківіылі на вуліцы Пійры, мемуарнай дошкі, прысвечанай Я. Скрыгану. Міністэрства культуры Эстоніі ўжо выдаткавала на яе 2 тысячы крон, але гэтага недастаткова.

Вельмі хочацца спадзявацца, што сярод творчай інтэлігенцыі Беларусі, сярод яе бізнесменаў знойдуцца людзі, якія пажадаюць прыняць удзел у стварэнні згаданай дошкі. Усе пытанні, што ўзнікнуць пры гэтым, спадзяёмся вырашыць. Верыцца, што і адпаведныя дзяржаўныя структуры на Беларусі таксама возьмуць удзел у гэтай добрай справе, якая толькі станоўча паўплывае на далейшае развіццё сяброўскіх узаемаадносін паміж нашымі краінамі.

**Уладзімір ДЗЕХЦЯРУК, намеснік старшыні БЭЗ**

*Эстонія, г. Ківіылі*

*АДГАЛОСКІ*

# Позірк на другі паверх

Канечне, няёмка заглядаць у чужыя вокны. Асабліва калі яны знаходзяцца аж на другім паверсе! Паспрабуй, дацягніся... Аднак у дадзеным выпадку гэта не толькі магчыма, але і неабходна. Бо гаспадары кватэры, якая нас цікавіць, час ад часу, запрасіўшы гасцей, самі расчыняюць свае вокны для ўсеагульнага назірання. Маюцца на ўвазе бяседы "За гарбатай у Шніпоў" 20 верасня і 8 лістапада 1996 г. і 3 студзеня года бягучага. Мы не будзем зараз высвятляць, ці адбываліся бяседы гэтыя толькі за гарбатай, а паспрабуем сказаць колькі слоў па сутнасці справы.

На мой погляд знізу, і госці і гаспадары пры кожнай сваёй гутарцы імкнуцца знайсці адказ на два асноўныя пытанні, а іменна: што такое літаратура і хто такі літаратар (г.зн. той чалавек, які займаецца літаратурнай дзейнасцю). У рэшце рэшт усе так ці інакш пагаджаюцца з высновай, зробленай В. Акудовічам: "Літаратура — гэта спосаб быцця для пэўнай катэгорыі людзей, каб не адчуваць сябе непатрэбнымі лайдакамі, запаўненне пустаты свайго жыцця. І ніякай каштоўнасці ў гэтым не было і не будзе" (3 студзеня г.г.).

Перш чым не пагадзіцца з такой рашучай і арыгінальнай заявай, зробім адно ўдакладненне. Мастацтва — гэта такая рэч, дзе ўсё трымаецца на аўтарытэце аўтара, на асобе творцы. Амаль тое ж самае і ў навуцы. Той, хто імкнецца спасцігнуць, што такое эканоміка альбо біялогія, звяртаецца найперш да вялікіх эканамістаў і біёлагаў, да пачынальнікаў, стваральнікаў гэтых навук. Калі так у навуках, то стакроць гэтак у мастацтве ды літаратуры. У мінулым стагоддзі меў месца наступны выпадак. Аднойчы С. Увараў, тагачасны расійскі міністр культуры, увайшоў у школьны клас разам з выкладчыкам літаратуры і з А. С. Пушкіным.

— Вось вам выкладчык, — аб'явіў міністр, — ён прачытае вам лекцыю па рускай літаратуры.

Пасля ласкава ўзяў пад ручку Аляксандра Сяргеевіча, вывеў яго на сярэдзіну класа і дадаў:

— А вось вам і сама руская літаратура...

Гэты міністр любіў падобныя эфекты. Але мы не пра тое. Кожная нацыянальная літаратура, сапраўды, мае генія, які з'яўляецца як бы ўвасабленнем гэтай літаратуры. Беларуская — Купалу, руская — Пушкіна, украінская — Шаўчэнку, нямецкая — Гётэ... І калі мы імкнёмся азначыць нейкую літаратуру і абмінаем пры гэтым тое азначэнне, якое яна сама сабе дала, то ці не зашмат мы на сябе бяром і ці не ягнае гэта "падрыванне основ"?.. Падрываючы ж асновы, мы пілуем сук, на якім і так не вельмі ўпэўнена сядзім. Тое, што раздзялілася само ў сабе, не ўстаіць, як кажа Дабравесце.

Імя ўласнае нашай нацыянальнай літаратуры — Янка Купала. Ён лічыў, што пісьменнік павінен гаварыць аб тым, "чым ёсць для народа ўпадак і слава" ("Я не паэта..."). Іншымі словамі — чым ёсць для народа зло і дабро. Адрозніванне дабра і зла! Вось чаму і Купала, і Пушкін параўноўвалі творчасць паэта з місіяй прарока. Вялікая, трагічная місія!.. І "ніякай каштоўнасці ў гэтым не было і не будзе" (В. Акудовіч)? Аб якім "запаўненні пустаты свайго жыцця" вы кажаце? Калі ваша жыццё пустое, то аб чым і навошта пісаць? Хіба пішуць ад пустаты, а не ад перапоўненасці? Цяпер, калі збіты ўсе арыенціры, калі цэлае пакаленне апынулася ў пастцы поўнай бездухоўнасці, хіба час для падобных "разглагольствований"?

У хворым грамадстве не можа быць здаровай літаратуры. Але вельмі небяспечна, калі аб анамаліі гаворыцца як аб норме. Калі б вы сказалі не "літаратура — гэта...", а "наша літаратура сёння — гэта...", і дадалі б, між іншым — "на вялікі жаль", то з такім выказваннем нельга было б не пагадзіцца. На вялікі жаль...

Гаворка за гарбатай у Шніпоў ідзе галоўным чынам аб тым, як пісаць, але не менш важна і тое, ш т о і н а в о ш т а пісаць! Пісьменнік сваю творчасць мусіць "уносіць долю сваю для ўсіх дабра" (Янка Купала, "За ўсё...") — вось м э т а ўсякай творчасці. Пісьменнік мусіць "чувства добрые лирой пробуждать", а не ігра ць на нізкіх пачуццях для дасягнення славы і грошай. Але перш чым будзіць добрыя пачуцці народа, пісьменнік сам павінен іх мець. А яшчэ ён павінен мець сваю ўласную філасофію жыцця, і на ёй, як на падмурку, узводзіць свой творчы будынак. І тут уся справа, канечне, у якасці падмурка. Тыя творы мастацтва, якія мы называем "вечнымі", маюць пад сабою вельмі трывалы падмурак. Нельга сказаць, што гаворка аб вечным у Шніпоў зусім не заходзіла. Падчас першай сустрэчы сама гаспадыня кватэры, спадарыня Людміла, заўважыла: "Усё-ткі існуюць вечныя катэгорыі, ад якіх ніхто не абстрагуецца: прыгожае — брыдкае, маральнае — амаральнае..." Але госця, Ірына Шаўлякова, яе тут жа "паправіла": "Гэтыя крытэрыі ўсё-ткі для кожнага індывідуальныя".

Вось у чым уся справа...

В. Акудовіч пайшоў яшчэ далей: "Ваша сістэма базуецца на этыцы... Я выключаю этычнае..." (8 лістапада 1996 г.). Філасаф Акудовіч "выключае" з літаратуры менавіта тое, што, як лічылі і Пушкін, і Купала, з'яўляецца яе а с н о в а й! Выключаючы з літаратуры этыку — гэта тое ж самае, што выключыць з цела душу! І што застанецца? Пустая абалонка! Гэта і ёсць "бульварная літаратура" — літаратура без душы.

Зразумела, што калі да азначэння вечных катэгорый кожны можа падыходзіць, як лічыць І. Шаўлякова, са сваімі "індывідуальнымі крытэрыямі" і па-свойму, на свой капыл, іх вызначаць, то, безумоўна, ніякіх "вечных" ці проста ўстойлівых катэгорый няма, не было і быць не можа!

І яшчэ аб адным сцвярджэнні, выказаным тым жа В. Акудовічам і маўкліва падтрыманым астатнімі: "беларуская сітуацыя такая — хоць ты пішы як Джойс, хоць як Бероўз, усё роўна па-беларуску чытаць цябе не будуць" (8 лістапада 1996 г.).

Некалькі год таму я папрасіў у адной з кнігарняў Мінска кніжку вершаў Л. Галубовіча. Здзіўленне, з якім на мяне паглядзелі, я помню і па сёння. Наведваючы кнігарні Брэста, я заўсёды з радасцю адзначаю, што не пакрываюцца пылам кнігі сапраўдных беларускіх пісьменнікаў. Іх купляюць, а значыць, чытаюць. Нягледзячы нават на тое, што В. Быкаў піша не так, як Джойс, а А. Дудараў і блізка непадобны да Бероўза.

Гэтакі мой кароткі, а, магчыма, і недалёкі погляд на другі паверх, з якога глядзяць на літаратуру, наліваючы гарбату, госці Шніпоў і самі гаспадары. Сустракайцеся, калі ласка, часцей, і глядзіце так надалей. Бо з другога паверха вам многае відней. Вы будзеце глядзець на літаратуру, а мы будзем уважліва глядзець на вас... Але ж, ведаеце, часам бывае такое адчуванне, што ты таксама, дзесь збоку прымасціўшыся, — прысутнічаеш, прыслухоўваешся, пагаджаешся ці парываешся не пагадзіцца... Бо ўсё ж вялікая розніца — чытаць і слухаць.

Вось, напрыклад, чытаў я В. Акудовіча, ягоныя "Дыялогі з Богам" у "ЛіМе", эсэ "Хто я..." у "Крыніцы", артыкулы ў "Культуры" — і ну ніяк не мог выявіць галоўнай рухаючай і накіроўваючай сілы ягонай думкі. Чытаў "Дыялогі..." і дзівіўся, навошта аўтар робіць выгляд, быццам не ведае таго, што яўна ведае! Бо падобных "дыялогаў" з "пытаннямі Богу" было ўжо колькі заўгодна; успомнім хаця б паэмы Байрана альбо вершы ці філасофскія творы Ніцшэ. Адказы на такія "пытанні" дадзены ўжо сотні год таму, дастаткова, напрыклад, адкрыць любы том "Добротолюбия". Дык навошта ж было складаць гэты даўжэзны рытарычны маналог пад назвай "Дыялогі..." — незразумела! Альбо ўзяць эсэ "Хто я...", дзе аўтар бліскуча пераконвае сябе, быццам яго не толькі не будзе, але і не было, і нават наогул... няма! Не ўцяміць, хто ж напісаў гэтае эсэ ды паставіў прозвішча Акудовіча?

Але вось цяпер, паслухаўшы В. Акудовіча ў Шніпоў, я нарэшце, як падаецца, угледзеў-такі гэтую "рухаючую сілу" ягонай творчасці. Гэта — імкненне да арыгінальнасці. Цана пры гэтым не мае ніякага значэння. Як гаворыцца, "мы за ценой не постоим".

Адзін вядомы палітык прыводзіць у сваіх успамінах такі эпізод са свайго дзяцінства: купіў ён аднойчы свісток, і, лічачы, што абхітрыў крамніка і заплаціў за гэты цудоўны свісток значна менш сапраўднай цаны, доўга выхваляўся перад усімі сваім свістком і спрытам. Пакуль яму нехта не паведаміў, што гэты свісток на самай справе каштуе нашмат менш, чым за яго заплачана. Хочацца перасцерагчы вельмі адукаванага і разумнага спадара В. Акудовіча: не заплаціце вельмі дорага за с в і с т о к!

Яшчэ хачу звярнуцца да тых, хто рыхтуе матэрыялы бяседы да друку: менш карыстайцеся нажнічкамі! Бо тут самае важнае — атмасфера бяседы. Гэта як сукенка: калі зашмат на ёй швоў, то гэта ўжо швы, а не сукенка...

Рубрыка "За гарбатай у Шніпоў" улілася ў "ЛіМ" новым ручайком, асвяжыла і ўпрыгожыла сабою нашу любімую газету. Няхай жа не перасыхае ручаёк, няхай не канчаецца гарбата ў Шніпоў!

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

# Няма чаго прыбядняцца...

Добры дзень, паважаныя лімаўцы!

Шчыра ўдзячны вам за змястоўнае выданне. З вашага дазволу (лепш пазней, чым ніколі) выкажу некалькі думак.

Дзякуючы першаму сёлетняму нумару "ЛіМа" пабываў я "за гарбатай у Шніпоў" ("Палёт філасофскага голуба").

Шчыра кажучы, пакінуў гэты "палёт" на донцы маёй душы каліўца прыкрасці. Прычынай гэтаму словы паважаных беларускіх літаратараў:

І. Чарота: "Назавіце мне хоць аднаго беларускага пісьменніка, у якога пры савецтах у шуфлядзе заставаліся творы".

В. Акудовіч: "У час перабудовы з расійскіх шуфлядаў сапраўды шмат што дасталася, а з беларускіх — нічога".

Несправядлівыя, горкія словы. І, на жаль, ніхто з суразмоўцаў не папраўвіў Івана Чароту і Валянціна Акудовіча. Толькі Пятро Васючэнка абстрактна зазначыў: "Думаю, такія пісьменнікі ёсць".

Дык ці былі "за саветамі" беларускія пісьменнікі, якія пісалі ў шуфляду?

Былі! І многа.

Да прыкладу, светлай памяці Уладзімір Караткевіч. Ягоны выдатнейшы твор "Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны" быў напісаны ў 1961 годзе, а надрукаваны — толькі ў 1994-м у часопісе "Беларусь" і ў 1996-м у кнізе "Творцы". А незабыўная Ларыса Геніюш? Яе кніга ўспамінаў "Споведзь" і шматлікія вершы змаглі выйсці ў свет толькі пасля распаду савецкай імперыі.

А вершы Сяргея Новіка-Пеюна, Васіля Супруна?

Мы да гэтага часу не ведаем, колькі твораў беларускіх пісьменнікаў не дайшло да нас праз клятыя гады сталінскіх рэпрэсій... Бо пісаліся гэтыя творы не "ў шуфляду", а "ў памяць", і бясследна зніклі ў засценках НКВД разам са сваімі носьбітамі.

Згадаем і кнігу Алега Бембеля "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", якая змагла выйсці толькі ў Лондане ў 1985 годзе і дагэтуль невядомая шырокаму беларускаму чытачу.

Свядома не называю шматлікіх беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, творы якіх "цалкам натуральна" знаходзіліся ў герметычнай "савецкай шуфлядзе", недасягальнай для беларускага чытача.

Як бачым, нам, грамадзянам незалежнай Беларусі, няма чаго прыбядняцца. Мы маем велічную гісторыю, багатую літаратуру. І таму — мусім жыць вольна, "сцвярджаць і ўсталёўваць сваё я" (У. Караткевіч) і... памятаць, бо: "Хто згубіў сваю памяць — згубіў усё".

**Зміцер ЦЕХАНОВІЧ**

*г. Мінск*

*Рубрыка "За гарбатай у Шніпоў" выклікала пэўны чытацкі рэзананс, сведчаннем чаго сталі лісты ў рэдакцыю. Два з іх сёння друкуем.*

## *Начлег на Іслачы*

*Уночы трэсла навальніца*
*старую пушчу, дождж шумеў,*
*трашчала голле, бліскавіца,*
*як бліцуспышка — цені дрэў...*
*Пярун шпурляў на ўзгадку фота,*
*усе — ў архіў старэчы мой;*
*гула апошняя грымота*
*з тых, праляцелых нада мной.*

## *Эолава арфа*

*Дрот, напяты слупамі,*
*і ўдзень і ўночы,*
*і дрыжыць і гудзе*
*на трывожнай ноце.*

*Гэтак чулыя нервы*
*трымцяць адразу*
*на сіберных вятрах*
*ашалелага часу.*

*Іхні рваны, пакутны,*
*шчымлівы голас —*
*не гармонія дзіўнае*
*арфы Эола.*

*Каб яе на сіберны...*
*На вільчыку вежы*
*струны рваліся б,*
*быццам радкі ў вершы.*

*І гучыць такое —*
*ні складу, ні ладу.*
*Марна мроіцца зноў*
*спеўны вецер Элады.*

## *Апошнія ружы*

*Са смуткам настальгічным*
*па мінулым*
*мігціць у змроку памяці святлом*
*і тое, што калісьці прамільгнула,*
*і што нязменна ў кроках сэрца йшло.*

*Шляхі, прыстанкі зноў*
*перад вачыма,*
*як гэты свой, нарэшце, мірны дом;*
*усё, дзе з імем свеціцца жанчыны,*
*цяпер здаецца мне й было жыццём.*

*Спатканьня, прымроеныя дзе ж вы,*
*адчутыя душою назаўжды,*
*прапраўнучкі цікаўнай мілай Евы*
*з абліччамі гарэзаў ці святых?*

*Над галавой даўно віюцца сцюжы,*
*мне ж хочацца напрыканцы гадоў*
*паднесці вам апошнія ўжо ружы*
*або пакласці на журботны дол.*

*Было адно багацце — маладосць.*
*І ўсё жыццё наперадзе чакала.*
*Даруй жа мне, мой даўні сябра, млын.*
*Я рэдкі госць насуперак хаценню.*
*Не дзіўна — на душы ў мяне палын*
*Ад выгляду такога запусцення.*
*Дзяцінства не адклікаць мне сюды.*
*Як не вярнуць нанова час твой зорны.*
*Ды ўсё ж я зычу чыстае вады*
*І гарнец зерня зноў у твае жорны.*

Міхась ВАЛАСЕВІЧ

## *Кратаграфія*

*Пры цару — Сібіры краты,*
*Пры панах — Лукішкаў краты,*
*Пры Саветах — партакраты,*
*Пазаўчора — бюракраты.*
*А сягоння — вертыкраты...*
*Божа мілы, колькі кратаў!..*
*І заўсёды страты, страты...*

Нясвіжскі раён, вёска Еськавічы

Алесь БІБІЦКІ

## *Адстаўнік*

*Адстаўнік я, адстаўнік.*
*Нарабіўся — і даволі.*
*Той кагорты прадстаўнік,*
*Што гібела вечна ў полі.*
*На маім худым плячы*
*Процьма вылюдкаў сядзела.*
*На мяне, нібы сычы,*
*Партакратыя глядзела,*
*Падганяла бізуном*
*Ці то ўборка, ці пасадка,*
*Ды не стаў я лізуном*
*Кіраўнічага азадка.*
*Не схіліўся прад бядой,*
*Не распаўся сыраежкай.*
*Памяркоўнаю хадой*
*Крочу ўдаль жыццёвай сцежкай.*

ПРОЗА

Уладзімір СЦЯПАН



# ПАКУЛЬ ГАРЫЦЬ ЗАПАЛКА

НАВЕЛА

У КОЖНАГА ЁСЦЬ свой кат.

Сяржант Папоў абраў сваёй ахвярай маладога салдата па прозвішчы Швідкі, самага зацюканага, нямоглага і нездатнага да службы. З першага дня Швідкага прывучалі ўсяго баяцца. Калі з ім пачыналі гаварыць, а ў войску ціха не гавораць, ён імгненна сціскаўся, скукожваўся і не ведаў, што рабіць з рукамі. Яны інстынктыўна ўскідваліся ў спробе закрыць твар або патыліцу.

Швідкі звычайна сядзеў у сушылцы, у куце пад бутэлечна-шкляной сцяной і па яго засяроджаным твары, па стрыжанай галаве з вялікімі нібыта кардоннымі вушамі прабягалі срэбна-зялёныя сполахі святла. Ён нагадваў няўклюдную марскую істоту. Гэты кут, самы далёкі ад дзвярэй, быў ягоным месцам. Тут ён хаваўся за гурбамі рудых шынялёў, плямістых брудных ануч, якія ссохлай лістотай карабаціліся на рабрыстых радыятарах, сярод цвілых ботаў, што чародамі стаялі каля сцен. Салдат Швідкі дыхаў вільготным гарачым смуродам і ціха радаваўся, што зараз ён не топча пад халодным дажджом на пранізлівым ветры перыметр тэрыторыі, не мые карэлы посуд, не абірае гнілую бульбу.

Адзінае, чым вызначаўся малады салдат, дык гэта тым, што ён мог рамантаваць абутак, бо да войска паспеў скончыць вучэльню шаўцоў.

Халявы, абцасы, падэшвы, сцелькі, падковы, набойкі — у гэтым Швідкі быў абазнаны. А таму на службу яго не бралі, а прымушалі з рання да рання сядзець у смярдзючай сушылцы, выдзіраць з парашутнай страпы шаўковыя ніткі, націраць бітумам і шыць, зашываць, лапіць дзіркі. Цюкаць малатком па плешках вастрадзюбых цвічкоў, мацаваць падковы ды набойкі, або выразаць з кавалка гумы паўкруглыя абцасы, якія мусяць замяніць збітыя-сцёртыя аб шурпаты бетон раскрэсленага пляца...

Кожны, хто служыў у войску, ведае, што там стаўленне да часу зусім іншае, чым у цывільным жыцці. Бо два гады, якія салдат мусіць аддаць службе, гэта выкраслены, змарнаваны час, згублены абсалютна дарэмна. Але адначасова са знявагай да часу ў войску да шаленства любяць розныя падлікі, дзе адной з канстантаў з'яўляецца час. Лічыцца амаль усё, колькасць шклянак кампоту перамнажаецца на колькасць дзён, дні перамнажаюцца на грамы і літры, літры на дзяжурствы, дзяжурствы на мінуты і гэтак далей, да вар'яцкіх лічбаў з дзесяткамі нулёў. І ўсе гэтыя падлікі робяцца адно дзеля таго, каб хоць у думках наблізіць той час, калі знікае неабходнасць памнажаць даўжыню перыметра пляца на колькасць дзён, а потым дзяліць на колькасць крокаў ці даўжыню кроку...

У войску любяць лічбы...

Звычайная запалка, калі яе трымаць вертыкальна, згарае за сорак пяць секунд. Калі хто не дае веры, можа паспрабаваць, але гэта праверана шмат разоў, асабліва ў войску.

За такую ж колькасць секунд, што згарае звычайная запалка, салдат па трывозе мусіць падхапіцца з ложка і паспець апрануцца, стаць у шыхт.

Па некалькі разоў за ноч успыхвала запалка ў пальцах сяржанта Папова, і час для салдата Швідкага пачынаў ляцець. Ён сутаргава нацягваў гімнасцёрку, падаў, ускокваў, запіхваў ногі ў непаслухмяныя боты — але не паспяваў.

— Па новай, распранайсь! — казаў сяржант і дзьмуў на пальцы, вытрасаў чарговую запалку.

Так працягвалася больш за месяц. Гарэла запалка, салдат апранаўся. Калі не паспяваў, атрымліваў цяжкай сагнутай бляхай па спіне, руках, галаве.

Нарэшце начныя трэніроўкі далі плён — запалка не паспявала згараць, а Швідкі стаяў каля ложка і пераводзіў дыханне.

Але не такім чалавекам быў Папоў, каб спыніцца на дасягнутым. Ён удасканаліў свой здзек вельмі простым спосабам. Адломваў частку і без таго кароценькай запалкі — скарачаў час.

Зразумела, што Швідкі пачаў не ўкладацца ў нарматыўныя сорак пяць секунд, а калі не паспяваў, а паспець было немагчыма, — Папоў яго біў...

Так працягвалася доўга, месяцы тры.

Гісторыя здзекаў з абламанай запалкай скончылася на палігоне, сцюдзёнай зімой, напрыканцы лютага. Не, Швідкі не застрэліўся, не атруціўся і не засіліўся. Ён нават не перарэзаў сабе на руках вены, хоць мог гэта зрабіць яшчэ ў задушлівай сушылцы. Нож, прылада любога шаўца, з касым лязом, зроблены з палатна нажоўкі, востры, як брытва, быў пры ім. Швідкі яго вастрыў, трымаў і шоргаў аб наждак, а потым правяраў — адрэзваў кавалак гумы адным дотыкам касой дзюбы, ці перасякаў напятую шаўковую нітку. Нітка звонка дзынькала ад лёгкага дотыку вострага ляза.

Сяржант і яго ахвяра разам вартавалі ангары.

Жахлівая думка ўзнікла, з'явілася ў Швідкага раптоўна, як тая ўспышка запалкі сярод ночы. Ён не здзівіўся, а толькі заміргаў бляклымі брудна-зялёнымі вачыма, тарганууся, знізаў плячыма: шынель быў мокры, цяжкі — снег змяніўся дажджом.

Папоў вырашыў адпачыць, яму не хацелася мясіць снег на ветры пад дажджом, а хацелася паспаць пару гадзінак. Ён быў упэўнены, што мае на гэта законнае права. Тым больш, што вартаваць ангары было каму.

Гарэла нядужая дзяжурная лямпачка ў драцяным каўпаку над брамай ангара.

— Пайду пасплю, — сказаў сяржант як пра вырашанае, як пра тое, што абмеркаванню не падлягае.

Грымнулі жалезныя дзверы, сяржант знік у цемры ангара. Швідкі з аўтаматам на плячы пайшоў па натаптанай сцежцы, яго бухматы доўгі цень сунуўся побач, па снезе, які шротам праціналі кроплі дажджу.

Там, у ангары, у куце сяржант Папоў выпіў паўпляшкі самагонкі, яму зрабілася цяплей. Самагонка хоць і патыхала смуродам, але была моцная. Бутэльку ён схаваў за пазуху, аўтамат паставіў побач, уладкаваў пад сцяну і заснуў, з той думкай, што як прачнецца, дап'е гарэлку...

Прачнуўся сяржант ад штуршка ў плячо. Расплюшчыў вочы. Швідкі быў побач, крокі за тры ад яго, але падаўся ён вялізным, як скульптура. Папоў паспрабаваў падхапіцца, але не змог, яго правая рука была прывязана парашутнай страпой да ржавай трубы ацяплення.

Швідкі трымаў у руках аўтамат. Ён моўчкі пазіраў на безабароннага крыўдзіцеля. Папоў адразу зразумеў, што збіраецца зрабіць Швідкі, але збівала з думкі адна дэталь — рука, прывязаная да трубы. Чорная постаць з аўтаматам заставалася нерухомай.

Папоў пачаў палохаць, а потым прасіць прабачэння. Маналог сяржанта быў нядоўгі...

Швідкі зварухнуўся, выцягнуў з кішэні шыняля запалкі, кінуў сяржанту, прымусіў выцягнуць адну. Сяржант выканаў загад салдата.

Потым Швідкі сказаў, каб Папоў узяў запалку ў левую руку, а карабок у правую, прывязаную да ржавай трубы. Парашутная страпа была сплецена з мноства тонкіх шаўковых нітак, з тых, якімі карыстаўся шавец падчас сваёй працы. Яшчэ Швідкі нагадаў свайму кату, што кароценькая запалка гарыць сорак пяць секунд, і пакуль яна будзе гарэць — сяржант будзе жыць. А калі агеньчык згасне, то ён, Швідкі, націсне на курок і сяржанта заб'е. Пра сур'ёзнасць намеру засведчыў гук ператоргнутага затвора. Што азначае гэты гук, мяккі і акрэслены, сяржант разумеў выдатна.

— Запальвай! — прагучаў ціхі загад.

Пальцы не слухаліся...

Запалка пстрыкнула; у сярэдзіне блакітны, а па краях жоўты з залатым вастрыём, як вечнае пёрка самапіскі, агеньчык выхапіў на імгненне папяловы твар сяржанта, яго пазногці...

Агеньчык павольна пачаў з'ядаць запалку, сыходзіць да пазногцяў.

Час пайшоў...

Пачаўся адваротны адлік...

...На скронь яму ўпала цяжкая кропля дажджу і павольна папаўзла па шчацэ. Сяржант крыкнуў словы загаду.

І тут навакольны свет застыў. Стрэльбы былі нацэленыя на Хладзіка, але людзі, якія мусілі яго забіць, знерухомелі. Рука сяржанта скамянела ў незавершаным руху. На каменнай пліце застыў цень пчалы. Вецер застыў, як на карціне. Хладзік паспрабаваў крыкнуць, прашаптаць, падняць руку. І зразумеў, што яго спаралізавала... Ён падумаў: "Я мёртвы, я ў пекле". Потым: "Я звар'яцеў". Потым: "Час спыніўся". Потым да яго дайшло, што ў гэткім выпадку і думкі павінны спыніцца. Вырашыў праверыць; паўтарыў сам сабе чацвёртую загадкавую эклогу Вергілія. Магчыма, што і з салдатамі адбываецца тое ж самае? Захацелася спытаць. Дзіўна, але стома прайшла... Праз нейкі час ён заснуў. Прачнуўся і знайшоў свет такім жа нерухомым і бязгучным. На шчацэ была тая ж кропля, на пліце — цень пчалы, дым кінутай цыгаркі не растаў.

Прайшоў "дзень", перш чым Хладзік зразумеў: ён прасіў у Бога цэлы год, каб скончыць драму — усемагутны даў яму гэты год. Бог зрабіў таемны цуд: нямецкая куля заб'е яго ў прызначаны тэрмін, але цэлы год пройдзе ў яго свядомасці паміж словамі загаду і яго выкананнем.

...Ён скончыў сваю драму. Не хапала аднаго эпітэта. Знайшоў яго. Кропля пакацілася па шчацэ. Хладзік ускрыкнуў, галава тарганулася, чатыры кулі кінулі яго на зямлю.

Ярамір Хладзік памёр дваццаць дзевятага сакавіка ў дзевяць гадзін дзве мінуты ранні.

Запалка гарэла, агеньчык не застыў, як у навеле аргенцінца Борхеса, ён быў жывым, рухавым і пальцы сяржанта пачалі адчуваць гарачыню.

Указальны палец Швідкага ляжаў на рыфлёным жалезе курка.

Запалка гарэла...

Малады лейтэнант, начальнік варты, знайшоў Швідкага і сяржанта ў ангары. Салдат сядзеў на бетоннай падлозе і сціскаў узведзены, гатовы стрэліць аўтамат.

Сяржант пальцамі левай рукі, з абгарэлымі пазногцямі, трымаў неіснуючую запалку і шаптаў: "Яна гарыць. Бачыш, гарыць..."

І Швідкі, і яго ахвяра Папоў скончылі службу — іх камісавалі, бо салдат пасля той ночы ў ангары перастаў гаварыць, а сяржант перастаў спаць. Ён сядзеў на ложку і прыкрываў уяўны агеньчык запалкі далонню, затуляў яго, аберагаў ад скразнякоў і нават свайго дыхання.

## Поглядам беларуса і мінчаніна

**"Вечны горад" кожны ўспрымае па-свойму: хто — праз старажытныя помнікі, якія здзіўляюць і прыгнечваюць велічнасцю, хто — праз магнетызм тых асоб, што ступалі па гэтых вуліцах, хто — праз магазіны, дзе можна знайсці літаральна ўсё — ад танных рэчаў да шыкоўных упрыгожанняў. Але Рым прыцягвае безумоўна ўсіх — тым дзівосным бляскам, які пакінула на ім імперскае мінулае гэтага горада, што стаў помнікам амбіцыям кожнага правіцеля, які не саромеўся скарыстаць створанае папярэднікам, каб дабудаваць альбо ўпрыгожыць гэты помнік сабе...**

**Рым сённяшні тым не менш жыве сучаснасцю, нягледзячы на бясконцых турыстаў ля Пантэона, Калізея ці Сабора святога Пятра. Звычайны тутэйшы італьянец не стаіць, адкрыўшы рот, перад помнікам старажытнасці, ён здольны проста кінуць бляшанку з-пад колы на форуме, паснедаць, седзячы на старажытных прыступках. Ды і сучасная архітэктура больш падпарадкавана законам камфортнасці, чым гістарычнай стылёвасці.**

**Усё гэта — на фотаздымках Міхася Баразны, мастака, мастацтвазнаўцы, фотамайстра, які з нагоды свайго падарожжа (па гранту Фонду Сораса) у "вечны горад" наладзіў выставы сваіх фотаадлюстровак Рыма спачатку ў музеі Беларускай акадэміі мастацтваў, а цяпер — у зале Дома дружбы. І адлюстраванне гэтае ідзе праз асацыяцыю з Мінскам у кантэксце старажытнасці і сучаснасці Рыма. Зрэшты, Мінск — горад, які архітэктурна і стылёва мае карані ў рымскай культуры. Любы акадэмічны архітэктурны тэрмін знойдзе свой рэальны адбітак у будынках пасляваеннага часу на праспекце Скарыны. Ну, а праходзячыся па рымскіх кварталах часоў Мусаліні, адметных шэрай кубападобнай спрошчанай архітэктурай, неяк няўлоўна знаходзіш падабенства з формамі многіх мінскіх пабудоў "савецкага" часу.**

**Удакладню: гэта не параўнанне, а проста погляд беларуса і мінчаніна на вядомейшы з гарадоў праз жаданне зразумець і ўшанаваць свой горад. Кожная імперыя, звяртаючыся да парcaptнага будаўніцтва, скарыстоўвала пышныя формы старажытнай грэка-рымскай архітэктуры. І часта эклектычнае з'яднанне форм старажытнасці з тэматыкай, падказанай ідэалогіяй грамадства, стварала нешта цікавае. Нездарма ж замежныя госці здзіўляюцца цэльнасці і прыгажосці наноў пабудаванага менавіта ў такім стылі пасляваеннага цэнтра Мінска.**

**Праўда, падчас апошняга імперскага ўзлёту Італіі Мусаліні знайшоў досыць ці то такту, ці то разумення, каб новы тып архітэктуры з квадрацікаў-дамоў не знішчыў старажытныя кварталы Рыма. І шкада, што, пераймаючы імперскі бляск Рыма, не пераймаем мы і тактоўнасці ў адносінах да гісторыі — хаця б у архітэктуры...**

**Н. Ш.**

## Музей тэатра лялек



**У Мінску, у Дзяржаўным тэатры лялек сабраны унікальны музей. У яго экспазіцыі сабраны лялькі-героі самых розных спектакляў, што былі ў рэпертуары тэатра за гады яго работы. Тут ёсць прынцы і прынцэсы, вясёлы Бураціна і хітры кот Базіліа, злы Бармалей і Снежная Каралева.**

*На здымку: у музеі тэатра лялек.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

ГАСЦЁЎНЯ

***Ларыса Мурашка — не толькі добра вядомы кампазітар, а і цудоўны педагог, які шмат разважае пра шляхі развіцця нацыянальнай музычнай адукацыі. Ёсць у яе і творы, напісаныя спецыяльна для таго, каб узбагаціць дзіцячы рэпертуар, каб далучыць юнага музыканта да новых сучасных інтанацый і гармоній. Сярод буйных твораў Л. Мурашкі апошнім часам вылучылася паэма для духавога аркестра "Званы Нямігі", якая выконваецца ў канцэртах аркестра "Няміга". Стала піша яна для фартэпіяна — інструмента, якім выдатна валодае яшчэ са студэнцкіх гадоў (фартэпіянны канцэрт быў яе дыпломнай працай). З творча актыўным кампазітарам заўсёды цікава пагутарыць...***

# Душа павінна працаваць...

**— Ларыса Фёдараўна, апошнім часам вамі напісана багата п'ес для маленькіх музыкантаў. Калі ласка, раскажыце, адкуль у вас прыхільнасць менавіта да гэтай галіны творчасці?**

— Увогуле я, як кампазітар, больш схіляюся да дзіцячай і камернай музыкі; мне як мастаку цікава ствараць дзіцячыя вобразы, данесці да дзяцей сучасныя інтанацыі... Напэўна, гэта выклікана і тым, што я сама — маці, я слухаю, гляджу, і кнігі чытаю як бы вачамі дзяцей: добра ведаю свет дзяцінства. Мабыць, і натуральны мой зварот да такой музыкі. Мне падабаецца працаваць для дзяцей, але гэта не проста. Бывае значна прасцей напісаць "дарослую" п'есу, дзе можна "схавацца" за складаную фактуру, паглыбіцца ў змест...

З кожным годам маю ўвагу ўсё больш займае праблема стварэння вучэбна-педагагічнага рэпертуару для розных музычных інструментаў. Ён вельмі патрэбны цяпер у дзіцячых музычных школах. Мой вопыт працы ў Міністэрстве культуры, аналіз твораў сучасных кампазітараў, пастаянныя кантакты з выкладчыкамі пераконваюць: літаратуры такога кшталту не хапае, менавіта педагагічнага рэпертуару, заснаванага на сучасных музычных інтанацыях. Гэтага выдаецца няшмат.

Не так даўно я разам з піяністкай Аленай Васільчанка склала зборнік пад назвай "Фартэпіянная мазаіка" (выдадзены інстытутам праблем культуры). У яго ўключаны поліфанічныя творы, санаты, канцэртныя п'есы, ансамблі... Плануецца і другі выпуск, бо матэрыялу хапае. А што асабліва, на мой погляд, у мяне атрымалася (такое рэдка кампазітары гавораць) — дзіцячы альбом. "Фарбы восені", які складаецца з дзесяці фартэпіянных п'ес...

**— Над чым вы працуеце цяпер?**

— Сумесна з Таццянай Ялецкай, дацэнтам Акадэміі музыкі, вядомай цымбалісткай, мы заканчваем хрэстаматыю для цымбалаў і фартэпіяна. Арыгінальны матэрыял, прызначаецца для пачаткоўцаў, вучняў музычных школ. Хрэстаматыя мае пэўныя метадычныя задачы, у кожнай п'есе адлюстроўваецца адзін з прыёмаў ці штрыхоў, уласцівы для гэтага інструмента. Працую цяпер над санатай для фартэпіяна, якая доўга выношвалася. Яна прысвечана памяці выдатнага педагога — Ірыны Аляксандраўны Цвятаевай, якую я вельмі добра ведала, у сям'і якой я, як музыкант, фарміравалася. Дарэчы, гэта значна ўскладняе задачу — не толькі напісаць санату, прысвечаную Цвятаевай, але самім творам перадаць вобраз непаўторнага музыканта.

**— Вы часта звяртаецеся да жанраў вакальнай музыкі. Ці не з выбару тэкстаў пачынаецца праца?**

— Я выбіраю не тэксты, а вершы. Лічу, што ўжываючы азначэнне "тэкст песні", мы прыніжаем паэта, хаця сустракаюцца і "тэкставікі" — калі паэт піша так званую "рыбу". І толькі самыя прафесійныя паэты здольныя зрабіць пад ужо створаную музыку высокамастацкі паэтычны тэкст — верш. Часцей за ўсё ў песнях "на адзін дзень" адсутнічае сэнс. У асноўным слухачы такіх песень не зважаюць на тэкст, а звяртаюць увагу на рытм і мелодыю.

Досыць даўно я працую з Алесем Емяльянавым. Апошняя мая песня "Голас нябёс" напісана на вершы маладога паэта Івана Ждановіча. Звяртаюся і да высокай паэзіі — Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч. Для мяне ў аснове верша павінен быць сэнс, за якім ідзе мелодыя, бо чым вышэй паэтычны тэкст, тым больш цікавыя атрымліваюцца песні. Чаму, напрыклад, так удала піша вершы для песень Уладзімір Някляеў? Па-першае, ён паэт, па-другое, ён не ўпершыню працуе з кампазітарамі, як пісаць паэтычны тэкст ведае.

**— Як вы працуеце з вершамі паэтаў-сучаснікаў і паэтаў-класікаў?**

— Калі я супрацоўнічаю з Леанідам Пранчаком ці Іванам Ждановічам, паэтычны тэкст можа змяняцца для таго, каб быць разам з музыкай. Класічныя вершы іншым разам даводзіцца карэкціраваць: вялікія — скарачаць (бо песня мае пэўныя часавыя межы), мяняць месцамі страфы, у прыпеве паўтарыць слова, змяніць метрарытм і да т. п. Але разам з тым заўсёды захоўваецца паэтычная аснова. Мне лягчэй працаваць з беларускай паэтыкай: магчыма, гэта генетычная сувязь. У мяне ёсць рамансы на вершы Максіма Багдановіча, хоры на вершы Янкі Купалы...

**— А да так званага "лёгкага" жанру як ставіцеся?**

— Я і сама пішу ў эстрадным жанры. Але мяркую, што цяпер "лёгкі" жанр пераважна аддаецца на водкуп непрафесіяналам — людзям, якія не маюць кампазітарскай адукацыі. Нельга сказаць, што няма ў нас удалых эстрадных песень, але разам з тым існуе шмат шэрых аднадзёнак, створаных непрафесіяналамі. Існуе розніца паміж кампазітарам і аўтарам музыкі да тэксту, як казаў Мікаэл Тарывердзіеў. У сапраўдных кампазітараў, якія працуюць у жанры песні, напрыклад, Ігара Лучанка (аўтара санат і прэлюдый для фартэпіяна), Леаніда Захлеўнага (сімфоніі і харавыя творы), Дзмітрыя Даўгалёва (сімфонія, канцэрт для кантрабаса), Алега Елісеенкава (дзве сімфоніі), талент множыцца на веды, на ўменне, на прафесію. Калі ў іх узнікне патрабаванне душы — яны напішуць і сімфонію, і камерны твор, таму што здольныя гэта рабіць, атрымалі адпаведную адукацыю. А вось некаторыя кампазітары, якія працуюць цяпер на беларускай эстрадзе, — на мой погляд, з'яўляюцца аўтарамі музыкі да тэкстаў. Успомнім нават песні Уладзіміра Высоцкага: пры таленавітасці і ўдалым спалучэнні вершаў і музыкі, іх узаемапранікненні, — іх нельга назваць прафесійнымі песнямі кампазітара. Дый ён сам заўважаў, што піша не песні, а вершы на музыку.

**— Ці ёсць у вас праблемы з выкананнем уласных твораў?**

— Іншым разам выканаўцы самі мяне шукаюць; маю пэўнае кола музыкантаў, да якіх звяртаюся. Напрыклад, усе свае фартэпіянныя творы найперш нясу да Людмілы Андрэеўны Матукоўскай, дацэнта Акадэміі музыкі. Гэта першая выканаўца і суддзя нават маіх самых маленькіх п'ес для дзяцей. Яна ўвогуле актыўны прапагандыст усёй сучаснай беларускай музыкі для фартэпіяна. І лепш за ўсіх выконвае мае творы, блізка ўспрымае і псіхалагічна адчувае асаблівасці маёй натуры, магчыма, гэта — ад рэдкага супадзення нашых тэмпераментаў. А вось пяць фартэпіянных мініяцюр, якія прагучалі на фестывалі сучаснай музыкі восенню 1995 года, выканаў выдатны малады піяніст Дзмітрый Марозаў, лаўрэат міжнародных конкурсаў. Супрацоўнічаю з Таццянай Ялецкай, першай выканаўцай усяго, што я пішу для цымбалаў. Часам яна мне падказвае ў п'есах і штрыхі, і дынаміку. А вось "Драматычная паэма" для фагота і фартэпіяна з'явілася па просьбе заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Будкевіча — спецыяльна да рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на духавых інструментах. Гэта аказаўся першы буйны твор для фагота ў беларускай музыцы — як я потым даведалася. Словам, калі-некалі я прапаную музыкантам свой твор, а калі наадварот — выканаўца просіць нешта напісаць.

**— Ларыса Фёдараўна, вы выкладаеце ў Беларускай акадэміі музыкі на кафедры кампазіцыі і, безумоўна, зацікаўленая ў тым, хто прыйдзе сюды вучыцца ў будучым. І менавіта вы былі выканаўчым дырэктарам І Міжнароднага форуму таленавітай моладзі "XXI стагоддзе — музыка надзеі", які прайшоў у сталіцы пры канцы мінулага года...**

— Як вядома, форум меў на мэце паказаць таленавітую моладзь Беларусі — мастакоў, выканаўцаў, юных кампазітараў; прайшла і навукова-практычная канферэнцыя з удзелам педагогаў, якія працуюць з дзецьмі-кампазітарамі. Спадзяюся, што гэты форум стане традыцыйным і дапаможа юным талентам знайсці свой шлях да вялікага мастацтва.

**— Дарэчы, вы былі ў журы конкурсаў юных кампазітараў "Надзея". Падчас апошняга з іх прагучаў шэраг балетаў. Ці заўсёды апраўданы зварот юных кампазітараў да гэтага жанру?**



— Выкажу досыць рэзкую думку. Гэтую музыку нельга аднесці да жанру балета, хутчэй за ўсё гэта харэаграфічныя сюіты. З усіх прапанаваных на конкурс твораў балетам магу назваць творы Цімура Шчарбакова "Лясная сюіта", дзе ёсць адзіная музычная канва. Усё іншае можна лічыць дзіцячымі эксперыментамі, удалымі з музычнага пункту гледжання, але не адпаведнымі жанраваму вызначэнню балета. І, дарэчы, Цімур Шчарбакоў, які атрымаў Гран-пры, зрабіў па-прафесійнаму сумленны ўчынак, назваўшы сваю музыку харэаграфічнай сюітай. Тое ж датычыцца і "дзіцячых опер".

**— А як вы ўспрымаеце творчыя эксперыменты юнай лідчанкі Дзінары Мазітавай?**

— Мне вельмі складана разважаць... Лічу, што гэтую дзяўчынку ўзнялі на такую вышыню, што крытыкаваць яе проста немагчыма. І я тут баюся аднаго: ці вытрымае яна — чалавек неардынарны, таленавіты — выпрабаванне "меднымі трубамі", славай? Бо кампазітару разам з упэўненасцю патрэбны сумнеў і творчае незадавальненне, каб рухацца наперад. Музыка Дзінары падабаецца, нават пастаўлены яе балет "Дзюймовачка". А вось "Чарадзейная флейта", на мой погляд (выкажуся рэзка), — гэта прэтэнцыёзная заяўка на ролю беларускага Моцарта. І гэты твор мяне не пераканаў — ні як кампазітара, ні як педагога.

Але ўсё ж добра, калі нашыя дзеці спрабуюць сябе ў розных жанрах, у тым ліку ў такіх складаных, як балет і опера. Як вы памятаеце, і Сяргей Пракоф'еў пачынаў творчы шлях з оперы "Велікан". Але хацелася б, каб нашы юныя музыканты перш за ўсё атрымалі пачатковую базу: уменне пісаць у малых жанрах, працаваць з матэрыялам. Інакш кажучы, спачатку трэба напрацаваць неабходны для кампазітара грунт, што дазволіць дзецям знайсці свой шлях у прафесійнае мастацтва, да якога яны павінны імкнуцца.

**— Дзякуй, Ларыса Фёдараўна, за змястоўную гутарку.**

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

МАЙСТЭРНЯ

# "А я раблю тэатр"

***З рэпертуарнымі лозунгамі, у цвёрдай ідэалогіі — на "Сініх конях на чырвонай траве" надта нязручна выбірацца ў "Вішнёвы сад". Так тлумачыць Віктар КЛІМЧУК пэўны заняпад беларускае драмы. Ён, рэжысёр-лялечнік, усё жыццё аддае перавагу "Папялушкам", "Салаўям", "Дзедам і жоравам", і пачуваецца абаронцам іхняй кволай наіўнай кампаніі, і пра сябе мяркуе, як пра чалавека моцнага. Маўляў, у тэатры цяпер засталіся і працуюць хіба тыя, каму выстачае моцы... не ўцякаць. Трымацца. І — ствараць. Зрэшты ў тым, як ставяцца да мастака, вінаваты сам мастак...***

***Разам з галоўным мастаком тэатра Алесем Сідаравым Клімчук мроіць пра "Крэсіва" ды "Брэменскіх музыкаў". Была мара паставіць "Бар'ер" Вежынава, пачаў быў рабіць інсцэніроўку для тэатра лялек з перакананнем, што матэрыял вельмі надзённы але... Мінулі дні, мінула надзённасць. Праблемы, на думку Клімчука, зрабіліся жорсткімі.***





— Наша жорсткая праблема, — працягвае Віктар, — зацікавіць лялькамі дарослую публіку. Прытым, што глядач наш, дзіцячы, не толькі ёсць. Ён прывучаны да таго, каб білеты купляць у касе. Каб трымацца ў тэатры... салідна. Лялечны тэатр у Віцебску працуе як драматычны — на стацыянары. Я гэтага хацеў заўжды і дамогся. Але дарослая публіка — гэта іншае тэатральнае вымярэнне. Іншы тэатральны аб'ём, іншая мова. Чаго яна пакуль чакае ад нас? Забавы. Што ж, напачатку і забаву можна прапанаваць. А Віцебск я ведаю. Скажам, на адзін спектакль "Майстар і Маргарыта" мы публіку завабім, а вось на другі... Нават з тым узроўнем, які, здаецца, гарантуе літаратура... Умовы, у якіх мы працуем, трэба вывучаць у зменлівасці іхняй! І я цудоўна ўсведамляю розніцу паміж творчасцю й вытворчасцю. Калі не будзе рупіць першая, дык другая прайграе.

**— Віктар, а ці можна ўсур'ёз казаць пра эстэтычныя запатрабаванні на сцэне ў безграшовы і малакультурны (пабытавы) час?**

— Нават у размовах з Сідаравым мы не дапускаем заяў кшталту "зробім гэта на тры рублі". Сідараў, скажам, усё праектуе, нібыта ў яго процьма сродкаў і безліч магчымасцяў. Алесь прызнаўся неяк, што "Лялька" ў ягонай практыцы — першы тэатр, які так пільнуе сваю ліштву. Сваіх "Папялушак" ды "Хлопчыкаў-зорак". Дзяцей неабходна здзіўляць, а каб здзіўляць, варта пастарацца... Ды мы ўжо... старыя мы, каб рабіць блага. Ну, дарослыя...

**— Нядаўна мы адсвяткавалі твой юбілей. Ці можаш ты сёе-тое падрахаваць?**

— Я скажу, чым адрозніваюся ад калегаў-кіраўнікоў, ад калегаў-лялечнікаў: яны робяць спектаклі, а я раблю тэатр. Бо адзін, два, тры спектаклі тэатра не зробяць. Для мяне ўзор — тэатр Ляляўскага-старэйшага. Або Вальхоўскага ў Расіі. Не, не геніяльныя спектаклі ў іх, але якая традыцыя абыходжання з матэрыялам — літаратурным, чалавечым! Якая любоў да сцэны, да прафесіі! Якая адметная тэатральная традыцыя, і яна не якарам у нагах блытаецца, а з'яўляецца тым коранем, які жывіць. Мы традыцыйна адкрываем сезон "Дзедам і жоравам". Традыцыйна вызначаем лепшыя ролі сезона сярод мужчын і жанчын, вылучаем лепшых выканаўцаў эпізоду. Рыхтуем падарункі з дарчымі надпісамі. Стараемся, каб праграмка з'яўлялася на спектакль, — я пасля прэм'еры кожнаму акцёру гэтыя праграмкі падпісваю. З пажаданнямі. Ва ўсіх гэтых дробязях ёсць прыхаваны тэатральны і выхаваўчы сэнс: я прагну... старога, фундаментальнага, у лепшым сэнсе кансерватыўнага тэатра! Для дзяцей і дарослых. Разам. І білеты прададзены за месяц, і — праз касу, чым ганаруся.

**— Віктар, у "Ляльці", здаецца, ёсць шмат з таго, чаго так бракуе іншым тэатрам...**

— А больш за што іншае бракуе ўражанняў ад тэатра. Мы ў гэтым будынку — толькі тры гады, а раней гледачы казалі, маўляў, якія добрыя лялечныя



спектаклі ў драматычным тэатры, бо мы месціліся там. Дык, бывае, і цяпер па старой памяці... просяць у драме... тых уражанняў. Дзякаваць Богу, не просяць ужо шырмаў. Згадзіліся з чалавекам каля лялькі. І калі я дазваляю сабе нейкі кампраміс, дык... толькі з карысцю для мастацтва. Каб не чуць побытавага — "кукельный театр". У Віцебску кажуць — лялечны.

**З Віктарам КЛІМЧУКОМ**
**размаўляла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

*На здымках: сцэны са спектакляў "Дзед і Жораў" і "Чароўная зброя Кінзо".*

г. Віцебск

ВАНДРОЎКІ

# Праменад па Мюнстэру

Згадалася мне гісторыя пра мюнстэрскі праменад. Вакол ранейшага шматкіламетровага абарончага мура з'явілася замкнёная па колу сцежка, паабапал якой узняліся магутныя вялікія дрэвы. Па гэтай сцежцы можна цяпер крочыць, не баючыся, што нехта ўмяшаецца ў лад тваіх думак, спакусіцца на тваю свабоду. Тут — у праменадзе — чалавек пераможца сваёй прымітыўнай дзікасці. Тут можна не баяцца, што заблукаеш — "усё вернецца на кругі свая".

Прыгадалася гэта з нагоды афіцыйнага візіту дэлегацыі Беларускай акадэміі мастацтваў на чале з яе рэктарам Васілём Шаранговічам у горад Мюнстэр, а калі больш дакладна — то ў Мастацкую акадэмію аднаго з самых найпрыгажэйшых гарадоў Нямеччыны. Візіт быў насычаны наведваннем майстэрняў акадэміі, экспазіцый буйнейшых мастацкіх збораў — Мюнстэра, Кёльна, Дзюсельдорфа, Рэкленхаўзена, маленькага і ўтульнага Бэкума. Адбылося знаёмства з самай вядомай акадэміяй Нямеччыны — Дзюсельдорфскай. Значнасць візіту была нададзена афіцыйным прыёмам у бургамістра Мюнстэра ў сусветна вядомай зале, дзе быў падпісаны Вестфальскі мір.



Паміж дзвюма вышэйшымі мастацкімі навучальнымі ўстановамі апошні час склаліся даволі інтэнсіўныя ўзаемаадносіны і кантакты. "ЛіМ" ужо распавядаў пра выставу майстэрні жывапісу прафесара Уда Шэля, якая адбылася ўвосень 1995 г. падчас святкавання 50-годдзя Беларускай акадэміі мастацтваў. Летась на месяц былі запрошаны для працы ў нямецкай навучальнай установе мінскія студэнты. Трохтыднёвую стыпендыю для прабывання ў Беларускай акадэміі мастацтваў атрымалі два студэнты з Мюнстэра. Толькі гэты факт сведчыць аб праяўленні цікаўнасці да нашай мастацкай адукацыі з боку адной з самых вядомых дзяржаўных навучальных устаноў Нямеччыны. У рамках усходнееўрапейскай праграмы, распрацаванай Мастацкай акадэміяй Мюнстэра, з нагоды 25-годдзя яе заснавання, адбываўся візіт дэлегацыі беларускай акадэміі. Нямецкі бок сам загадзя інфармаваў аб сваім жаданні ўбачыць у сваіх сценах выстаўку акадэмічнага малюнка і друкаванай графікі беларускіх студэнтаў.

Міжнародныя культурныя кантакты акадэміі — не лакальная з'ява, яны закранаюць пэўныя праблемы далейшага развіцця беларускага сучаснага мастацтва. Па-першае, не трэба забывацца, што Беларуская акадэмія мастацтваў — адзіная навучальная ўстанова ў краіне, дзе вядзецца падрыхтоўка прафесійных мастакоў па вельмі шырокім спектры спецыяльнасцей. Значная большасць прадстаўнікоў беларускага мастацтва прайшлі прафесійную школу былога тэатральна-мастацкага інстытута, а цяпер акадэміі. Актуальнасць прафесійных кантактаў уяўляецца мне важкай і з-за недастаткова збалансаваных кантактаў прафесійнага беларускага мастацтва з замежным мастацкім вопытам. У пэўнай ступені ў вядомасці беларускага выяўленчага мастацтва ёсць і не зусім натуральны грунт, энспіраваны спекуляцыяй на жудаснай чарнобыльскай трагедыі.

Сумна і на вялікі жаль, але самая вялікая экалагічная катастрофа XX стагоддзя стала сапраўды ледзь не галоўнай адпраўной кропкай і крытэрыем ацэнкі беларускага мастацтва за мяжою. Чарнобыль змяніў разуменне ў грамадскасці Беларусі ролі мастацкай культуры. Пасля выбуху афіцыйная таталітарная культура замерла ў сваім і так не надта высокім палёце, яна аказалася "голым каралём", не здатным зразумець, што галоўнымі для чалавека ёсць праблемы гэтага чалавека, а не адной арганізацыі. На жаль, у мастацтве адлюстраванне таго, што адбылося, яшчэ не выйшла за межы публіцыстычнасці, якая і дазваляе многім "дзеячам" спекуляваць на народнай трагедыі. Гэта з'ява ў беларускай культуры не паспрыяла сапраўднаму развіццю айчыннага мастацтва. Асноўнымі для мастакоў заставаліся прагматычныя асабістыя пытанні "чарнобыльскага экспарту". Абмежаванасць інфармацыйнага абмену не дазваляла нашаму грамадству дакладна дазнацца, якім кшталтам той ці іншы мастак сцвердзіў сябе за межамі Беларусі. Аднавіць сапраўдныя прафесійныя кантакты, не звязаныя з вышэйназванымі працэсамі, і меркавалася падчас візіту прадстаўнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў у Нямеччыну.

Такія ўзаемныя кантакты — адкрыты і натуральны працэс развіцця мастацтва, пачатак узаемакарыснага супрацоўніцтва паміж рознымі мастацкімі школамі. Можна ўпэўнена сказаць, што лепшымі дасягненнямі нашага мастацтва мы можам шчыра ганарыцца ў любым кутку свету. Праблемы, зразумела, ёсць, з'явяцца новыя, аб якіх яшчэ не здагадваемся. Але галоўнае — адкрытасць для любых форм супрацоўніцтва. І адназначна магу сцвярджаць, што Беларуская акадэмія мастацтваў не з'яўляецца ў гэтым сэнсе артадаксальна кансерватыўнай установай, нашчадкам таталітарнай культуры. Хто думае інакш, знаходзіцца ў полі суб'ектыўнасці, спрашчае формы сапраўднага прагрэсу.

Ідэі роўнасці і партнёрства панавалі ў час знаходжання беларускай дэлегацыі ў Мюнстэры. Дэманстрацыя сапраўднай прафесійнай зацікаўленасці стала адкрыццё нашай выставы. Сярод прадстаўнікоў экспазіцыі

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Сцяжынка да святла" —

**так называецца адна з работ мастачкі з Браслаўшчыны Аліны Трукан. Паміж цёмных ствалоў старых дрэў пралегла сцяжынка да храма, насустрач ранішняму сонцу. І гэты сюжэт не толькі ўспаміны дзяцінства. Усё сваё жыццё і творчасць Аліна здолела настроіць на светлы лад.**



**Нарадзілася і вырасла Аліна Трукан на Браслаўшчыне. Толькі на час вучобы ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве ў Мінску пакідала яна свой цудоўны край, каб ужо жывапісцам вярнуцца сюды назаўсёды.**

**Жыве Аліна з мужам Паўлам у вёсцы Дворышча, выхоўвае трох сыноў. І якім духоўным зарадам трэба валодаць, каб аддаючы масу энергіі сям'і, знайсці сілы для творчасці. Працуе Аліна шмат і натхнёна. І як вынік — удзел яе работ у рэспубліканскіх выстаўках, персанальная выстаўка "Святло майго кахання" ў Браславе і Віцебску.**

**Аліна натхнёна займаецца іканапісам. Праца над іконамі дорыць ёй душэўны спакой, які і памог знайсці тую самую сцяжынку да светлага ўспрымання свету.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

## "Узвышша" — гэта гісторыя

**нашай літаратуры, бо часопіс, які пад такой назвай у 1927—1930 гадах выдавала літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Узвышша", а ў 1931 годзе (апошні год жыцця гэтага часопіса) — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, змясціў нямала твораў, якія смела можна назваць яе так званым актыўным запасам. Сярод іх — "Лявон Бушмар", "Сястра", "Ідзі, ідзі", "Бацькаўшчына" К. Чорнага, паэмы "Кругі", "Наля", "Штурмуйце будучыні аванпосты!" У. Дубоўкі, творы Я. Пушчы, А. Мрыя, У. Хадыкі, А. Звонака. У часопісе пабачылі свет раздзелы з аповесці Я. Коласа "У глыбі Палесся", яго алегарычныя казкі, некаторыя вершы. Змяшчаліся таксама перакладныя творы, грунтоўна заявіла пра сябе крытыка.**

**М. А.**

## Тыдзень дзіцячай кнігі

**У Доме літаратара, у Мінску, адбылося ўрачыстае адкрыццё "Тыдня дзіцячай кнігі". У фае была разгорнута "кніжная крама", дзе бойка ішоў гандаль любімымі кнігамі дзяцей. А потым быў канцэрт для юных аматараў літаратуры.**

*На здымку: працуе "кніжная крама".*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

УГОДКІ

# У пошуку... Алазанскай даліны

Успомніць добрым словам пісьменніка, які пайшоў з жыцця, — гэта, найперш, прыгадаць яго творы, паспрабаваць вызначыць, якое месца займаюць яны ў сучаснай літаратуры. Аднак жа важна згадаць і ягонае жыццё, бо яно ж, безумоўна, паклала адбітак і на творчасць. У дачыненні да Кастуся Губарэвіча гэта трэба рабіць яшчэ і таму, што напісанае ім стала як бы мастацкім летапісам грамадства на працягу не аднаго дзесяцігоддзя.

Кастусь Лявонцьевіч родам з сялянскай сям'і, якая жыла ў вёсцы Радучы цяперашняга Чавускага раёна. Пры савецкай уладзе паступіў у тагачасную школу 2-ой ступені, у якой захапіўся мастацкай самадзейнасцю, стаў актыўным удзельнікам вучнёўскага драматычнага гуртка. Любоў да літаратуры знайшла працяг падчас вучобы ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме. К. Губарэвічу пашанцавала на настаўнікаў. Родную мову і літаратуру выкладаў В. Гарбацэвіч, які потым стане вядомым драматургам, спевы — М. Чуркін, які ўвайшоў у гісторыю беларускай музыкі як адзін з самых знакамітых кампазітараў.

Свой творчы шлях К. Губарэвіч пачаў з вершаў і апавяданняў, якія ў 1926 годзе, за год да заканчэння тэхнікума, былі змешчаны ў газеце "Чырвоная змена", часопісе "Маладняк", альманаху "Дняпроўскія ўсплескі". Але вабіла і драматургія — той невядомасцю, сакрэты якой па-сапраўднаму можна раскрыць толькі стаўшы прафесіяналам. Таму, папрацаваўшы настаўнікам на Гомельшчыне, у рэдакцыі газеты "Палеская праўда", Кастусь Лявонцьевіч у 1931 годзе скончыў сцэнарнае аддзяленне Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве. На гэты час змог патрымаць ужо у руках сваю першую кнігу — зборнік апавяданняў з назвай у духу часу — "Гайда туды і Жывыя шрубы".

Але не проза прынесла К. Губарэвічу вядомасць, а драматургія. Праўда, значна пазней. А пакуль ён працаваў рэдактарам сцэнарнага аддзела кінастудыі "Беларусьфільм" — спачатку ў Ленінградзе, потым — у Мінску, галоўным рэдактарам студыі дакументальных фільмаў. У гады вайны быў рэдактарам радыёстанцыі "Савецкая Беларусь", з 1944 года загадваў аддзелам палітвяшчання і літаратурных перадач на Беларускім радыё.

Пачаткам працы ў драматургіі стаў 1948 год, калі разам з І. Дорскім К. Губарэвічам была напісана драма "Цэнтральны ход", у якой расказваецца пра легендарнага Канстанціна Заслонава і яго паплечнікаў. Дарэчы, гэта быў не першы зварот да згаданай тэмы — годам раней з'явілася п'еса А. Маўзона "Канстанцін Заслонаў". Аднак К. Губарэвіч з І. Дорскім не паўтаралі свайго папярэдніка, пашырыўшы часавыя межы дзеяння, якое адбывалася ўжо не толькі на чыгуначнай станцыі Орша, як у "Канстанціне Заслонаве", а і ў партызанскім атрадзе. Праўда, з-за адсутнасці належнага вопыту з матэрыялам цалкам справіцца не ўдалося. У п'есе не заўважалася агульнага стрыжня, які б знітоўваў асобныя эпізоды і надаваў бы твору кампазіцыйную цэласнасць і стройнасць.

Разам з І. Дорскім К. Губарэвіч напісаў і камедыю "Алазанская даліна". Твор атрымаўся светлым, лірычным, жыццярадасным. З агледзін сённяшняга дня ў ім, зразумела, лёгка заўважыць пэўную лакіроўку рэчаіснасці, але ж не будзем забываць, які тады быў час. З аднаго боку, афіцыйны дыктат над літаратурай і над тэатрам — у прыватнасці. З другога — людзі, што перажылі акупацыю, вайну, хацелі па-сапраўднаму радавацца жыццю і, калі ў паўсядзённасці аптымізму не ставала, дык яго і неслі з тэатральных падмосткаў менавіта такія творы, як "Алазанская даліна".

За больш чым трыццаць гадоў сцэнічнага жыцця (апошняй пастаўленай яго п'есай стала "Даруй мне", якая ажыла на тэатральных падмостках у 1980 годзе) з'явіўся па сутнасці тэатр К. Губарэвіча, які меў шырокі і разнастайны жанравы дыяпазон. Кастусю Лявонцьевічу па сіле былі гераічная і гісторыка-рэвалюцыйная драма, яго вабіла сатырычная і лірычная камедыя, не абыходзіў ён ведэвіль і фарс. Пры гэтым імкнуўся закранаць матэрыял, які даваў магчымасць для шырокага даследавання жыцця, а разумеючы, што дасягнуць гэтага няпроста, часам да адной тэмы звяртаўся па некалькі разоў.

Прынамсі, так стала, калі К. Губарэвіч узяўся за асэнсаванне подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Пачатак быў пакладзены яшчэ ў 1950 годзе, калі нарадзілася п'еса "Цытадэль славы". Тады, як вядома, пра легендарных пагранічнікаў ведалі вельмі мала. Спектакль, пастаўлены купалаўцамі, стаў адкрыццём. І тэмы, да якой пасля неаднаразова будзе звяртацца літаратура, у тым ліку і драматургія. І К. Губарэвіча — як яркага драматурга. Яшчэ большы поспех мела другая рэдакцыя гэтай п'есы — "Брэсцкая крэпасць". З 1953 года яна трывала прапісалася ў рэпертуары тагачаснага Брэсцкага абласнога тэатра імя ЛКСМБ, а ў 1967 годзе спектакль быў адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола. З нагоды 30-годдзя гэтай пастаноўкі "ЛіМ" слушна адзначаў у сваім рэдакцыйным артыкуле: "Па колькасці паказаў "Брэсцкую крэпасць" у тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі можна параўнаць толькі з класічнай "Паўлінкай" у купалаўцаў". А Кастусь Лявонцьевіч напісаў і трэці варыянт твора — "Людзі і каменне" (1969). Не мог не напісаць, бо сталі вядомы новыя факты пра абарону крэпасці, бо вярнуліся з небыцця імёны тых, хто ў першыя дні вайны стрымліваў націск фашыстаў.

Двойчы звяртаўся К. Губарэвіч да паслякастрычніцкіх падзей, да часу станаўлення савецкай улады, калі трэба было любой цаной ўратаваць (так, любой!) краіну. Сення мы добра ведаем, што многае рабілася ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры. Але не трэба патрабаваць ад мастака слова таго, чаго ён не мог сказаць. Неабходна падыходзіць да напісанага з пазіцыі таго, наколькі яно па-мастацку значнае. А К. Губарэвіч здолеў глыбока асэнсаваць тагачасныя падзеі. Таму спектаклі, пастаўленыя па яго гісторыка-рэвалюцыйнай драме "Галоўная стаўка" (другі варыянт "Брэсцкі мір"), мелі шырокі рэзананс, высока ацэньваліся крытыкай.

Паспяхова працаваў К. Губарэвіч і ў галіне кіно. Асабліва поспеху дасягнуў, стварыўшы сцэнарыі фільмаў "Дзяўчынка шукае бацьку" (разам з Я. Рысам), "Анюціна дарога", "Паланез Агінскага". За іх і быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР (1972), а яшчэ ў 1968 годзе за першыя два — прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Але творчая праца не перашкаджала Кастусю Лявонцьевічу ў пасляваенны час загадваць некаторы час аддзелам мастацтва ў "ЛіМе", быць членам рэпертуарнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", а з 1966 па 1974 год — галоўным рэдактарам рэпертуарнай калегіі Міністэрства культуры БССР.

У спектакляў, на жаль, куды карацейшы век, чым у кніг. І таму пра многія можна даведацца толькі па сведчаннях крытыкаў, якія ў свой час маглі іх пабачыць. Ды толькі гэтыя меркаванні не пазбаўлены, як вядома, суб'ектыўнасці. Каб атрымаць больш поўнае ўяўленне пра пэўны твор драматургіі, лепей самому прачытаць яго.

Надарыцца вольная хвіліна, зрабіце так і ў дачыненні да спадчыны К. Губарэвіча — балазе, яго творы неаднаразова выдаваліся. Магчыма, патраліць у рукі і "Алазанская даліна". Думаю, шаноўны чытач, твой позірк запыніць гэты невялічкі маналог, калі адна з гераінь пераконвае свайго мужа, чаму не можа пераехаць у Грузію: "Ты скажаш, што і там можна рабіць, што і тую зямлю трэба любіць, і праўда твая. Але ж ці можа маці пакінуць сваё дзіця! А гэта ўсё вакол, што ты бачыш, як дзіця маё. Дык не адрывай мяне ад яго, не магу я пакінуць, калі яно толькі-толькі на ногі становіцца... Табе цяжка пакідаць сваю Алазань, дык зірні, Шота, вось на тую даліну. Няхай яна стане для цябе нашай Алазанскай далінай, і павер мне, што яна будзе не горшая за тваю..."

І ў сваёй творчасці К. Губарэвіч шукаў Алазанскую даліну, расказваючы пра родную Беларусь і яе людзей так, наколькі дазваляў талент. А сапраўдны талент часу не падуладны, бо ён заўсёды знаходзіцца не толькі ў часе, а і па-за часам. У чым і пераконвае ўсё лепшае з напісанага К. Губарэвічам.

Сёлета Кастусю Лявонцьевічу споўнілася б 90 гадоў... І дзесяць гадоў, як яго няма з намі.

Успомнім жа яго добрым словам. Успомнім, бо гэтага ён заслужыў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Праменад па Мюнстэру

*(Працяг. Пачатак на стар. 11)*

акадэмічнага малюнка і друкаванай графікі былі сённяшнія навучэнцы акадэміі, нядаўнія яе выпускнікі і тыя, хто ўваходзіць у сённяшнюю мастацкую эліту. Не трэба забываць, што прывезеную з Мінска выставу глядзелі тыя, хто не адчувае недахопу сусветна вядомых шэдэўраў у сваіх музеях. Экспазіцыя не пакінула абыякавымі студэнтаў і прафесараў Мастацкай акадэміі Мюнстэра: кожны дзень узнікалі пытанні, якія сведчылі аб жаданні больш дазнацца аб нашым мастацтве і прынцыпах мастацкай адукацыі.

На адкрыцці выставы выступілі рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў В. Шаранговіч і рэктар Мастацкай акадэміі Мюнстэра М. Шнэкенбургер.

Прынцыпы мастацкай адукацыі толькі ў самой Нямеччыне істотна адрозніваюцца. Тутэйшая школа, якая абапіраецца на сістэму сярэдняй мастацкай адукацыі, больш скіравана на засваенне асноў майстэрства, якое забяспечвае свабоднае, нескаванае ўвасабленне складаных мастацкіх вобразаў. Сучасная мастацкая адукацыя ў Нямеччыне бліжэй да філасофскай адукацыі. Яна патрабуе доўгатэрміновай дыскусійнасці ў мастацкім асяроддзі папярэдне адлюстраванню ў канкрэтныя творы. Гэта сістэма з першых семестраў навучання акцэнтуе ўвагу на раскрыцці і індывідуальных якасцей студэнтаў. Наша мастацкая адукацыя прадугледжвае поўную мастацкую свабоду толькі пасля засваення традыцый акадэмізму. Якая сістэма адукацыі лепш, якая горш, — калі сур'ёзна адказваць на гэта пытанне — даніна часу ідэалагічнай рэгламентацыі мастацкага жыцця.

Важней зрабіць рэальны ўклад у развіццё традыцый мастацкай адукацыі на Беларусі. Замежны вопыт таксама можа стаць карысны. Натуральна, што мы будзем патрыётамі беларускага сучаснага мастацтва. Але гэтае мастацтва павінна быць зразумелае і ў іншых краінах, несці рысы наватарства і пэўнага лідэрства.

Памыляецца той, хто чакае нейкага мастацкага рэваншу альбо "згінвання" адной з форм сучаснага мастацтва. Новае мастацтва мае шансы не ўвасабляць ідэалагічнае супрацьстаянне, не быць адлюстраваннем антыкультурнай камерцыі. Гісторыя Еўропы стварыла дзіўную сіметрычную сітуацыю, калі Усход і Захад зноў патрэбны адзін аднаму. Вось тут і важна, якім будзе грунт развіцця ўзаемных кантактаў — спекулятыўным альбо партнёрскім. Таксама трэба памятаць, што здараецца, калі добрыя боты мяняюць на кеды. У культурных кантактах і абменах павінны ўдзельнічаць сапраўдныя прафесіяналы, адданыя сваёй справе, а не "ліпавыя" спецыялісты. Толькі пры такіх умовах можна спадзявацца, што беларускае мастацтва вырвецца з цесных абдымкаў калядных кірмашоў і танных заходніх галерэй. Выключную ролю тут якраз могуць адыграць узаемныя кантакты паміж уплывовымі мастацкімі навучальнымі ўстановамі.

Пачатак плённага супрацоўніцтва быў пакладзены падпісаннем падчас візіту "Пагаднення аб партнёрстве" паміж Беларускай акадэміяй мастацтваў і Мастацкай акадэміяй Мюнстэра. Гэта першы факт за апошнія гады скарыстання формы цеснага супрацоўніцтва паміж мастацкімі акадэміямі дзвюх краін.

**Міхал БАРАЗНА**

*На здымку: падпісанне "Пагаднення аб партнёрстве".*

МІТРЭНГІ

Амаль паўтара дзесятка гадоў назад давялося мне далучыцца да так званага племя аўтааматараў (тады членства ў ім нават пазначалася спецыяльнымі пасведчаннямі і платай капеечных узносаў). З тае пары шмат вады сплыло, і змены адбыліся велізарныя: згаданае досыць малалікае племя разраслося ў вялікі аўтамабілізаваны народ, колішнія "масквічы", "жыгулі" ды "запарожцы" патанулі ў масе самых разнастайных "іншамарак", тадышнія дробныя нязручнасці абярнуліся невырашальнымі праблемамі. Прыгадаем хоць бы надта шырока цытаванае тады выслоўе пра тое, што аўтамабіль — не раскоша, а сродак перамяшчэння. Яно калісь успрымалася адназначна: раскоша! Для перамяшчэння ёсць цягнікі, электрычкі, аўтобусы, трамваі, тралейбусы, нават самалёты, калі ўжо на тое пайшло, а вось аўтамабіль — само сабою, уласны — гэта, безумоўна, раскоша. А сёння? Паставіла пытальнік і — спатыкнулася. Сёння адказ просіцца нейкі такі: як для каго. Для адных аўтамабіль — сродак "збіваць" капітал: прыгнаў з-за мяжы танную "бабульку", падрамантаваў-падмаляваў, прадаў (удвая-ўтрая даражэй, вядома), зноў прыгнаў і зноў прадаў. Для другіх — сапраўды сродак перамяшчэння — пракаціцца з ветрыкам на "мерседэсе" ці "бээмвэшцы" на зайздрасць суседзяў і саслужыўцаў. Для трэціх, і гэтых пераважная большасць, аўтамабіль — цягавіты і ратоўчы "конік", без дапамогі якога не прывязеш бульбачку, капустачку, бурачкі-агурочкі з чатырох-шасцісоткавых лецішчаў, якіх развялося гэтак жа шмат, як і аўтамабіляў (ці наадварот). Для гэтай пераважнай большасці "аўтааматараў" машына аніякая не раскоша сёння, а ратавальніца, але — і грабежніца, спусташальніца сямейных бюджэтаў. Тысячы і тысячы людзей, якія калісьці, "за лепшым часам", набылі машыны, гадамі збіраючы на яе грошы, сёння ўжо не ў стане даглядаць сваю "цяглавую сілу" — і запчасткі дарагія (а іх усё больш трэба), і бензін даражэе з месяца ў месяц, і плата ў гаражах і на стаянках расце, як на дražджах: сапраўды, жаданні нашы ўсё больш і больш не супадаюць з магчымасцямі. Аднак жа ўся "соль" у тым, што і развітацца са сваім "конікам" чалавеку нялёгка, ну проста немагчыма. Мае ролю тут, вядома, і прывычка (якая, як сказаў паэт, "свыше нам дана"), але галоўнае — жыццёвыя варункі. А яны такія сёння, што без свайго аўто — як без рук, часта проста не абысціся, тым больш, што пры ўсёй дарагавізне бензіну сям'ёю ехаць на аўтамабілі пакуль што не даражэй, чым на аўтобусе.

Ну, ды гэта ўсё — запеўка, а песня, як кажуць, наперадзе. І "песня" гэтая трошачкі пра іншае, хоць таксама, вядома ж, на аўтамабільную тэму. Правільней — аўтамабільна-дарожную. Які ўжо год, і з кожным годам усё больш, я адчуваю сябе на дарозе за рулём некамфортна, калі можна гэтак сказаць. Разумею: машын стала куды больш, стан нашых дарог, на жаль, амаль не палепшыўся, а пешаход, пэўна, і пагоршыўся, — значыць, дысцыпліна і парадак на дарогах павінны быць куды больш строгія. А ўражанне — быццам адваротнае. Не дарога, якая рэгулюецца дакладнымі правіламі і нормамі (павінна рэгулявацца, прынамсі!), а — нейкае "гуляй поле". Едзеш і, як той казаў, дзіву даешся: хто побач, наперадзе і ззаду ў цябе? Імчацца на злом галавы, быццам не бачаць, што хуткасць тут абмежавана эннай колькасцю кіламетраў у гадзіну, абганяюць адзін аднаго і справа, і злева, з паласы на паласу пералятаюць, нібы ў гэтай справе наогул не існуе аніякіх правілаў.

Мо пра гэта не трэба было і гаворкі заводзіць, калі б "свавольства" на дарогах не спараджала проста-такі жудаснай статыстыкі ДТЗ. Не ведаеце, што азначае гэтая абрэвіятура? Усяго-наўсяго — дарожна-транспартныя здарэнні. Звесткі з дарог — як звесткі з поля бою. Валасы дуба становяцца, калі ўдумаецца: за год на дарогах нашай краіны гіне да 2 тысяч чалавек. Падзяліце на колькасць дзён: атрымліваецца — 5-6 чалавек штодня. Штодня! Толькі ў Мінску летась адбылося 768 ДТЗ, у якіх 107 чалавек загінула і 776 чалавек паранена і знявечана. Страшна сядаць пасля гэтых лічбаў за руль, аднак жа сядаем і едзем, едзем, едзем...

Карацей кажучы, даўно карцела пагутарыць з начальствам Дзяржаўнай аўтаінспекцыі, ад якой у першую чаргу залежыць дысцыпліна і парадак на дарогах. Даў згоду на сустрэчу начальнік ДАІ Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама А. СІДАРЭНЯ.

# Эх, дарогі, гора ды трывогі...

— Што прывяло газету творчай інтэлігенцыі Беларусі ў ДАІ? — апярэдзіў мае пытанні Анатоль Мікалаевіч, трошкі гулліва выяўляючы сваю дасведчанасць адносна нашага штотыднёвіка і заадно намякаючы на пэўную дыстанцыйнасць сваёй службы ад звычных зацікаўленасцяў "ЛіМа".

**— А хіба ў рэдакцыі штотыднёвіка няма вадзіцеляў? — пытаннем на пытанне адказала я. — А хіба лімаўскія аўтары і чытачы — не вадзіцелі і не пешаходы? А хіба рэгуляванне дарожнага руху — гэта чыста тэхнічныя праблемы, і пры гэтым не ўзнікае мноства маральных, псіхалагічных аспектаў, хіба ў ім не прысутнічае той самы чалавечы фактар, які з'яўляецца ўжо прэрагатывай літаратуры і мастацтва?**

— Ну, чалавечы фактар, безумоўна, самы галоўны, — з ходу пагадзіўся мой суразмоўца. — Гэты самы фактар наш, бадай, найпершы боль і клопат. Адразу ж зазначу, што нашы мінчукі больш дысцыплінаваныя і выхаваныя, чым грамадзяне іншых гарадоў Беларусі і краін СНД. Колькасць загінуўшых і параненых на 100 тысяч насельніцтва і на 100 тысяч транспартных сродкаў сведчыць пра тое, што Мінск найменш аварыйны горад. Але і ў Мінску пад коламі аўтамабіляў гінуць людзі, гінуць, можна сказаць, штодня, і вельмі сумна і крыўдна, што многія грамадзяне маглі б быць жывыя і здаровыя, калі б паводзілі сябе на дарогах акуратна і дысцыплінавана, калі б былі проста выхаванымі, культурнымі людзьмі. Кожны вадзіцель і кожны пешаход павінны самі сябе дысцыплінаваць і кантраляваць. Без гэтага адчування адказнасці, без такога душэўнага стрыжня ў людзей, якія выходзяць і выязджаюць на дарогу, інспектар ДАІ мала што зробіць, ён будзе бяссільны.

Вось вам нядаўні прыклад. Вадзіцель аўтобуса з чацвёртага аўтапарка разам з дыспетчаркай ноччу выязджаюць на кальцавую дарогу: выязджаюць так, як быццам на дарозе няма нікога і не можа быць. А па кальцавой якраз на вялікай хуткасці імчалася "іншамарка", і не сутыкнуцца з аўтобусам яна не магла. У выніку — двое гінуць. І пра якую культуру паводзін, увогуле пра элементарную выхаванасць тут можна гаварыць, калі высвятляецца, што і вадзіцель аўтобуса, і дыспетчарка былі п'яныя?

Другі нядаўні прыклад ДТЗ з трагічным зыходам. Тут віною быў п'яны пешаход, які ішоў, хістаючыся, па праезджай частцы праспекта Машэрава. І "дахістаўся" да таго, што вадзіцель не паспеў, не мог затармазіць. У выніку адзін пацярпеў фізічна, другі — маральна: доўга будзе насіць у душы няхай сабе толькі і ўскоснае адчуванне віны.

Я перакананы, што менавіта па прычыне ўнутранай бескультурнасці вадзіцеляў і пешаходаў грамадства наша траціць на дарогах столькі людскіх жыццяў, колькасць якіх сапраўды можна сувымяраць з колькасцю ахвяр той самай "афганскай вайны" (калі браць пагадовыя страты).

**— Да гэтай звыклай, заезджанай (праз тое яшчэ больш страшнай) тэмы — п'янства — даводзіцца звяртацца заўжды, пра якую б сферу нашага жыцця не зайшла гаворка. І паўсюль вынікі п'янства — трагічныя. Але найбольш відавочнае злачынства — гэта п'яны за рулём. Зводкі ДАІ — гэта сухія, як кажуць, лічбы: 1 загінуў, 2 паранены, ці: 3 загінулі, 5 паранены... А калі ўдумацца? Дзеці засталіся без бацькі (а то і без маці), бацькі страцілі адзінага сына... Якія вы меры прымаеце да п'яных за рулём? Мо варта зрабіць іх больш жорсткімі?**

— Да п'яных вадзіцеляў мы прымаем самыя жорсткія меры. Як правіла, гэта пазбаўленне правоў на кіраванне транспартам. Незалежна ад таго, ці гэта вадзіцель прыватнага аўтамабіля, ці вадзіцель арганізацыі альбо прадпрыемства. Апошнім дастаецца яшчэ больш: яны пазбаўляюцца тым самым работы, пры гэтым, на жаль, пакутуе і сям'я такога гора-вадзіцеля. Ну, а калі наступствы п'янай язды трагічныя, тады, само сабою, заводзяцца і крымінальныя справы, і стан ап'янення пры гэтым — зусім не аблягчальная акалічнасць.

Мы пра гэта гаворым штораз, пры кожным зручным і нязручным выпадку, хачу нагадаць і цяпер, праз вашу газету: гарэлка — злейшы вораг дарогі! Нават невялікая доза алкаголю мяняе арыентацыю чалавека, ягонае ўспрыманне рэчаіснасці, у тым ліку хуткасці, адлегласці. У п'янага вадзіцеля губляецца ўвага, няправільна ацэньваецца сітуацыя, падкрадваецца неўпрыкмет абыякавасць, апатыя. Як бы добра было, каб людзі назаўсёды пазбавіліся фальшывага самападману, што, маўляў, трошачкі алкаголю — гэта не бяда, ад гэтага тыя самыя ўвага і хуткасць ацэнкі сітуацый абвастраецца. Няпраўда гэта! Няпраўда і яшчэ раз няпраўда! Толькі — прытупляецца і змяншаецца! Адназначна!

**— Анатоль Мікалаевіч, памятаю, колькі гадоў назад у Мінск прыязджаў нейкі паліцэйска-дарожны чыноўнік з ФРГ, і ён ці не ў "Вячэрнім Мінску" гаварыў, што быў здзіўлены адной акалічнасцю: маўляў, у сталіцы Беларусі вадзіцелі ездзяць куды хутчэй, чым у Боне ці Берліне. Меў рацыю той немец?**

— Бадай што, меў. Парушальнікаў хуткаснага рэжыму ў горадзе, на жаль, нямала. Дазволена 60 кіламетраў у гадзіну, дык і трымайся гэтага правіла — не больш за 60! А едуць жа і з хуткасцю 80 кіламетраў у гадзіну, і 90, і нават усе 100. Парушальнікаў мы бязлітасна караем адміністрацыйна, але, мусіць, гэтага недастаткова. Самых злосных, як кажуць, будзем у дадатак накіроўваць на пераэкзаменоўку, на пераздачу правілаў дарожнага руху. Апошнім часам гэтая праблема асабліва абвастрылася. Праблемы ствараюць найперш так званыя "новыя" беларусы і іншыя "крутыя". Калі яны лічаць, што, займеўшы лішнюю капейчыну, узялі Бога за бараду, дык глыбока памыляюцца. Правілы дарожнага руху — для ўсіх адны, іх павінны выконваць аднолькава ўсе. З "новымі" ўзніклі і іншыя праблемы. Скажам, ліха што навешваюць-начэпліваюць на свае машыны, таніруюць шкло да чарнаты, быццам для іх не існуе ДАСТу: святлопрапускальнасць — 70 працэнтаў, зацямненне — 30 працэнтаў, і не інакш, бо пры іншых параметрах машына не пройдзе тэхагляду. Ну і, само сабою, "новыя" занадта злоўжываюць дынамічнасцю сваіх "іншамарак": зрываюцца, як шалёныя, з месца, палохаючы і пешаходаў, і нармальных вадзіцеляў, і імчацца па горадзе, таксама як ачмурэлыя, хоць хуткасць у Мінску вызначана, як я ўжо казаў, 60 кіламетраў у гадзіну і не больш.

**— Кажуць, што колькасць аўтамашын у краіне, у тым ліку, і мо найперш, у Мінску апошнім часам расла і расце ў геаметрычнай прагрэсіі. Ну, а хто ж падрыхтаваў столькі вадзіцеляў? Ці не беспадстаўныя чуткі пра тое, што вадзіцельскія правы можна купіць, скажам, на той жа Камароўцы за некалькі соцень долараў? Асабіста я не люблю чутак, але ж міжволі пачынаеш верыць, калі на ўласныя вочы бачыш, назіраеш, як калегі-вадзіцелі ну зусім не прытрымліваюцца правілаў руху. Дык мо яны іх проста не ведаюць? Мо вадзіцельскія правы яны проста купілі?**

— Ну, вы гэтак дарма! Школы і курсы, а іх стала куды больш, чым было, у апошнія гады працуюць надзвычай інтэнсіўна, яны рыхтуюць вялікую колькасць вадзіцеляў самага рознага профілю і спецыялізацый. Менавіта там, у самых розных СТК праходзяць будучыя вадзіцелі навучанне з наступнай здачай экзаменаў у ДАІ. Гэты шлях праходзяць і "новыя", і старыя, і зялёныя, і чырвоныя — усе. А калі хто і купляе правы недзе на Камароўцы ці ў іншым месцы, дык толькі — да першай праверкі, бо фальшывыя дакументы вызначыць сёння няцяжка, хоць, пагодзімся, і робяцца яны часам досыць прафесійна.

**— Анатоль Мікалаевіч, многія вадзіцелі скардзяцца на тое, што апошнім часам не стала магчымасці прыпыніцца ля магазіна, бальніцы, рынка — усюды знак "Стаянка забаронена". Адведзены месцы для платных парковак, аднак тыя, што збіраюць грошы за права паставіць машыну, адказнасці за яе захаванасць не нясуць. Каму можа падабацца такі сервіс?**

— Праблема паркоўкі ўзнікла сапраўды апошнім часам, у сувязі з рэзкім павелічэннем колькасці машын у горадзе. Мы стараемся, каб Мінск меў нармальную прапускную здольнасць, каб не было аўтазатораў, каб людзі маглі ў час прыехаць на работу і з работы. А ў нас што атрымліваецца? Многія гатовы паставіць (і ставяць!) свой аўтамабіль абы-дзе, нават на аўтобусным прыпынку ці на зялёнай зоне, на тратуары. Пытанне паркоўкі, паўтару, вельмі актуальнае. Вымушаны строга караць парушальнікаў: пакінутую ў забароненым месцы аўтамашыну аўтаэвакуатар прымусова адбуксіроўвае на штрафную пляцоўку. Дзеля прыкладу назаву такія мінскія магістралі, як праспекты Скарыны, Машэрава і Партызанскі. На іх мы абмежавалі стаянкі і прыпынкі аўтатранспарту па адной прычыне — там павінны працаваць тры паласы руху ў абодвух напрамках. Для стаянак ёсць прылягаючыя вуліцы і завулкі, а таксама спецыяльныя месцы адстою і стаянкі. Хацеў бы папярэдзіць кіраўнікоў розных камерцыйных прадпрыемстваў, фірм і арганізацый: не скупіцеся на абсталяванне гасцявых стаянак, не прымушайце сваіх кліентаў і кампаньёнаў ставіць машыны ў недазволеных месцах і тым самым парушаць правілы. Мы не можам дазваляць паркоўку, калі ў выніку гэтага праезджая частка вуліцы звужаецца да мінімуму і ўтвараюцца пробкі і заторы. Вельмі хацелася б, калі самі вадзіцелі, а таксама кіраўнікі дзяржаўных і розных адкрытых і закрытых прадпрыемстваў зыходзілі з таго, што горад — гэта вялікая грамадская ячэйка, у якой усе роўныя і ўсе павінны прытрымлівацца аднолькавых норм і правілаў, і не толькі пісаных, але і няпісаных, калі чалавек розумам, душою разумее, што можна, а што няможна. Мы ўсведамляем важнасць праблемы паркоўкі і разам з гарвыканкамам шукаем шляхі яе вырашэння.

**— Мо няёмка пра гэта гаварыць, але ўсё ж скажу. Многія вадзіцелі проста-такі баяцца аўтаінспектараў, прынамсі, настроены так, што лепш бы з імі не сутыкацца, бо, маўляў, можа прычапіцца да любой дробязі, аштрафаваць ці нават адправіць на пераэкзаменоўку. Не баяцца аўтаінспектара, маўляў, толькі "крутыя", у якіх у тэхпашпарце заўсёды ляжыць напагатове зялёненькая паперка. Анатоль Мікалаевіч, ці ёсць падставы для гэтай боязі? Ці былі выпадкі, калі вашых службоўцаў парадку лавілі за руку?**

— Я не буду абяляць усіх, так бы мовіць, стопрацэнтна, супрацоўнікаў службы ДАІ сталіцы. Яны не анёлы, яны гэтакія ж, як і ўсе астатнія нашы людзі. Таму, пэўна, можна пагадзіцца з прымаўкай "дыму без агню не бывае" і ў дачыненні да нашага брата. І ўсё ж, калі ўжо па ўсёй шчырасці, гэта, мне здаецца, у мінулым. Была такая непрыемная для нас хваля ў 1993—94 гады, калі мы вымушаны былі сур'ёзна заняцца выпадкамі хабарніцтва. Пакаралі тады досыць шмат нашых людзей, многіх проста, груба кажучы, пагналі з работы. Хочацца верыць, што тая навука пайшла на карысць. Сёння мне не хочацца грашыць на сваіх супрацоўнікаў. У нас створана служба ўласнай бяспекі, якая аператыўна працуе ў якасці службы прафілактыкі хабару — назавём яе гэтак. Выпадкаў пабораў з вадзіцеляў гэтая служба апошнім часам не выяўляла, і мне хацелася б верыць, што іх сапраўды няма. Тым не менш, я заўсёды не прамінаю нагадаць сваім падначаленым: што пакаранне за такія ці падобныя ўчынкі будзе самае суровае, законнае. А закон у гэтых адносінах — жорсткі. Таму хай выбіраюць — ці тыя няшчасныя 10 долараў, ці турма; ці прывід багацця, ці нармальная праца, на якую цябе наняла дзяржава і плаціць за гэта неблагія па сённяшнім часе грошы, абувае, апранае ды яшчэ ў дадатак надзяляе і пэўнымі льготамі. Праз вашу газету таксама папярэджваю: хто пападзецца на хабары ці на іншым злоўжыванні — хай не крыўдуе.

**— Анатоль Мікалаевіч, а як сёння служба ДАІ забяспечана тэхнічна, каб надзейна, скажам так, кантраляваць бяспеку руху?**

— Сёння, дзякаваць Богу, а найперш нашаму міністру, мы тэхнічна "ўзброены", бадай, як ніколі. Маем на сённяшні дзень 45 "опеляў". Міністр абяцае яшчэ 15 машын. У гэтым сэнсе мы забяспечаны лепш, чым іншыя падраздзяленні МУС. Самі мы таксама не сядзім, склаўшы рукі: стараемся прыдбаць сучасныя радыёстанцыі, мігалкі на новыя машыны... Усё робім для таго, каб служба наша была на сучасным узроўні, каб любы парушальнік, як бы ён тэхнічна ні быў "падкаваны", ведаў і разумеў, што ад нас не ўцячэ.

**— А хто гэтую тэхніку эксплуатуе? Адкуль прыходзяць да вас людзі?**

— Зараз у нас вельмі строгі кадравы адбор. Ужо летась не ўзялі, як кажуць, з вуліцы аніводнага чалавека. Бо менавіта адтуль прыходзілі да нас тыя самыя п'янкі, хабар, недысцыплінаванасць. Цяпер, як правіла, бяром на працу тых, што адслужылі ў арміі. І за большасць нашых людзей я сёння ручаюся, як за людзей надзейных, правераных. Неўзабаве ў сярэдняй школе

*(Працяг на стар. 15)*

## Субота з мандалінай

... І, можна дадаць, — з аншлагам! Бо ў той вясновы суботні вечар канцэрт на Залатой Горцы наведаў шматлікі сталічны люд, замежныя госці: аматары камернай інструментальнай музыкі, фанаты мандаліны, домры ды гітары. І гарачыя прыхільнікі творчага таленту лаўрэата міжнародных конкурсаў Мікалая Марэцкага.

Памятаеце, некалькі гадоў таму ў "ЛіМе" паведамлялася пра стварэнне пры Саюзе музычных дзеячаў Беларусі Асацыяцыі дамрыстаў і мандаліністаў? Распавядалася пра імпрэзы маладой Асацыяцыі, скіраваныя на адраджэнне ў нашай канцэртнай практыцы сольнага ды ансамблевага інструмента, складніка так званых неапалітанскіх аркестраў, — мандаліны. Калісьці папулярнага на Беларусі. І аднойчы ператворанага ў аб'ект цкавання змагарамі супраць "буржуазнай мяшчанскай культуры".

Зрэшты, чаго толькі не было ў нашай гісторыі... Ды вось мандаліна вяртаецца. Прыгожа, з трыумфам! Мікалай Марэцкі, вядомы як віртуозны дамрыст, разам са сваімі спадзвіжнікамі прадстаўляў далёкую сваячку домры — мандаліну ў атачэнні самых розных інструментаў: струнных смыковых, раяля, гітары, баяна, цымбалаў, ударных... І ў розным рэпертуары: італьянскія майстры, транскрыпцыі І. Гумеля, К. Сен-Санса... О, гэты "неапалітанскі" голас мандаліны: слухаць — не наслухацца! Пяшчотны, забаўлівы піцыкато струн; вытанчаныя карункі маналогаў; вострыя рытмічныя "скарамоўкі"; шэпт і шолах; званочкавая яркасць; пачуццёвы подых трэмала... А які непаўторна арганічны, спакроўлены ў адно, дуэт мандаліны і гітары (Яўген Грыдзюшка). Асабліва — чароўныя варыяцыі на простыя, шчырыя, запамінальныя італьянскія напевы. А другое аддзяленне канцэрта, цалкам "ангажаванае" папулярным у свой час італьянскім кампазітарам Меццакапа!

Меццакапа... Так і хочацца назваць яго "Штраусам мандаліны"! Марш, серэнада. Балеро, баркарола. Канцанета, тарантэла, полька. І зноў марш. Сапраўдны карнавал мелодый, рытмаў, тэмбраў. Сапраўдны карнавал інструментаў, прадстаўленых у Камерным ансамблі Мінскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Яраслава Валасюка. Ролю "першай скрыпкі" на гэтым карнавале годна вяла першая мандаліна — Мікалай Марэцкі.

А яшчэ была на свяце музычных прэм'ер абаяльная і дасціпная чараўніца — вядучая канцэрта, музычны каментатар Іна Зубрыч. Яе вобразнае жывое слова арганічна пачувалася ў атмасферы канцэрта. Дый яшчэ давялося спадарыні вядучай на некалькі хвілінаў далучыцца да музыкантаў і выканаць у іскрыстым "Балеро" — сола... "Ударнае" сола на двух крышталёвых бакалах!



Такі вось бенефіс мандаліны атрымаўся. Можа, і кампазітары нашы звернуць увагу на новую "забытую старую" гераіню музычнага жыцця беларусаў і пачнуць пісаць для яе цудоўнага голасу, як пішуць для цымбалаў, для гітары і нават для балалайкі, — віртуозныя сольныя п'есы, канцэрты, сюіты? Колькі яшчэ нескарыстаных фарбаў, якія творчыя магчымасці!..

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў Мікалай МАРЭЦКІ.*

*Фота А. МАЦЮША*

СПАДЧЫНА

***Ядвіга Бяганская, аўтарка шматлікіх аповесцяў і апавяданняў, пісьменніца, перакладчыца, пакінула сваім чытачам бадай што цэлую бібліятэчку цікавых і добрых кніг. Але мала хто ведае, што Я. Бяганская ўваходзіла ў літаратуру як паэтка. Яна дэбютавала нізкай вершаў у 1926 годзе ў часопісе "Маладыя араты". Яе вершы поўніліся святлом, блакітам, сонцам, радасцю і верай у шчасце. Але лёс яе правёў па самых горкіх і трагічных пуцявінах. Страты родных і любых людзей, турма, лагер, здзекі... Яна вытрывала ўсё гэта і пераадолела. Потым былі кнігі, якія яна пісала дзецям, і, здавалася б, не вярталася ў сваіх творах да жахлівай памяці. Яе кнігі неслі дабро і поўніліся душэўнай дабрынёй, спагадай, сардэчнай цеплынёй. Як паэтэса, яна больш не выступала ў друку.***

***Гэта — у друку. А на самай справе Ядвіга Восіпаўна праз усё жыццё давярала самыя свае шчырыя пачуцці і думкі, глыбокія перажыванні паэзіі. І незадоўга да смерці яна палічыла патрэбным запісаць у сшытак тое, што неяк захавалася з вершаў, ацалела. Сшытак падзелены на два раздзелы: першы — "Вершы розных гадоў, якія ўдалося сабраць пасля доўгіх год майго выгнання. 1925—1930 гады"; і другі — "1938 год, Калыма. Тое вельмі нямногае, што захавалася пасля вобыскаў, якія час ад часу праводзіла ў бараках лагерная начальства".***

***Вось з вершамі з гэтага сшытка (другой яго часткі) мы і хочам пазнаёміць чытачоў. Яны пашыраць нашы ўяўленні пра Ядвігу Бяганскую — не толькі як пра пісьменніцу, але як і пра асобу, жанчыну.***

***Ядвіга Восіпаўна нарадзілася 29 лютага — у апошні дзень зімы, ці інакш, у першы дзень вясны, калі год невысакосны. Ёй выпала на раду ўсё жыццё пераадольваць, як холад зімы, пакутлівы холад чалавечых душ і саграваць словам, сэрцам, спагадаю іншых людзей - гэтым яна нагадвала сабою веснавы прамень. Яе вершы — чаканне і вера ў вясну. І добра, што яны з'явяцца да чытача якраз увесну. Гэта сімвалічна, гэта лёсава.***

**Ала КАНАПЕЛЬКА**

Ядвіга БЯГАНСКАЯ



## "Над Калымой ні воблачка, ні хмаркі..."

•

*Заходні вецер зноўку мне прынёс*
*Ад любае Радзімы прывітанне,*
*Цяпло яе зямлі, блакіт яе нябёс*
*І песню жаваранка на світанні.*
*Я чую зноў шаўковы шум бароў,*
*Удыхаю водар чабароў духмяных.*
*О, Беларусь, я плоць твая і кроў,*
*З табою сэрцам назаўжды*
*з'яднана.*

Магадан, 1938

•

*За валам коціць новы вал*
*Разбушаваная стыхія.*
*Ды не скрышыць ёй гэтых скал,*
*Што ўсталі тут, як вартавыя.*
*Грукоча мора і гудзе*
*Магутным, велічным арганам,*
*Маланкі скачуць па вадзе*
*Пад гукі перуноў-тамтамаў.*
*І мне здаецца, што вось-вось*
*Мяне падхопяць раптам хвалі*
*І панясуць у далёкі край,*
*У свае нязведаныя далі.*
*І, можа, у засветах тых*
*Нарэшце я спакой здабуду,*
*Здабуду гавань добраты,*
*Пра кайданы свае забуду.*

Бухта Нагаева, Магадан

•

К. ЧОРНАМУ ў адказ на яго ліст, які пераслала маці ў гэты далёкі Калымскі лагер.

*Дзякую за колькі вашых слоў,*
*Дзякую за памяць і спагаду.*
*Вы і не ўяўляеце сабе,*
*Як была я вашым словам рада.*
*Словы вашы, бы жывы бальзам,*
*Узнялі мой дух, вярнулі сілы,*
*Крэс паклалі роспачы, слязам,*
*Зноў паставілі мяне на крылы.*
*Зноў надзеяй поўніцца душа,*
*Зноў я веру ў светлы дзень*
*спаткання.*
*Веру, што настане ўрэшце час*
*Нашага шчаслівага вяртання.*

•

*Памёр Купала...*
*Памёр паэт.*
*У жалобе чорнай муза*
*Схіліла ля труны яго калені,*
*Яна была яго сяброўкай вернай*
*Да самага апошняга імгнення*
*І разам з ім пакіне гэты свет.*
*Памёр паэт,*
*Ды вечна будзе жыць*
*Паміж людзей яго жывое слова,*
*І паўтарацца ў пакаленнях новых*
*Парыў душы*
*І думак ясны ўзлёт.*

•

*Нарэшце і да нас прыйшла вясна,*
*Над Калымой ні воблачка,*
*ні хмаркі,*
*Бы срэбрам поўняцца, прачнуўшыся*
*ад сна,*
*Азёраў перапоўненыя чаркі.*

•

*Мне зноўку сніўся родны дом,*
*Садок у ружова-белай пене,*
*Абліччы мілыя сяброў,*
*Дачушка на маіх каленях.*
*Зноў шчасцем поўніцца душа,*
*І маладосць пульсуе ў жылах...*
*Прачнулася, барак мой спіць,*
*А заўтра зноў — сякеры, пілы,*

# Былі такія сходы...

*(Праця. Пачатак на стар. 5)*

### "НІДЗЕ НЕПАТРЭБНАЯ"

Горка ўспамінаць пра сход бацькоў тых дзяцей, якія вучыліся ў Прылуцкай сярэдняй школе. Школа дзесяткі гадоў была беларускай. Яе выпускнікі паступалі ў тэхнікумы і ВНУ, паспяхова вучыліся далей, і ніхто з іх не скардзіўся на тое, што навучанне ў беларускай школе тармазіла іх пазнейшыя поспехі.

І вось у Прылуках Ленінградскі інстытут абароны раслін узнаўляе замак графа Чапскага і адчыняе ў ім свой філіял. Прыехалі рускія вучоныя, якія і распачалі барацьбу за тое, каб школа стала рускай. Найбольш актыўна дзейнічала навуковец Старцава: збірала подпісы, ездзіла ў аблана, агітавала мясцовае насельніцтва. Яе захады маглі б паспяхова і хутка завяршыцца (тады досыць было заявы з дзесяткам подпісаў — і бывай, беларуская школа!), калі б не запратэставалі настаўнікі. Для канчатковага вырашэння пытання і быў скліканы бацькоўскі сход пад восень 1966 года.

За тое, каб у Прылуках была руская школа, выступілі Старцава і двое настаўнікаў, якія і выкладалі па-руску (дарэчы, тым з выкладчыкаў, хто не валодаў беларускай мовай, ніхто не забараняў весці ўрокі на рускай мове). Старцава даводзіла, што яе сынок не здолее вучыцца на беларускай мове, як і дзеці іншых яе супрацоўнікаў.

Абодва настаўнікі націскалі на тое, што ва ўсіх тэхнікумах і ВНУ выкладанне вядзецца на рускай мове.

Усе ж астатнія настаўнікі пераканаўча гаварылі, што школа набыла аўтарытэт як беларуская, якая дае добрыя веды навучэнцам і па рускай мове, нагадвалі пра дасягненні сваіх былых выпускнікоў, імкнуліся абудзіць пачуцці ў бацькоў як беларусаў: "Гэта ж ваша родная мова, на ёй гаварылі і гавораць вашы бацькі і вы самі, вашы дзеці..." Нарэшце яны націскалі і на тое, што ім цяжка пераключыцца адразу на рускую мову: трэба на ёй размаўляць без акцэнту, прыгожа, абсалютна правільна, а гэта — налёгка. Нарэшце выказаліся і навукоўцы, і настаўнікі, і старшыня сходу звярнуўся да бацькоў: "Трэба, каб вы сказалі сваё слова". І тут устае яшчэ досыць маладая жанчына і гаворыць: "Усё правільна, што мы выслухалі. Усё зразумела, І тое, што гэта мова нашых бацькоў і наша. Але ж яна нідзе непатрэбная. Дык няхай школа стане рускай".

І бацькі прагаласавалі за рускую школу...

### ДАШАЛЬМАВАЛІ

1988 год. Яшчэ існуе "вялікі, магутны Савецкі Саюз". Яшчэ кіруюць ЦК КПСС і ЦК КПБ. А "инакомыслящих" праследуюць калі не "органы", дык некаторыя арганізацыі, якія бяруць на сябе іх функцыі. Асабліва балюча бывае, калі бачыш, што за шчырай верай у сваю праўду, непрыкметна для саміх яе носьбітаў, хаваецца абсалютная недасведчанасць ці, што яшчэ горш, глыбока прадуманы намер любымі сродкамі адстаяць, сцвердзіць яе, гэтую сваю праўду, няхай падманам, няхай паклёпам, а то і цаной жыцця таго, хто думае інакш.

Восенню 1988 года мне пазваніў камісар нашай партызанскай брыгады Ілля Мартынавіч Фёдараў і запрасіў на прагляд і абмеркаванне фільма А. Адамовіча і Э. Клімава "Ідзі і глядзі". Гэты кінафільм ужо з год, калі не больш, дэманстраваўся на экранах кінатэатраў, пра яго шмат пісалі і гаварылі, але я неяк не выбралася яго паглядзець, і таму адразу згадзілася.

Прагляд быў прызначаны ў кіназале Музея Вялікай Айчыннай вайны. Яна была запоўнена. Інтэлігентных, дасведчаных людзей было вельмі мала. У асноўным шафёры, механікі, будаўнікі, міліцыянеры, якіх запрасілі сюды іх былыя камандзіры, людзі, якім былыя партызаны верылі і зараз, як носьбітам партыйна-дзяржаўнай мудрасці.

Я села далекавата ад экрана поруч з былым палітруком нашага атрада Айгіставым Загідам Хасанавічам. Злева сядзеў незнаёмы, яшчэ не вельмі стары былы партызан.

Прагляд пачаўся. Пасля дэманстрацыі першай серыі ўключылі святло, зрабілі перапынак. Чую воклічы: "Няма чаго далей глядзець!", "Давайце абмяркоўваць!"

Я яшчэ не разумела, што ўсё тут арганізавана, меркавала, што прысутныя з-за сваёй недасведчанасці яшчэ не ўцямілі, што, як і да чаго. Мяне ж фільм вельмі зацікавіў, і я падумала, што пасля другой серыі нешта пераменіцца ў адносінах да яго і з боку іншых гледачоў.

Адразу пасля прагляду другой серыі на сцэну падняліся старшыня Мінскай секцыі ветэранаў вайны генерал Сянчылін і супра-

*Прамерзлы лес, па пояс снег,*
*За пазухай акраец хлеба.*
*Далёка мой бацькоўскі дом*
*І Беларусі роднай неба.*

## *Дачушцы*

*Дачушка мілая мая,*
*Мая маленькая Галінка,*
*Даруй, што пры жывых бацьках*
*Ты засталася сіроцінкай.*
*Ды толькі нас ты не судзі,*
*Мы тут нічым не вінаваты —*
*Ў краіне быў жахлівы час,*
*Крывавы баль праўлялі каты.*
*Яны без жаднае віны*
*Людзей ў астрогах катавалі,*
*Ссылалі ў лагеры ў Сібір,*
*Або і проста забівалі.*
*Ў той страшны трыццаць сёмы год*
*Загінулі твой дзед і бацька,*
*На катаргу ў Калымскі край*
*Пайшла на мукі твая матка.*
*Праз ўсе пакуты я прайду,*
*Адолею і здзек,і сцюжу,*
*Каб да цябе жывой прыйсці,*
*Я ўсё перамагу і здужу.*
*Я веру, донечка мая,*
*Настане ўрэшце час расплаты,*
*За кроў і смерць сваіх ахвяр*
*Заплацяць вечнай ганьбай каты.*

●

A. S.

*Сярод жывых цябе даўно няма,*
*Сярод магіл няма тваёй магілы.*
*З расстання нашага мінула*
*столькі год,*
*А я забыць цябе не маю сілы.*
*Ты вечны боль і сум маёй душы,*
*Акорд апошні абарванай песні,*
*Ніхто не вырве з памяці таго,*
*Чым адарыў мяне ты напрадвесні.*
*Не знаю я: дзе абарваўся след,*
*Якога я нястомна так шукаю.*
*Аб тым, як не хапае мне цябе,*
*Адна я толькі на ўсім свеце знаю.*
1942

## *Dzien zaduszny*

*Накрыю стол абрусам белым*
*І запалю ў самоце свечы*
*Па тых, каго няма са мною*
*Ў асенні гэты сумны вечар.*
*Па тых, аб кім душа сумуе,*
*Каго ніколі ўжо не стрэчу —*
*Па бацьку, па сябрах, па мужу*
*Я запалю ў самоце свечы.*
1945

# Эх, дарогі, гора ды трывогі...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

міліцыі будзе адкрыты спецыяльны факультэт, які будзе рыхтаваць менавіта супрацоўнікаў службы ДАІ.

А праца наша нялёгкая, без выхадных і свят, удзень і ўначы, у дождж і ў мароз. Хацелася б, каб у грамадстве нашым памяняліся погляды на міліцыю і службу аўтаінспекцыі, каб людзі, у тым ліку і вадзіцелі, не баяліся міліцыянера, аўтаінспектара, а каб бачылі ў іх сваіх першых абаронцаў і дарадчыкаў. Мы не дарма ядзім свой хлеб. Летась мы затрымалі 113 угоншчыкаў, машыны вярнулі ўладальнікам. Спынілі 7 тысяч п'яных вадзіцеляў, па віне якіх маглі б быць новыя людскія ахвяры. І таму мы маем права на адэкватную людскую ўвагу. І калі мы патрабуем выканання тых ці іншых правілаў і законаў, дык гэта не трэба разглядаць як парушэнне правоў чалавека, а як клопат і турботу пра чалавека, пра ягонае здароўе і жыццё.

Заадно хацелася б сказаць вось пра што. Я за 20 гадоў працы ў міліцыі наглядзеўся ўсяго, і лічу, што многія законы адміністрацыйнага ўздзеяння трэба мяняць, у паасобных момантах за парушэнні правіл вулічнага і дарожнага руху варта ўзмацніць меру пакарання, ажно да турэмнага зняволення альбо да ўвядзення прымусовых работ. Дэпутаты парламента павінны неадкладна брацца за стварэнне жыццёва важных законаў, якія б рэгулявалі надзённыя людскія ўзаемаадносіны. У тым ліку і тыя, што ўзнікаюць на вуліцах і дарогах. Бо сёння тут шмат у чым пануе неразбярыха. Мяркуйце самі: угон транспартнага сродку расцэньваецца ўсяго толькі як угон, факта крадзяжу тут няма.

**— Вадзіцелю на нашых дарогах трэба заўсёды быць у напружанні, працаваць, так бы мовіць, у экстрэмальных варунках, бо кожную хвіліну можаш трапіць у выбоіну і разбіць падвеску, альбо віляць управа-ўлева, што і прыводзіць да аварый, да наездаў на пешаходаў. Ці не так?**

— Сапраўды, дарогі ў нас цяжкія. Прычыны розныя, найпершая — наш клімат, частыя перапады тэмператур, дождж і снег — самы лепшы асфальт не вытрымлівае, нават і бетоннае пакрыццё дарог служыць, на жаль, нядоўга. Не трэба скідваць з рахунка і тое, што і пракладка дарог, і рамонт іх робяцца няякасна. Як там ні было, а мы гэта разумеем і ў сваю чаргу адміністрацыйнымі санкцыямі націскаем на дарожна-эксплуатацыйнае ўпраўленне. У гарвыканкаме па нашай ініцыятыве было прынята не адно рашэнне па рамонце вуліц. Гарвыканкам дзеля гэтага кідае ўсе сілы звычайна ў красавіку, раней, калі нават і снегу няма ўжо, рамонт рабіць бескарысна. Ну, а мы разметку наносім звычайна ў канцы красавіка, калі ўжо вуліцы заасфальтаваны, ямкі і выбоіны ліквідаваны.

**— Сёння многім вадзіцелям ці ўладальнікам аўтатранспарту не па кішэні правесці тэхнічнае абслугоўванне на спецыялізаваных станцыях, кожны дагледае свайго "коніка" сам па сабе, часта толькі дзеля таго, каб прайсці агляд у ДАІ. А гэта ж таксама адна з прычын аварый на дарогах?**

— Безумоўна! Тым больш — сёння, калі з Захаду нацягана столькі аўталамачча! Многія прыгнаныя з Польшчы і Германіі машыны яшчэ ў горшым стане, чым нашы так званыя айчынныя аўтасродкі. Многія з іх не вытрымліваюць праверак на спецыяльных стэндах, не больш за 40—50 працэнтаў праходзяць тэхагляд з першага разу. Ну, а наконт беднасці, немагчымасці па-сапраўднаму падрыхтаваць машыну да эксплуатацыі, дык што тут сказаць? Любіш катацца, любі і саначкі цягаць.

**— Кажуць, што ў Расіі і краінах Прыбалтыкі дабітыя машыны ўжо проста кідаюць на дарозе, як металалом. Нам гэта пагражае? Ці мо ўжо і ў нас існуе праблема кінутых машын?**

— У Расію гэтая праблема перайшла, пэўна, ад нас. Прынамсі, мы ўжо каля тысячы кінутых каркасаў машын звезлі спачатку на стаянку, што на вуліцы Сямашкі, а пасля на металалом у Гатава. Сёння гэтую работу выконваюць нашы аўтаэвакуатары. Вядома, спачатку шукаем гаспадара. Чакаем ад яго заявы на працягу месяца. Калі ж такой заявы няма, значыць каркас аўтамашыны кінуты. Ёсць тут і другі аспект. Скажам, многія вадзіцелі ці ўладальнікі пастаяць свой аўтамабіль на праезджай частцы вуліцы на ўсю зіму, і праз гэта вуліцу ні пачысціць, ні памыць, ні падмесці. Такія машыны мы будзем адбуксоўваць на штрафныя стаянкі. На жаль, многія ведаюць свае правы, забываючыся на абавязкі, а, як вядома, першых без другіх — не бывае.

**— І апошняе пытанне, Анатоль Мікалаевіч. Ці так неабходна ўтвараць вакол Мінска "блакаднае кальцо"? Маю на ўвазе ўзброеныя пасты на ўездах і выездах, дзе хуткасць трэба зніжаць да 20 і менш кіламетраў. Неяк няўтульна адчуваеш сябе пад руляю аўтамата...**

— Зноў жа — не трэба гэтак! Ужо і пад руляю... Ды ні на каго аўтамат той не настаўляецца! А што да пастоў, дык яны — мера неабходная, хоць і вымушаная. Не трэба вам тлумачыць, колькі сёння адбываецца разбояў, грабяжоў, рабаванняў і іншых цяжкіх, а часам і страшных злачынстваў. Калі ж сітуацыя робіцца спакайнейшай, дык і аўтаматчыкі там не стаяць. Людзі нашы не дурні, яны бачаць, калі едзе сям'я ці пенсіянеры з унукамі. Да іх аніякіх прыдзірак няма і быць не можа. А вось калі за рулём сарвігаловы розныя, як цяпер кажуць, "крутыя", — да іх адносіны іншыя, іх часам і праверыць трэба, а то і аўтамат, як вы кажаце, наставіць; а сяму-таму і зусім трэба загадаць пакласці рукі на капот, ды абшукаць добранька і яго самога, і ягоную машыну. Як адшукаць пісталет, калі не абшукаць? Вы думаеце, нехта спыніцца і скажа, што ў яго пісталет ці нож? А мы знаходзім і пісталеты, і нажы, і нават тыя ж аўтаматы. А як угоншчыка затрымаць, калі не пагнацца за ім і не стрэліць па колах? Для гэтага міліцыі і выдаецца зброя, каб прымяніць яе там, дзе гэтага вымагаюць абставіны.

А ўвогуле, вядома ж, адносіны паміж вадзіцелямі і даішнікамі, міліцыяй павінны быць самыя даверлівыя і ўзаемнапаважлівыя, пра што я ўжо гаварыў. Дарэчы, пад заслону скажу пра тое, што неяк упусціў сказаць раней. Мяне абураюць паводзіны дарослых, якія парушаюць правілы дарожнага руху ў прысутнасці дзяцей. Такіх бацькоў я б караў асабліва строга. Бо ў каго вучацца дзеці? Найперш у бацькоў, на іх гледзячы. А дзеці заўтра, паслязаўтра сядуць за руль аўтамашыны. Ужо сёння сядаюць. Ніколі, бадай, не было за рулём аўтамабіляў, прытым хуткасных, сучасных, столькі маладых людзей, як сёння. На жаль, паводзіны многіх з іх выклікаюць вялікую заклапочанасць, вельмі сур'ёзны непакой. Сярод парушальнікаў дарожнага руху надзвычай вялікі працэнт менавіта маладых, а то і зусім юных вадзіцеляў.

Дарога — гэта не паркавая алея. Памятаеце песню пра франтавыя дарогі? Спяваецца там пра пыл ды туман, халады і трывогі, пра тое, што дарога дыміцца і клубіцца... Мірная сённяшняя дарога не дыміцца, не клубіцца, і бомбавых варонак на ёй няма, але пыл ды той самы туман, снег і дождж, холад і спякота на ёй засталіся. Засталіся і трывогі, бо дарога — гэта заўсёдныя нечаканасці, шматлікія сюрпрызы, і, на жаль, не заўсёды прыемныя. Сённяшняя дарога — гэта хуткасць, імклівасць перамяшчэння, а яны звязаны не толькі з камфортам і зручнасцю, але і з небяспекаю. І чым гэтая хуткасцю большая, тым большая небяспека непрыемнасцяў. Значыць, дарога вымагае заўсёднай увагі і сканцэнтраванасці. Не толькі хуліганіць, а і сваволіць, дурэць на дарозе і ў дарозе нельга. У дарозе і на дарозе, само сабою, і на вуліцах, можна і трэба адно: як мага строга прытрымлівацца правілаў і нормаў дарожнага руху. Тады ў тых, хто застаўся дома, будзе меней трывогі за лёс выпраўленых у дарогу, тады дарога не будзе прычынаю чалавечай бяды і гора...

**— Дзякуй, Анатоль Мікалаевіч, за гутарку!**

**Марыя МІХАЙЛАВА**

цоўнік музея. Сянчылін ад пачатку да канца распачатага спектакля прасядзеў моўчкі, нерухома, манументальна. Вёў рэй музейны супрацоўнік: "Дык вось, таварышы, мы былі гатовыя да абмеркавання (падрыхтавана прыкладна 5-6 чалавек) адразу пасля выпуску фільма на экран. Але Адамовіч тады прысутнічаць не захацеў. І вось мы сабраліся зноў, каб выказаць свае адносіны да таго, што нам паказваюць на экране. Гэта вельмі важна: фільм Адамовіча прадстаўлены на Ленінскую прэмію..."

(Воклічы ў зале: "Якую яшчэ прэмію?! За гэту лухту — прэмію? На звалку, а не на прэмію!")

Супрацоўнік музея, счакаўшы, працягваў: "Хто жадае выступіць?" На трыбуну выходзіць першы прамоўца: "Я павінен прама сказаць, што гэта фільм антысавецкі, антынародны. У ім гераічны беларускі народ паказаны як нейкае быдла". Другі прамоўца: "Гэта хлусліві фільм. У Беларусі было 300 тысяч партызан, і дзе гэта бачана такое, каб маці, пагражаючы сякерай, забараняла сыну ісці ў партызаны?" (Мужчына, які сядзеў поруч са мной, ціха мне кажа: "Чаму не было? Было! За мной маці, плачучы, з качаргой праз усю вёску бегла. Сям'і ж якая пагроза была!") Трэці прамоўца: "Дзе вы бачылі, каб партызаны сякерай секлі мяса? Каб у далоні даілі каровы? Ці такія мы былі счарнелыя, брудныя, зарослыя? А гэта дзеўка ў імпартных боціках... Хто з партызанак меў такія?!" (Я слухаю і думаю, успамінаю. Я ж сама бачыла і ўчарнелых, і зарослых юнакоў у час блакады, і тое, як яны, згаладнелыя, натрапіўшы ў лесе на карову, даілі яе, цыркаючы малако ў жмені, каб глынуць якую кроплю. Нахіляюся да палітрука і шапчу: "Загід Хасанавіч, успомніце нашу сувязную Паліну, яна ж хадзіла ў вельмі прыгожых чырвоных боціках"... Ён мне: "Ага, ага, Паліна...".

Наступны прамоўца ўжо наогул нясе зусім абсурдную лухту: "Ведаеце, ёсць такі пісьменнік Маркаў, што напісаў раман "Сібір". А ведаеце, хто купіў гэты раман? Японія купіла, яе, бачыце, Сібір цікавіць, ёй гэты раман наруку. А хто купіў фільм Адамовіча? ФРГ купіла, каб з нашага народа пакпіць!"

Слова даюць прафесару Залескаму, і ён ужо грунтоўна, як быццам доказна гаворыць слухачам пра значэнне кіруючай ролі партыі ў развіцці партызанскага руху і недапушчальнасці таго, што Адамовіч не паказаў гэтага ў фільме, і ацэньвае фільм як "злосны паклёп на нашу савецкую рэчаіснасць".

Мне ўсё стала відавочна: гэта яўна арганізаванае шальмаванне, але павінен жа хоць нехта, няхай адзін, сказаць нешта ў абарону пісьменніка і фільма? Цікава, што ўсе выступоўцы ні разу не ўспомнілі Клімава. Гаворка канцэнтравалася выключна вакол Адамовіча. Я папрасіла слова, хоць разумела, што мне гаварыць не дадуць.

— Хто вы? Прадстаўцеся. Вы гісторык?

— У мінулым партызанка. Зараз — філолаг.

Насцярожана прыціхлі.

— Пасля вашых зняважлівых, бяздоказных выпадаў у адрас слыннага вучонага і пісьменніка, які з такім веданнем і глыбокай любоўю пісаў пра партызан...

(Воклічы: "Не характарызуйце нам Адамовіча! Ведаем мы яго любоў!")

Я ўсё ж намагаюся сказаць нешта яшчэ: "яго застаецца толькі неадкладна судзіць, а то мо і без суда..."

(Воклічы: "Хопіць! Далоў!"

Я: "Ён жа ў гэтым фільме выявіў звярыную антычалавечую сутнасць фашызму".

(Воклічы: "Далоў!")

Махнуўшы рукою, я сыходжу з трыбуны, а ўслед чую жаночы вісклівы голас: "Гэта не партызанка, а выраджэнка!" Здаецца, крычала журналістка Бумажкова.

Супрацоўнік музея: "Можна падвесці вынікі. Мы мяркуем: пасланы матэрыялы абгаварэння ў Камітэт па Ленінскіх прэміях і ў ЦК КПСС і ЦК КПБ. Хто за?" Лес рук, я адна супраць. Супрацоўнік: "Мяркуем асвятліць абмеркаванне ў друку". Зноў — лес рук.

Калі я выходзіла, у дзвярах стаялі два маладыя незнаёмыя хлопцы. Яны нечакана пакланіліся мне, а адзін з горыччу сказаў: "Ды хіба ім што дакажаш!" Мяне ў фае акружылі партызаны нашага атрада. Так, яны паверылі ўсім выступоўцам, акрамя мяне, яны прагаласавалі за прапановы, але ўсё ж не паверылі ў тое, што я "не партызанка, а..." Спачувальна праводзілі мяне да метро. Хацелася ім сказаць: "Не спачувайце мне, мужчыны. Я знала, што так будзе, калі ішла да трыбуны. Яны ж не мяне зняважылі, а сябе перад беларускай культурай, перад праўдай. Пройдзе не так і шмат часу, і вы, ну, можа, не ўсе, але многія з вас, зразумееце, чыя тут была праўда".

"Інфармацыю" аб праглядзе дала ў часопісе "Политический собеседник" (N 1 за 1989 г.) згаданая мною Бумажкова. Артыкул яе меў з'едлівую назву "Барьер политической слепоты". У аўтара артыкула, безумоўна, палітычная зоркасць, а вось палітычная слепата — гэта ў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Бумажковай не спадабаўся артыкул Быкава "Дубинки против гласности", надрукаваны ў часопісе "Огонёк", і яна абвінавачвае пісьменніка: "Что можно... сказать? Все те же передергивания фактов, шельмование. Все та же позиция". А вось і выказванні ўдзельнікаў апісанага мною абмеркавання: "А. І. Улажэвіч, партызан роты аўтаматчыкаў брыгады "Жалязняк": "Такіх звыродлівых партызан, якія паказаны ў фільме, мне не даводзілася сустракаць за ўвесь час вайны..." (Я вышэй знарок не называла прозвішчы выступоўцаў, шануючы іх дзяцей ды і саміх іх, зараз называю тыя, якія абрала Бумажкова). "А. В. Львоў, камандзір 37-ай партызанскай брыгады імя А. Пархоменкі: "Назаву рэчы сваімі імёнамі. Гэта не фільм аб усенародным партызанскім руху ў Беларусі, гэта пародыя, пасквіль на гэты рух"; "Л. П. Пашкевіч, партызан атрада "За Айчыну" брыгады "Штурмавая": "Гэта злосная карыкатура на савецкага партызана".

І ўсё. Ні опусаў пра "Сібір" Маркава, ні вытрымкі з прамовы Залескага тут, вядома, няма. Ды і навошта тут прафесар? Ён патрэбны быў на абгаварэнні, каб падмацаваць перад слухачамі выкладкі менш дасведчаных камандзіраў. Можна нават выраз Залескага прыпісаць міліцыянеру Пашкевічу. Хіба ж гэта "перадзержкі"? Не, перадзержкі — гэта ў Быкава...

Прайшло некалькі гадоў. Сэрца Адамовіча, надарванае не столькі вялікай творчай і навуковай работай, колькі балючымі і атрутнымі ўкусамі зласлівых нядобразычліўцаў, не вытрывала і спынілася. Жалоба ахінула Беларусь. Журботна схіляліся перад ягонай памяццю ўсе перадавыя людзі Савецкага Саюза. Журботна схіляўся перад памяццю свайго вернага і таленавітага сына беларускі народ. Якраз тады ішла чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, і спікер прапанаваў дэпутатам устаць і ўшанаваць памяць знакамітага пісьменніка і грамадзяніна хвілінай маўчання.

Я глядзела на гэта, седзячы ля тэлевізара, і раптам убачыла, як устаў і застыў у хвіліне маўчання той, манументальны, што восенню 1988 года блаславіў апісаны мной шабаш па шальмаванні Алеся Адамовіча.

**Ларыса КАРОТКАЯ**

*г. Мінск*

КРАЙ

# Блонь — імя літаратурнае

Чытаем у "Кратком топонимическом словаре Белоруссии" В. Жучкевіча: "Блонь... — сс. Борисовского и Пуховичского р-онов. Название-термин: б л о н ь — заливной луг, низкая часть поймы. В качестве термина слово было широко распространено... От него же фамилия Блонский и термин з а б о л о н ь, з а б о л о н ь е".

Няхітрая і разам з тым прыгожая, выразная назва ў пухавіцкай вёскі, гісторыя якой сягае ў даўніну сваіх стагоддзяў.

Асобная старонка ў лёсе Блоні — яе літаратурная гісторыя. Вёска, што знаходзіцца непадалёку ад Мар'інай Горкі, пакінула свой след у жыцці і творчасці Якуба Коласа. Пра Блонь — у дзённіку народнага песняра "На схіле дзён": перад выбарамі Колас ездзіў на сустрэчу з выбаршчыкамі на Палессе і спыняўся ў Блоні.

Блонь — гэта і адмеціна ў лёсе Адама Ягоравіча Багдановіча, бацькі М. Багдановіча. Калі гаварыць пра сучасную, блізкую літаратурную біяграфію Блоні, то варта згадаць імя крытыка, літаратуразнаўцы, педагога, паэта Міколы Мішчанчука. Ён неаднойчы пісаў пра блонскіх настаўнікаў.

Адметнасць блонскай літаратурнай гісторыі — судакрананне з вёсачкай лёсу рускага пісьменніка Яўгена Чырыкава. Як вядома, у Блоні ў 1899—1908 гадах дзейнічала сялянская арганізацыя. Яшчэ раней — з 1881 года — гаспадары маёнтка народнікі А. Бонч-Асмалоўскі і яго жонка В. Бонч-Асмалоўская (Вахоўская) вялі сярод сялян рэвалюцыйную дзейнасць. Пасля стварэння Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі агітацыйна-прапагандысцкая работа ўзмацнілася. Дапамагалі Бонч-Асмалоўскім у гэтым клопаце муж і жонка С. Клячко і Л. Клячко-Радзівонава, якія ў 1896 годзе пасяліліся ў Пухавічах.

У 1898—1899 гадах у Блонь наведваліся і падоўгу жылі Кацярына Брэшка-Брэшкоўская (між іншым, не толькі славутая рэвалюцыянерка, але і публіцыстка, маці рускага пісьменніка Мікалая Брэшка-Брэшкоўскага), марксісты С. Мяржынскі і П. Румянцаў. Дарэчы, не выключана, што ў Блонь наведвалася Леся Украінка. Яна, як вядома, тройчы прыязджала на Беларусь да Мяржынскага, прысвяціла яму шмат вершаў, некалькі паэм.

Быў госцем блонскіх памешчыкаў-рэвалюцыянераў і рускі пісьменнік Я. Чырыкаў (1864—1932). У "Нарысах па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей" пра "беларускасць" вядомага па тым часе празаіка і драматурга сказана даволі сціпла, "Часта бываў на Беларусі ў пачатку XX ст. адзін з вядомых тагачасных рускіх празаікаў Яўген Чырыкаў". І яшчэ: "Значныя грамадскія зрухі, што адбыліся ў пачатку XX ст., спрыялі развіццю цікавасці да асобы селяніна. У гэты час у рускай прозе з'явіліся такія арыгінальныя творы пра сялянства, як раман "Год" В. Муйжаля, аповесць "Мяцежнікі" Я. Чырыкава, "Суходол", "Вёска" І. Буніна..."

Магчыма, нават хутчэй за ўсе "Мяцежнікі" (твор упершыню выдадзены ў 1906 годзе) Я. Чырыкаў напісаў на блонскім матэрыяле. Сем гадоў пражыў Яўген Мікалаевіч на Беларусі — у вандроўках з Мінска ў Блонь. Гэта ў 1895—1902 гадах. Якраз да гэтых гадоў адносяцца яго аповесці "Раннія ўсходы", "Інвалід", "Чужаземцы".

У лістападзе 1898 года ў Мінску было створана Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Зноў жа ініцыятарам яго заснавання з'явіўся Я. Чырыкаў і старшы рэвізор акцызнай управы А. Аляксандраў. Адна з першых акцый таварыства — святкаванне пушкінскіх дзён, а ў іх праграме — і пастаноўка аматарскіх спектакляў па творах Пушкіна "Паненка-сялянка" і "Станцыйны наглядчык". Збор ад іх ахвяраваўся пагарэльцам павятовага горада Ігумен, які ў 1899 годзе агонь спапяліў датла. Выдаткі ад страшэннага пажару склалі цэлы мільён рублёў (па тым часе, зразумела).

У рамках дзейнасці таварыства Я. Чырыкаў чытаў лекцыі, прысвечаныя юбілеям вялікіх пісьменнікаў. У рабоце прымалі ўдзел і іншыя блонскія знаёмцы — С. Мяржынскі і С. Кавалік. І, канечне ж, — сам А. Бонч-Асмалоўскі. Шмат што яднала гэтых людзей. Мо нават і асаблівы лірызм тых мясцін, дзе яны неаднойчы бывалі, — вірлівая Цітаўка і прыгожы парк, сляды ад якога захаваліся і па сённяшні дзень, як і дом Бонч-Асмалоўскіх, дзе зараз месціцца музей.

Пэўна, якраз у Блоні адбылося знаёмства Я. Чырыкава з А. Багдановічам. Пасля ўжо рускі пісьменнік звёў бацьку М. Багдановіча з Максімам Горкім.

Асноўная тэматыка ў творчасці Я. Чырыкава — жыццё правінцыяльнай інтэлігенцыі. Пра гэта гаворыцца і ў яго аўтабіяграфічным рамане з чатырох кніг "Жыццё Тарханава" (1911—1925). Безумоўна, Блонь, яе насельнікі шматгранна і шматвобразна прысутнічаюць у кнігах Я. Чырыкава. У 1910—1916 гадах у Маскве быў выдадзены яго 7-томны Збор твораў.

Доўгі час імя гэтага рускага пісьменніка, жыццё і творчасць якога цесна звязаны з Блоннем, Мінскам, увогуле з Беларуссю, замоўчвалася. Прычыны на тое даволі простыя. З 1920 года Яўген Мікалаевіч — у эміграцыі. У 1926 годзе выдае раман "Звер з бездані". Хаця і прасякнуты гэты твор антысавецкімі тэндэнцыямі, у ім паказаны распад, развал белай арміі. Жыццё, лёс Я. Чырыкава прыпалі на пераломныя гады і дзесяцігоддзі. Выйсце ён спадзяваўся знайсці ў эміграцыі. *Ці знайшоў? Які след застаўся ў Айчыне?* Рэдкія згадкі ў гісторыка-літаратурных даведніках — і ўсё, лічы... Праўда, у 1961 годзе выйшаў аднатомнік "Повести и рассказы".

На Беларусі, мо нават у Блоні ў памяць пра Я. Чырыкава магла б быць мемарыяльная дошка. Магла б быць.. А сёння, пакуль што па-ранейшаму Я. Чырыкаў і напісаны ім у Беларусі кнігі — амаль невядомая старонка ў гісторыі беларуска-расійскага літаратурнага пабрацімства.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Філанізмы

Першым біёграфам Дуніна-Марцінкевіча быў Асташонак, які напісаў оперу "Камедыянт".

Ён друкуе сваю оперу "Лібрэта".

"Ідылія" — гэта лебрэнда оперы.

"Ідылія" напісана на беларускай мове ў якасці лібрэта для сялян і на польскай для шляхціцаў.

Тут Дунін-Марцінкевіч імкнецца раскрыць паэтычныя сучаснасці і гістарычнасці.

Дунін-Марцінкевіч стварае ідэал шляхціца высакароднага, прагнага да радзімы.

У "Пінскай шляхце" паказана юрыдычная праблематыка.

"Пінская шляхта" — гэта паэма.

У "Пінскай шляхце" быў Пілсудскі.

Шляхта падгібала пад сябе сялян.

Збяднелая шляхта — гэта больш, чым сяляне, і менш, чым паны.

Яны рукамі і зубамі трымаліся за шляхецкае званне.

---

*Працяг. Пачатак у № 13.*

Каб казацца больш злосным для сялян, ён ставіць адзін вус угару, другі ўніз.

Гэты герой вельмі гумарны.

"Пінская шляхта" была выдадзена двума выданнямі: на польскай і беларускай мовах, а мовай арыгінала з'яўляецца польская мова.

Адзінае, што ў яго ёсць, — шмат золата. Гэтую слабасць Сабковіча і выкарыстаў Дунін-Марцінкевіч.

У "Залётах" Дуніна-Марцінкевіча праяўляецца рэалістычная тэндэнцыя ў тым, што жаніцца маглі толькі прадстаўнікі аднаго саслоўя.

Дунін-Марцінкевіч не разумее сваіх герояў і высмейвае іх.

Для Каліноўскага характэрна фальсіфікацыя поглядаў.

З самага пачатку Каліноўскага некуды паслалі.

Калі Каліноўскі быў у турме, ён напісаў свой надмагільны надпіс.

Магіла Каліноўскага ў Любліне.

Пасля паражэння паўстання К. Каліноўскі не эмігрыраваў, а прыняў шыбеніцу.

Каліноўскага павесілі на шыбе.

Вядома, што ў Каліноўскага быў такі працаўнік Мураўёў.

Каліноўскаму здрадзіў Вітажэнец.

Каліноўскі змагаўся супраць русізмаў.

"Мужыцкая праўда" — ананімны твор Ф. Багушэвіча.

Ф. Багушэвіч друкаваў свае артыкулы ў "Мужыцкай праўдзе".

Зборнік "Смык беларускі" з'яўляўся найбольш каларыйным зборнікам.

Кніга выйшла з-пад псеўданіма Мацей Бурачок.

У яго зборніках вырашаюцца нацыянальна-праблематычныя праблемы.

За ўдзельніцтва ў розных агітацыйных работах Ф. Багушэвіч меў таксама нянавісць са стараны паліцыі.

Ф. Багушэвіч крэмзае пяром па паперы.

Ён памёр у адным сяле, а яго труну сяляне перанеслі ў другое сяло.

Гурыновіч прызывае мужыкоў сабрацца разам і прынесці на зямлю дождж свабоды.

Верш Я. Лучыны "Што думае Янка, везучы дровы ў горы".

У "Тарасе на Парнасе" ёсць праблема ежы (героі вельмі хочуць есці).

---

Вобраз пажарышча Купала вельмі любіў.

З'ява паўторнасць фанем была ўласціва для Багдановіча.

Нацыянальная праблематыка распранання Быкоўскага.

Паўліна Мяцёлка.

Апавяданне цікавае тым, што ў ім З. Бядуля выкарыстоўвае розныя мастацкія прыёмы. Ён падрабязна апісвае тое, як Аўгіння пячэ бліны.

Наталька забівае Машэку, таму што яна, жыўшы ў раскошы, не хоча пераходзіць у беднае становішча.

Забойствы назаўсёды прыліплі да душы Машэкі і высасывалі з яе апошнюю дабрыню.

К. Каганец быў з гарбом і доўгімі рукамі.

Потым аўтар расказвае пра розныя містычныя фігуры. Такія як лясун і русалка, што яны робяць і як пугаюць людзей.

Пан Быкоўскі ўвасабляе сабой немаведама што.

Я лічу, што пад словам "мора" Цётка мае на ўвазе народ, які да такой ступені узбудзіўся, што ўжо не можа супакоіцца.

Цётка даказала, што беларускае мастацкае слова з'яўляецца адным з самых небяспечных спосабаў змагання за нацыянальную свабоду.

Колас спрабуе ўзбудзіць чалавечую годнасць беларуса менавіта праз хмаркі.

У Купалы пейзаж псіхічны.

У аснове паэмы ляжыць балада пра дзяўчыну Бандароўну, але пад націскам патрабаваннняў эпохі твор набывае гераічны характар.

Ён накіраваў нашую літаратуру на гэты шлях і звязаў яе з народам.

Якуб Колас жыў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая знаходзілася пад уладай Польшчы згодна Дагавору аб раздзеле Рэчы Паспалітай 1795 г.

Увогуле ў сваіх рамантычных творах ён імкнуўся абагнуць усе жорсткія канфлікты.

У гэтым вершы ідзе пошук суб'екта гісторыі сумнай нацыі.

У Багдановічу зайграла кроў, якая перадаецца ад бацькі да сына і якая не можа знікнуць.

Гусляр — стары. Яму не жаль пакідаць свет.

Як і мне, так і Купалу засталася ад продкаў перш спадчына духоўная.

**Запісала**
**Люба ТАРАСЮК**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 3.4.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1830/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12